Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 5 жніўня 1988 г. № 32 (3442) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

Фальклорна-этнаграфічны калектыў саўгаса імя Чапаева Івацэвіцкага раёна. На пярэднім плане — народныя ўмельцы Віктар Мікалаевіч Мігна і Тодар Гаўрылавіч Пракаповіч.

Фота А. ШАБЛЮКА.

 

занне следчым НКУС даваць у дзень адно-два «выкрыцці», а *калі яны гэтага не зробяць*, то трэба паглядзець, ці не з'яўляюцца яны самі ворагамі народа. Гэта была рэальная пагроза. Многія сумленныя работнікі НКУС паплаціліся ў той час жыццём за невыкананне гэтых указанняў. З мэтай спрашчэння працэсуальнага афармлення спраў Стаяноўскі на запыт следчага Давідзенкі адказаў, што ў справе дастаткова мець два «дакументы» — «пратакол прызнання і выпіску аб прывядзенні прысуду ў выкананне». Так запрацаваў канвеер масавага знішчэння людзей. Выканаўцаў не цікавілі палітычныя погляды сваіх ахвяр. Ім было не да тэорыі абвастрэння класавай барацьбы. Многія не ведалі нават пра існаванне гэтага сталінскага тэзісу. Галоўнае было даваць колькасць выкрытых. Для следчага было ўсё роўна, дзе створаная ягоным яўленнем контррэвалюцыйная арганізацыя «спрабавала ўзарваць мост». Ахвяры пыталіся, у чым канкрэтна прызнавацца? Следчы адказваў, што яны «выкрыты ў спробе ўзарваць мост на рацэ Дзвіне», але ў якім горадзе — не ўказваў, магчыма, сам не ведаў, дзе яна працякае. Адны «прызналіся», што хацелі правесці дыверсію ў Полацку, другія — у Віцебску...

У 1938 годзе за масавыя рэпрэсіі і расстрэлы Стаяноўскі, Валовік, Пракоф'еў і Давідзенка самі былі расстраляны, г. зн. іх спасціг лёс сваіх ахвяр. Лічу, што зроблена гэта было таму, што яны занадта шмат ведалі. Гэта быў перыяд змены кіраўніцтва ў цэнтральным апараце НКУС СССР і на месцах, перыяд выкрыцця адных злачынстваў у НКУС для таго, каб здзяйсняць новыя злачынствы.

Указаная справа праходзіла пад грыфам «Сов. секретно». У ёй няма майго роспісу аб тым, што я азнаёмлены з матэрыяламі. Мяне пазнаёміў з ёй палкоўнік Крамар, у аддзеле якога ў 1959—1960 гг. я працаваў следчым і прымаў удзел у правядзенні дадатковых праверак па архіўных справах па даручэнні Ваеннай пракуратуры.

Лічу, што маўчаць аб тым, што мне стала вядома аб рэпрэсіях, нельга.

**А. ПРОХАРАЎ.**

г. Бабруйск.

●

УСІМ ВЯДОМА, што жыццё таго ці іншага народа пазнаецца праз яго культуру, літаратуру. Аднак, чытаючы і слухаючы асобныя выступленні, застаецца толькі шкадаваць, што рэспубліка выхавала такіх людзей, якім усё роўна, на якой мове гаварыць, чыёй культурай ганарыцца.

Радуе цяпер тое, што вышэйшымі кіруючымі органамі робяцца некаторыя захады па адраджэнню мовы рэспублікі. У дакладзе Я. Я. Сакалова на X пленуме ЦК КПБ адзначалася: «Трэба весці справу да таго, каб кожны жыхар нашай рэспублікі добра ведаў і валодаў беларускай і рускай мовамі».

Назіраецца, што артыкулы, прасякнутыя болем за нашу мову, нашу культуру, помнікі гісторыі, родную прыроду, пішуць пісьменнікі, журналісты, мастакі. Менш цікавіць гэта пытанне такіх культурных дзеячаў рэспублікі, як кампазітары, музыканты, акцёры тэатра і кіно і інш. *Няўжо ім няма чаго сказаць?*

Трэба зрабіць папрок Міністэрству культуры БССР: правядзенне аглядаў мастацкай самадзейнасці так, як яны праводзяцца сёння, не задавальняе. Самае недаравальнае — гэта тое, што мы згубілі і прадаўжаем губляць мясцовае народнае слова (прыказку, прымаўку, загадку, казку, паданне, легенду), мясцовыя народныя песні, мясцовы танец, гульню і г. д.

Тое, што народнае жыве ў сэрцах людзей, пацвярджае такі факт. Чытаючы лекцыі на абласных курсах настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры ў г. Віцебску, я мела магчымасць прысутнічаць на так званых «настаўніцкіх вячорках», на якіх гучаў фальклор розных раёнаў вобласці. Там я паказала ўзоры мелодый мілагучных народных песень *вясельных, жніўных, лірычных і інш.* Мяне здзівіла, што людзі, ва ўзросце і маладыя, плакалі, асабліва, калі слухалі шчымлівую песню «Зялёны дубочак». Значыць, жыве душа ў нашых людзей, і яе трэба разбудзіць.

Добрае слова сказаў Ніл Гілевіч на вялікай сустрэчы ў Маскве («Книжное обозрение», 1987 г., № 20) пра свята Славянскай пісьменнасці і культуры. Міністэрству культуры БССР, Саюзу пісьменнікаў рэспублікі трэба падумаць і вызначыць дзень святкавання Славянскай пісьменнасці і культуры ў нас у рэспубліцы. І кожны год праводзіць яго. Вядома, што тут спатрэбіцца сістэматычная, глыбокая, удумлівая, нефармальная масавая работа ў кожнай мясцовасці, што будзе яна вымагаць ад арганізатараў і ведаў, і таленту, і шчырай зацікаўленасці. Але затое колькі выявіцца талентаў, колькі будзе гонару за талент народа, за сваю зямлю, за сваю культуру, за родную мову!..

Напачатку рэспубліканскае свята Славянскай пісьменнасці і культуры можна правесці ў вёсцы Гудзевічы Мастоўскага раёна Гродзенскай вобласці, дзе ў школе, у вёсцы надзвычай шануецца народная спадчына, выхоўваецца *сапраўдны*, а не ўяўны патрыятызм і інтэрнацыяналізм, дзе самааддана працуе настаўнік беларускай мовы і літаратуры, заслужаны работнік культуры БССР Алесь Мікалаевіч Белакоз.

**В. ЮБКО,**
**старшы метадыст Рэспубліканскага навучальна-метадычнага кабінета Міністэрства народнай адукацыі.**

●

**АТРЫМАЎШЫ ПЯТЫ НУМАР «Нёмана», *разгарнуў* — адразу кінулася ў вочы фатаграфія (с. 3) чалавека з цыгаркай у руцэ. Ды гэта ж вядомы паэт Уладзімір Някляеў! І подпіс да здымка пацвярджае: лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола, галоўны рэдактар маладзёжнага часопіса «Крыніца». Існуе думка, што пісьменнік увогуле — сумленне народа, настаўнік жыцця, а ў дадзеным выпадку і выхавацель падрастаючага пакалення. Дык няўжо той самы У. Някляеў не разумее, што паказвае моладзі не лепшы прыклад?**

**Вельмі ўжо часта пісьменнікі, артысты і іншыя дзеячы культуры фігуруюць на старонках друку з цыгарэтамі, люлькамі і іншымі курыцельнымі атрыбутамі. Дымяць ва ўсю! Вось, маўляў, якія мы: не баімся папярэджанняў Міністэрства аховы здароўя СССР, не клапоцімся пра сваё здароўе... Ну дык паклапаціцеся хоць бы пра здароўе іншых — не падавайце ім *кепскага прыкладу!***

**У 1-м нумары «Крыніцы» (дарэчы, чаму і на рускай мове не «Криница», каб было адрозненне ад «Родников», што выдаюцца ў іншых саюзных рэспубліках?) вядомы фельетаніст Павел Якубовіч прадстаў перад чытачамі з люлькай у зубах (с. 11, «Прадстаўляем рэдакцыю»), мяркуючы, відаць, што гэта вельмі смешна. Пакуль ён прадстаўлены курцом толькі з нейкім «нефармалам», што сядзіць на падлозе вагона з цыгарэтай у роце («Крыніца», № 2, с. 19), але баюся, што гэтым справа не абмяжуецца, паколькі і галоўны рэдактар часопіса дазваляе сабе пазіраваць з цыгарэтай у руцэ. На пытанне да самога сябе, ці *хацеў бы* ён, каб і яго сын стаў фельетаністам, П. Якубовіч адказаў: «Не, бо гэтая прафесія даволі шкодная для здароўя». Дзіўна — ці ж фельетаніст абавязкова павінен курыць?**

**Пакуль я разважаў над гэтым і іншымі падобнымі пытаннямі, не разумеючы, чаму некаторыя выхавацелі моладзі любяць красавацца ў друку з люлькай, цыгарэтай і г. д. у зубах, у руцэ і г. д., мне трапілася інтэрв'ю, якое даў знакаміты швед, рэкардсмен свету па скачках у вышыню Патрык Сёберг часопісу «Шпігель» (ФРГ). Гэты зусім не настаўнік моладзі (ён сам яшчэ малады хлопец) заявіў карэспандэнту: «...я адчуваю пэўную адказнасць за тое, што з мяне могуць браць прыклад. Таму... прашу мяне зараз — з цыгарэтай — не фатаграфаваць» (інтэрв'ю перадрукавала газета «Трыбуна люду» за 26—27.03.88, с. 6). Нашым бы масцітым галоўным рэдактарам маладзёжных выданняў — ды ўсім бы — такое пачуццё адказнасці, разуменне некаторых простых рэчаў!**

**Прадбачу пярэчанне тых, хто прапагандуе курэнне па сваім неразуменні. Хоць — чаму менавіта «па неразуменні»? У тых краінах, дзе забаронена прамая рэклама тытуню, тытунёвыя фірмы супрацьдзейнічаюць падзенню попыту на яго тым, што публікуюць у друку здымкі вядомых артыстаў ці іншых куміраў публікі, якія кураць, за што самім кумірам адвальваюць саліднае грашовае ўзнагароджанне. Дык няўжо У. Някляеў, П. Якубовіч і іншыя курцы за дэманстрацыю сваёй згубнай прывычкі таксама атрымліваюць узнагароджанне? *Такога не можа быць,* хоць — міжволі падумаеш і пра такое.**

**А пярэчанне можа быць наступнае: такое, маўляў, жыццё, многія пісьменнікі і іншыя дзеячы культуры кураць, а паколькі галоснасць, то трэба ўсіх паказваць як яны ёсць, не скажаць рэчаіснасць. Але ж некаторыя і п'юць, а ядуць дык і ўвогуле ўсе без выключэння. Толькі ж штосьці не бачна перад падборкамі вершаў фотаздымкаў паэтаў з келіхам ці лыжкай у руцэ.**

**А. ІВАНЧАНКА.**

г. Мінск.

**ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ**

# КАМУ ГЭТА ПАТРЭБНА?

Са здзіўленнем прачытаў у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» (№ 31) выступленне Т. Дубавец «Бабайка і «Талака». Аказваецца, па яе думцы, змагацца за сацыялістычныя каштоўнасці і ідэалы — гэта значыць стаяць на пазіцыях праціўнікаў перабудовы.

Аднак, па парадку. Крытыку Т. Дубавец маёй лекцыі на адным з семінараў можна падзяліць на дзве часткі. У першай яна абураецца тым, што я не згодзен з некаторымі выказваннямі А. Нуйкіна, М. Шмялёва, Г. Лісічкіна, Г. Папова. А чаму гэта ўсе павінны апладзіраваць кожнаму іх слову ў друку? Чаму Т. Дубавец і «ЛіМ» забараняюць мне мець свой погляд? Ці яны ніколі не чулі аб такім паняцці, як «сацыялістычны плюралізм думак»? Тым больш, што *я падкрэсліў*, што мае словы — гэта не ісціна ў апошняй інстанцыі, і прызваў аўдыторыю паспрачацца, пашукаць адказы на хвалюючыя пытанні. Аднак ні ў кога, у тым ліку і ў Т. Дубавец, тады не было ніякіх заўваг ці пярэчанняў. Яны з'явіліся чамусьці толькі праз месяц у «ЛІМе». А можа, хтосьці яе на гэта падштурхнуў?

Другая частка *прысвечана* маім адносінам да «Талакі», «Тутэйшых» і іншых самадзейных аб'яднанняў. Я ніколі не лічыў заганнымі мэты, якія яны ставяць: развіццё беларускай культуры, мовы, захаванне нацыянальных традыцый, помнікаў. Праблемы актуальныя, мы ўсе павінны разам працаваць над іх вырашэннем. Аднак, на жаль, у аб'яднаннях апынуліся і экстрэмісцкі настроеныя людзі, якія імкнуцца на хвалі растучай цікавасці да гісторыі і культуры Беларусі, задавальняць свае амбіцыі, заваёўваць, прама скажам, надта ж лёгкі аўтарытэт. Мы павінны адрозніваць сумленных, з чыстымі намерамі людзей і тых, хто толькі прыкідваецца сябрамі народа. Але гэтых думак Т. Дубавец у лекцыі не ўбачыла ці не пажадала ўбачыць. Яна занялася сапраўднай фальсіфікацыяй фактаў. Напрыклад, абвінаваціла мяне ў адмоўных адносінах да выкрыцця сталінскіх рэпрэсій. Аб гэтым нават смешна чытаць. Не хацелася гаварыць, аднак мой дзед у свой час быў рэпрэсіраван, перанёс здзекі і памёр. Я заўсёды лічыў і лічу, што ўсе, у тым ліку і «ЛіМ», павінны больш займацца беларускай мовай, актыўней прыцягваць да гэтай справы пісьменнікаў, дзеячаў культуры. Цяпер яны вельмі рэдкія госці ў школах, а настаўнікі чакаюць ад іх пастаяннай дапамогі. У той жа час я не разумею крайніх выказванняў накшталт такіх: «Той, хто не ведае беларускай мовы, хай коціцца адсюль аж да Злучаных Штатаў Амерыкі». Такія пазіцыі я крытыкаваў і буду крытыкаваць, нягледзячы ні на што. І ўжо зусім не ўцямлю, што гэта за фраза пра 150 кіраўнікоў «Талакі», якую прыпісвае мне Т. Дубавец.

І нарэшце, нейкія дзіўныя з'явы пачалі здарацца пасля таго, як я некалькі разоў крытычна адазваўся аб метадах дзейнасці «Талакі». На лекцыях пачалі з'яўляцца людзі з магнітафонамі. Пайшлі начныя тэлефонныя званкі з пагрозамі. П. Садоўскі, калі выступаў на пасяджэнні Беларускага фонду культуры, заявіў, што ў яго на мяне ёсць дасье. І вось гэтая публікацыя, якая зрабіла мяне праціўнікам перабудовы, аб'яднала з Нінай Андрэевай. На маю думку, гэта і ёсць самы сапраўдны экстрэмізм. Ды не толькі на словах. І ён — не сябар перабудовы, а яе вораг. Пры дапамозе яго нехта намагаецца ўвесці нас убок ад рашэння галоўных праблем рэвалюцыйнага пераўтварэння рэчаіснасці.

Пасля выхаду публікацыі «Бабайка і «Талака» я задумаўся. Каму ж усё гэта патрэбна? І чаму?

**І. КАТЛЯРОЎ,**
**кандыдат філасофскіх навук.**

**АД РЭДАКЦЫІ: Ліст І. Катлярова мы падалі ў тым выглядзе, у якім ён напісаны, даючы тым самым магчымасць аўтару праз друк выказаць сваю думку або нязгоду з той ці іншай публікацыяй. Цяпер лімаўскі чытач можа параўнаць абодва допісы — Т. Дубавец і І. Катлярова — і самастойна зрабіць высновы. *Такая практыка* ўкараняецца сёння ў нашым друку і, думаецца, з'яўляецца добрым вырашэннем нейкіх спрэчных пытанняў.**

**Ліст Т. Дубавец быў надрукаваны ў традыцыйнай падборцы лімаўскай пошты, дзе аўтары, нашы чытачы, звычайна дзеляцца сваімі ўражаннямі, выказваюць свае асабістыя думкі і меркаванні, часам спрэчныя. Таму крыху дзіўна чытаць у лісце І. Катлярова словы пра тое, што «ЛІМ» нібыта забараняе «мець свой погляд» кандыдату філасофскіх навук.**

**Далей. Параўноўваючы абодва допісы, няцяжка заўважыць, што І. Катляроў не надта дакладна, а правільней — не зусім карэктна падае змест пісьма Т. Дубавец. У прыватнасці, наша чытачка нідзе не казала, што «змагацца за сацыялістычныя каштоўнасці і ідэалы — гэта значыць, стаяць на пазіцыях праціўнікаў перабудовы». Няма таксама ў яе допісе абвінавачванняў «у адмоўных адносінах да выкрыцця сталінскіх рэпрэсій» — там усяго толькі згаданы словы І. Катлярова на лекцыі аб тым, што мітынг у Курапатах 19 чэрвеня г. г. — «удовлетворение личных амбиций руководителей» нефармальных аб'яднанняў. Не адшукалі мы ў лісце Т. Дубавец і «фразы пра 150 кіраўнікоў «Талакі»...**

**І апошняе — бадай, самае галоўнае. І. Катляроў піша пра «сапраўдны экстрэмізм», нібыта скіраваны на яго: «людзі з магнітафонамі», «начныя тэлефонныя званкі з пагрозамі», «нехта намагаецца ўвесці нас у бок» і г. д. Ці да твару навукоўцу, а тым больш лектару ЦК КПБ падтрымліваць, распаўсюджваць чуткі, спрыяць стварэнню атмасферы недаверу, нават падазронасці? Ці не прыйшоў час абыходзіцца без усіх гэтых «хтосьці» і «нехта»?..**

# НАШ БОЛЬ, СМУТАК І ГОНАР



**яшчэ адным камянём на нялёгкім шляху нашай культуры, перад яшчэ адным сімвалам, які ўвасабляе не толькі наш боль, наш смутак, але і наш гонар.**

**Так, цяпер ужо відаць — і мы гэта можам сказаць без сумневу, — што тут ляжыць вялікі чалавек Белай Русі, апостал нашай духоўнасці, непараўнальны мастак XX стагоддзя Уладзімір Караткевіч.**

**Караткевіч — гэта пісьменнік божае міласцю, — паэт, празаік, драматург, — самы універсальны талент, прыдатны для якога-небудзь XVIII ст., аднак у якасці нейкае боскай кампенсацыі дадзены нашай культуры ў XX. Лёс яго ўвогуле быў шчаслівы (калі наогул можа быць шчаслівы лёс у такіх людзей), не зважаючы на ўсе выпрабаванні, якія былі шчодра пасланы яму людзьмі і богам. Ён іх перамог з годнасцю, не пераступіўшы свой талент і сваё сумленне. Тое, вядома, заўжды не проста для чалавека *наогул*, тым больш для мастака такой яркасці і такога маштабу. Ці многія з нас могуць сказаць перад гэтай магілай, што былі такія ж, як ён — у нягодах, у спакусах, таксама і ў шчасці, якое зрэдку яму выпадала. Ён быў ці не адзіны такі сярод нас — нам у папрок, але і нам у прыклад. Будзем жа памятаць гэты ягоны прыклад і раўняцца на яго.**

**Так, раўняцца на яго, нават аддзеленага ад нас зямлёй, якую ён так любіў, і камянём, які спрадвеку ўвасабляе ідэю чалавечае цвёрдасці. Мабыць, гэта найлепшы вобраз для ягонай памяці, усталяваны тут рукамі другога выдатнага майстра Беларусі. І ў гэтым акце безумоўна — велічны сэнс яднання нашых мастацтваў у неўміручае сферы адной нацыянальнай культуры. Незабыўны наш Уладзімір набывае свой векавечны сімвал на сваёй зямлі, над якою ён даўно ўжо лунае сваімі белымі крыламі.**

***Яго апостальскі вобраз будзе вечна лунаць над прасторамі Белай Русі, якой ён так упарта зычыў вялікага, недададзенага ёй гісторыяй шчасця.***

**Аб жыцці У. Караткевіча і значэнні яго творчасці гаварылі А. Жук, аўтар помніка А. Анікейчык, С. Законнікаў, Р. Барадулін, П. Прыходзька, сястра паэта Наталля Сямёнаўна Кучкоўская.**

**НАШ КАР.**



 

## З ПАЭТЫЧНАГА СШЫТКА

**Васіль ЖУКОВІЧ**



# ВЕРШЫ РОЗНЫХ ГАДОЎ

### *Гаманілі суседзі...*

— Мой суседзе, ці ты чуеш,
кліча Кустанай.
— Чую.
— Што ж не рэагуеш?
— Не пытай.
Тут, калі мы пераедзем,
хто заменіць нас?
Ты наіўны, мой суседзе:
замянялі і не раз...
— Я ж да роднай нівы-маткі
ўсёй душой прырос,
тут усё ў мяне ў парадку,
тут мой светлы лёс.
— Сачыняеш ты, Іване.
Сувязь рассякай.
Пабаліць і перастане.
Едзь у Кустанай.
Вёску родную забудзеш,
выканаеш план—
у дастатку век там будзеш,
зажывеш, як пан...
— Ну, а сам завербавацца
ты хоць не забыў?
— Колькі ж можна мне бадзяцца:
я ў Сібіры, братка, быў...
1966

### *Кашмар*

Не зычу сну я вам такога:
ў магілу трапіў я жывы...
«Што нарабілі вы?! Эх, вы!
Як пахаваць маглі жывога?!»
Крычаў—прачнуўся сярод ночы,
ляжу, глядзяць у цемру вочы.
1969

### *Успамін былога заходнебеларускага падпольшчыка*

С. М. НОВІКУ-ПЕЮНУ

Пры Польшчы за трыццаць злотых
выдаў мяне ліхадзей.
Знасіў ён з паўтузіна ботаў,
пакуль я ў цямніцах сядзеў.

Пры немцах за трыццаць марак
выдаў той самы зладзей.
Наеў ён і пуза і карак,
а я—смерці ў вочы глядзеў.

Турму зведаў я, катаванні,
мне згубу фашыст рыхтаваў,
не верыў я выратаванню—
выпадак мяне ўратаваў...

Не знаў правакатар акопаў,
даведку зрабілі яму...
З яго ж нагавораў-паклёпаў
мне суд прысудзіў Калыму.

Гібеў я на лесапавалах,
сівеў я на рудніках.
«За што?»—цяжка сэрца стагнала
па згубленых лепшых гадках.

Вярнуўся да родных прысадаў,
ды, покуль шукаў дактароў,
паклёпнік з утульнай пасады
на пенсію ціха пайшоў.
1975—88

### *Галасаванне*

Нядзеля. Ядранае ранне.
Куды ж, куды сябе вяду?
У школу на галасаванне
пасля бяссонніцы іду.

Камісія, кабіны, урны,
у зале—ўсё як мае быць,
тут без затрымкі, тут культурна
павіннасць можаш ты адбыць.

Кампанію дэмакратычна,
як трэба, выбарчай завуць,
ды галасы
усе прывычна
за ўжо абраных аддаюць.

Да урны бюлетэнь нясу я,
нібы ў якім няўцямным сне.
Чаму, навошта галасую,
калі абралі за мяне?

Смяяцца? Плакаць?
Прытварацца?
Я цяжкіх дум не праганю.
Дакуль
усё ператварацца
павінна ў нейкую гульню?

Калі ж падамся я ў газету
з адкрытай думкаю такой,
напэўна, скажуць, што ў паэта
не тое нешта з галавой.
1976

### *Цень культу*

І вяртаецца ў раманы,
і ўзыходзіць на экраны
славы цень правадыра—
лёгка Сталіна прыпудрыць,
паказаць, які ён мудры,
пракрычаць яму «ура!»

Для чаго паказваць сталі
нам, які прыстойны Сталін
(хваля культу прапаўзла)?
Хто ж пакажа людзям, свету
тое, ў чым няма сакрэту,—
колькі зроблена ім зла?
1980

### *Верыцца...*

Заменім старыя станкі і машыны
і элегантных тавараў нашыем.

(Ніхто і нідзе даставаць іх не будзе—
за чэсныя грошы купляць будуць людзі).

Узнімем да сонца дамы і да зор мы
кватэр набудуем, прыгожых,
прасторных.

(Працоўным па-людску мы іх
размяркуем—
у блатах праклятых мы век не звякуем).

Атулім зямельку садамі, лясамі
на радасць нашчадкам (пацешымся
й самі).

Не пусцім атруты у рэкі, азёры.
Нідзе не паўторым Чарнобыля гора!

З вайны неабвешчанай хутка дахаты
сынкі нашы вернуцца, дзеці-салдаты...

Калі не спужаемся дадзенай волі
ні сёння, ні заўтра—ніколі-ніколі.
1987

### *Старыя шыльды прыжыліся*

Перамены—не экзамены
для чыноўніка, не страх:
астаецца тая самая
шыльда на двайных дзвярах.

Бюракрат сядзіць—
працягвае
лад жыцця застойных дзён:
раз у тыдзень
з рабацягаю
можа нават стрэцца ён.

Абяцанкаю-цацанкаю
супакоіць, не сакрэт,
каб хутчэй са спадзяванкаю
ты пакінуў кабінет...

Рэвалюцыя чыноўная
для чыноўніка —не крах:
хоць на вуснах—фраза новая,
шыльда тая ж на дзвярах.
1988

## ПЕРАБУДОВЕ — ІДЭІ АБНАЎЛЕННЯ

**Васіль ТКАЧОЎ**

# ПАЗІЦЫЯ

САКРАТАР аднаго з райкомаў партыі скардзілася:

— Патрабуюць, патрабуюць... Што можа быць лягчэй, як патрабаваць? Я пра вяселлі, пра цвярозыя. Колькі правялі, колькі правядзём у бліжэйшы час. «Дакладвайце!» Ну і дакладваем... Атрымліваем, вядома, спагнанні, бо хваліць няма за што. А вось той, хто спускае гэтыя паперкі, сам бы пайшоў да людзей, сказаў: «Э-э-э, што вы робіце? Прыбраць, прыбраць са стала бутэлькі! Я загадваю! Праводзьце цвярозае вяселле!» Ідзём, ідзём мы да людзей. Рэдка, вельмі рэдка хто пагаджаецца, большасць — супраць, і катэгарычна: «Наша вяселле — і не ўказвайце!» Людзі ж розныя... Што ім да нашых паперак? Ды і ці трэба вось так націскаць? У нас, на жаль, яшчэ бывае так: што вякамі ўкаранялася, вытравіць хочам адразу, вокамгненна. Не, патрэбен час. І я веру, што ўсё стане на месца. Але не сёння. І нам, партыйным работнікам, трэба таксама мець цярпенне, цвярозы падыход да кожнай справы...

А мне ўспомнілася адно вяселле. Таксама... цвярозае. Прыехалі на яго з тэлебачання — рашылі паказаць людзям, як трэба. У адной хаце накрыты сталы, дзе замест бутэлек з гарэлкай і віном стаяць напіткі, сокі, а ў другой, праз дарогу — усё наадварот. Мужыкі вып'юць па чарцы, пахапкам закусяць і прыспешваюць адзін аднаго:

— Пабеглі, Пятро, у целявізар паказвацца...

Ведаеце, як трэба рваць пустазелле? Калі спяшаешся, то карэньчыкі абавязкова застаюцца ў зямлі. І на тым месцы вырасце яно зноў. Як і не знішчалі яго.

●

Калектыў завода зборнага жалезабетону аб'яднання «Гомельпрамбуд» выбіраў галоўнага інжынера. Людзям былі прапанаваны тры кандыдатуры. Выказваліся, вядома, пра кожнага. Гаварылі востра, горача. Зразумець можна завадчан — упершыню ім прадставілася магчымасць самім выбраць аднаго з кіраўнікоў. Кандыдаты хваляваліся, адказвалі на пытанні, выкладвалі свае меркаванні наконт заўтрашняга дня прадпрыемства.

Раптам першы кандыдат сказаў:

— Не спраўлюся, мусіць...

Другі кандыдат вымавіў:

— Сваю кандыдатуру адхіляю...

Застаўся адзін — начальнік вытворча-тэхнічнага аддзела завода Валерый Якаўлевіч Чарняк. Падкінулі і яму пытанняў. Не выкручваўся Чарняк, не, а гаварыў пра тое, што хвалявала людзей, пра тыя недахопы, якія ўсім вочы мулілі.

І трэці кандыдат сказаў:

— Калі згодны ісці за мной,—аказвайце давер. Не згодны—трэба, значыць, перанесці сход, падабраць іншую кандыдатуру. А свае патрабаванні я выклаў. Прымаеце?

— Я супраць! — устаў інжынер Котчанка.

— У вас што-небудзь сур'ёзнае, таварыш Котчанка? — пацікавіўся старшыня сходу.

— Вельмі. Не хачу, каб пайшоў з нашага аддзела Валерый Якаўлевіч. З кім жа застанёмся? Я... я сур'ёзна!

У зале грымнулі воплескі. Не Котчанку — Чарняку, новаму галоўнаму інжынеру завода.

●

У тых, хто любіць лазню, — свята: на вуліцы Яфрэмава пачаў працаваць лазне-аздараўленчы комплекс. Сем люксаў, кожны разлічаны на тры чалавекі. Міні-басейн, душ, парыльня, аўтамат для сушкі валасоў, столікі, лаўкі. Тут жа прасторны буфет, дзе сокі і напіткі, цукеркі і піражныя.

Радуюцца гамяльчане: не лазня, а мара! Ды не ўсе. Старыя, чуў, бедавалі:

— Нам бы тую, старэнькую, пакінулі. Хай бы працавала. У новую часта не пойдзеш... А для нас лазня — свята.

І там свята, і тут свята. А справа ў тым, што білет у лазню каштуе цяпер сама мала 1 рубель 10 капеек. Раней жа — усяго 18 капеек. Таму ім, старым людзям, якія жывуць з пенсіі, больш шчодрай была тая лазня, непрывабная з выгляду, але — свая.

●

У Жлобіне пабудавалі Беларускі металургічны завод, сыравінай для якога павінен служыць металалом. Ну, цяпер, думаў, не знойдзеш у нас пакарэжаных кабінак грузавікоў і трактароў, рам, колаў, а то, куды ні прыедзь, усюды гэты металічны друз псуе малюнак машынна-трактарнага двара, вёскі, ды і напамінае, якія там жывуць гаспадары.

Завод працуе. Чатыры гады, здаецца. А ў многіх гаспадарках вобласці як ляжаў металалом пяць, дзесяць гадоў назад, так і ляжыць.

Не ў заводзе, аказваецца, справа, — у людзях.

●

Сяргей Пятровіч атрымаў новую кватэру. Не нарадуецца. Тры пакоі, прасторная кухня, вялікі калідор. Толькі адно засмуціла старога рабочага: балкон — хоць у футбол гуляй, а карысці з яго пакуль аніякай. Толькі што вунь снег збірае, дождж сячэ па ім. І ён рашыў зрабіць раму, зашкліць яе — тады будзе парадак. Як у людзей. Схадзіў да суседзяў, пагляд зеў, як робяцца тыя рамы, з добрым настроем узяўся за работу.

— Ты б, Пятровіч, раз'ёмную раму рабіў, — ішоў побач знаёмы, задраў галаву, пацікавіўся, чым займаецца чалавек. — Калі зняць яе прымусяць — хутка атрымаецца: адкруціў гайкі, выцягнуў балты — і гатова.

— А навошта... знімаць? — насцярожыўся Пятровіч.

— Дык ты хіба не ведаеш, што забаронена рамы ставіць?

— Не.

— Нельга, нельга, Пятровіч. Мне было. Вось памяркуй: ты, значыць, такога фасону раму зробіш, сусед — іншага, ды яшчэ пафарбуеце ў розны колер. На цыркавы манеж будзе дом падобны.

Задумаўся Сяргей Пятровіч: праўду гаворыць.

— Паслухай, а я ж раблю так, як мне лепш, — сказаў уніз. — Я ж... Калі б не трэба была на балконе рама, няўжо б я за яе браўся? Планую тут такія-сякія рэчы паставіць. Скрынку з бульбай хоць бы. Сам жа ведаеш — падвала ў доме няма. Газеты збіраю на талоны... Ты ж ведаеш, што ў нас на пятым паверсе пажар быў. Акурак нехта кінуў з шостага ці сёмага, і на балконе паперы ўспыхнулі. Ну. Я ж як лепш хачу.

— Я разумею...

Сяргей Пятровіч стукаў далей малатком — рабіў раму, а знаёмы пайшоў сваёй дарогай. Праз тыдзень недзе, калі была гатова рама і атрымала заслужаную пахвалу ў суседзяў, нехта пазваніў у дзверы.

— Зніміце раму! — строга загадала жанчына, ваяўніча пазіраючы на гаспадара кватэры. —Інача й возьмем міліцыянера і разаб'ём-разламаем!

Ён не зняў раму. Прыйшла брыгада актывістаў, быў сярод іх і міліцыянер, павыбівалі амаль усё шкло. Сяргея Пятровіча дома не было.

Назаўтра ён зноў шкліў раму. Ён і суседзі.

...Быў у Чарнігаве. Выязджаючы з горада, убачыў дом, які вось-вось павінен прыняць жыха-

(Заканчэнне на стар. 13).

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

# Пра тое ведаюць людзі...

## ПЕРАЧЫТВАЮЧЫ КОЛАСАВЫ «КАЗКІ ЖЫЦЦЯ»

КАЖУЦЬ, што Эзопава мова — мова раба. Дадам: і мастака. Ды зусім не страх кіруе талентам, калі замест слоў простых і зразумелых ён выбірае цьмяныя і загадкавыя. Парадокс у тым, што праз алегорыю, праз іншасказанне, як праз павелічальнае шкло, ён лепш паказвае нам сутнасць — з'явы, рэчы, паняцця, характару... Аддаляючы, ён набліжае. Накідваючы вобразныя апраткі, вылузвае сэнс, і ён ляжыць перад намі, як раскушаны арэх на далані. Наце, частуйцеся, вам яшчэ спатрэбіцца вашы маладыя зубкі...

За цьмяную сімволіку ў творах перыяду грамадзянскай вайны («Паязджане» і іншыя вершы) не раз папракалі Купалу. Маўляў, залішне адцягнена, малазразумела. «Я калгасніца маладая» — куды канкрэтней. І зразумела ўсё...

Есць творы аднамерныя і шматмерныя. Таленавітымі, значнымі па змесце могуць быць і першыя, і другія. Паміж імі адно істотнае адрозненне: шматмернасць дае твору нейкую асаблівую жывучасць, магчымасць існавання не толькі ў сваім часе, але і ў будучым. Менавіта да такіх твораў з поўным правам можна аднесці «Казкі жыцця» Якуба Коласа.

Большасць «казак...» напісана ў прамежку з 1907 па 1921 год. Першапачаткова цыкл складаўся з 18 навел. Выданне 26-га года было ўжо значна дапоўнена. У 28-ым Колас дадае яшчэ 3 навелы, з якіх 2 уяўляюць сабой сяброўскія прысвячэнні — Змітраку Бядулю і Янку Купалу — і таму да алегарычных іх можна аднесці толькі ўмоўна.

Навелу, прысвечаную Цішку Гартнаму («На прасторах жыцця»), і апавяданне для дзяцей «У чым іх сіла» сам Колас не ўключаў у цыкл. Яны ўключаны ў Поўны збор твораў рэдкалегіяй. Затое, рыхтуючы ў 1956 г. чарговае асобнае выданне «Казак жыцця», аўтар планаваў дадаць два творы — «Пад новы год» і «На сваім хлебе», якія, на мой погляд, у нечым істотным усё ж адрозніваюцца ад «казак жыцця». Я сказала б, што гэта проста казкі.

Якуб Колас лічыў алегарычную форму «вопраткай ідэі». «Казкі жыцця», якія ўпершыню надрукаваў у Коўне пад псеўданімам Язэп Гушча, цаніў высока і ў лісце да С. Майхровіча выказаў свае здзіўленне тым, што гэты твор абыходзіць маўчаннем крытыка. Пра крытыку крыху ніжэй, а зараз звернемся да саміх «казак».

Яны ляжалі на маім стале раскрытымі — дачка рыхтавалася да ўступнага экзамена, — і я зазірнула ў іх мімаходзь. Так трапіўся на вочы «Кажух старога Анісіма». (Першапачаткова твор меў падзагаловак «Казка пра старых»). Стары Анісім дужа шанаваў свой зношаны, выліналы ад доўгага жыцця кажух і нізавошта не жадаў з ім расставацца. «Зашые адну дзірку, паложыць латку, прыгледзіць, глядзіш — у другім месцы кажух разлазіцца. (...). Потым ён больш нічога і не рабіў, як толькі стаўляў латкі». І вось што мяне ўразіла: я чытала твор, напісаны 75 год назад, яшчэ да Кастрычніцкай рэвалюцыі, і... пазнавала старога Анісіма! Ды гэта ж ён — «блюсціцель» нашай палітычнай цнатлівасці, заўзяты абаронца догмаў, міфаў і рытуалаў, усёй сістэмы самападману, якая сёння распаўзаецца па швах і ледзь якой патыхае духам даўнасці! Сучасныя анісімы гэтак жа трасуцца над сваёй латанай-пералатанай апраткай і ледзьве што — паднімаюць лямант: «Асновы сацыялізму падрываюцца!..»

І вось маладыя хлопцы надумалі ўкрасці гэты кажух і спаліць. (Заўважце: старэйшыя проста лаяліся — маўляў, брыду развядзе, — але на ўчынак не рашыліся). Ды не такім ужо нямоглым аказаўся дзед: як усхопіцца ён, як пагоніцца за хлопцамі з кульбаю! «Толькі і паспелі зрабіць, што рукаў адарваць і кусок крыса вырваць». Як бачым, падзеі развіваюцца ў нас па Коласу. Хіба што кульба наперадзе. І паколькі ўсе мы пабойваемся яе (працэсы перабудовы не сталі пакуль незваротнымі), то прыслухаемся да мудрага Баяна: усё ж не забаяліся хлопцы Анісімавай кульбы: «ходзяць за дзедам крок у крок ды кажух яго скубуць».

Выклікае цікавасць той факт, што ў машынапісны тэкст, падрыхтаваны ў канцы жыцця для асобнага выдання, аўтар не ўнёс ні «Кажуха...», ні «У балоце» — найбольш сатырычных сваіх «казак...». У змесце папярэдняга выдання чырвоным алоўкам, рукою Коласа напісана: «Апусціць». Звязана гэта з грамадска-палітычнай абстаноўкай (пярэдадзень XX з'езда КПСС), ці з нейкімі іншымі меркаваннямі — сказаць цяжка.

Другі злавесны герой «Казак жыцця», стары дзед («Супраць вады»), панаваў над усім у наваколлі. Адзіны яго клопат — «каб парадкі былі». І дарэмна даводзіла азярко дзеду: «Вада — такая рэч, што не можа доўга стаяць на адным месцы». Дарэмна пераконвала ў тым, што кіраваць павінна «адна супольная воля — воля нашага згуртавання». «Будзе так, як хачу я», — стаяў на сваім дзед. Але надышла навальніца і змыла дзеда разам з яго ўмацаваннямі. Такі канец ва ўсіх, хто трымае «на прывязі ваду». Вось як проста, аказваецца, можа быць сфармулявана мастаком дыялектыка гістарычнага развіцця, неадольнасць прагрэсу.

А што хацеў сказаць Колас, распавядаючы пра сварку ў старадаўнім лесе («Стары лес»)? Што «самая простая справа, самая ясная праўда пазнаецца цаной вялікай пакуты»? Згодна жыў лес, пакуль не падзяліўся на два — па адзін бок рэчкі і па другі. «...магутная пушча раскатурхалася, разгайдалася, расшумелася, як сялянскі сход», «сашчапіліся два адвечныя асілкі: прысадзісты дуб з таўшчэзным вязам», а потым дзве сцяны дрэў рушылі адна на другую... Чым не наша галоснасць з яе газетнымі ды часопіснымі баталіямі? Мы не раз назіралі, калі варожыя бакі ў працэсе спрэчкі нават забываюцца пра сутнасць разыходжанняў, — ударыць бы як мага мацней...

Большасць «казак», нагадаю, пісалася ў час буры, рэвалюцыйны. Свет раскалоўся, стаў як той лес паабапал рэчкі. Сённяшняя сітуацыя ў многім падобная. Ці не адсюль столькі часавых перагукванняў, нечаканых асацыяцый, падабенстваў?

Захапіўшыся сучаснасцю Коласавых «казак», паглыбіўшыся ў іх ідэйна-мастацкі змест, я наважылася, як кажуць, «падняць літаратуру». Як чыталі алегарычныя навелы нашы папярэднікі? Што яны знаходзілі ў непаўторным спалучэнні жыццёвага вопыту і фантазіі, мудрасці і наіву, сатыры і лірыкі? І даведалася я, што галоўнае ў «казках» — «паказ варожасці буржуазна-памешчыцкага ладу працоўным масам і сцверджанне заканамернасці рэвалюцыі» (Ю. Пшыркоў, 1951). Аказваецца, абразок «У балоце» — карыкатура на Дзяржаўную думу, «Кажух старога Анісіма» ўвасабляе кансерватызм самадзяржаўя, стары дзед («Супраць вады») — гэта царызм, «які глушыць волю падначаленых». (Звярніце ўвагу на падбор слоў!) «Стары лес» — водгук на першую сусветную вайну (твор напісаны ў 1917 годзе!), а навела «На ўсё ёсць прычына» — сатыра на «буржуазных сацыёлагаў». Як быццам у 1927 годзе Колас не меў магчымасці назіраць айчынных вучоных «крумкачоў». Вось, дарэчы, як разважае крумкач-прафесар, перакананы ў беззаганнасці сваёй навукі: «Навука, ад імя якой я выступаю, можа зусім правільна, зусім дакладна высвятліць і растлумачыць вам усё». Пазнаем мы і цвіркуна-спеўка, сапсаванага славаю. Варта было ветру пахваліць яго — і сам дрозд прыступіў да напісання манаграфіі «Цвіркун і яго музычная школа». Праўда, у тым хуткім часе манаграфія была закінута: вецер памяняў сваю думку адносна цвіркуновага голасу. Гэта ўжо куды бліжэй да нашага часу: «Цвіркун» напісаны ў 1956 годзе, незадоўга да смерці народнага песняра.

Мяняўся час — мяняліся і погляды на ідэйную праблематыку «Казак жыцця», Ю. Пшыркоў у 1960 г. у пасляслоўі да асобнага выдання ўжо менш прасталінейны ў сваім прачытанні алегарычных навел. Праўда, у некаторых момантах даследчык усё ж дапускае прыкметныя нацяжкі, — нават там, дзе змест не дае падстаў для розначытання. Напрыклад, навела «На чужым грунце» трактуецца як апавяданне пра «лёс інтэлігента-адшчапенца, які здраджвае свайму народу». Прыглядзімся ж да зместу твора. Узышло зярнятка не ў полі, дзе яму належыць расці, а ў зялёным лузе. Ні трава, ні краскі не хацелі знацца з сіраціной і дражнілі каліўца «мужыцкай уцехай». Пакутавала жыта, цярпела знявагі. Калі ж настала вялікая суш і спатрэбілася разжалабіць сонца — не змагло вымавіць ні слова, не выратавала луг. Дык адкуль матыў здрады, пра які піша крытык? Не ў тым жа здрада, што каліва выпадкова занесена на чужы грунт. І не ў тым, што цяжкая доля адабрала ў яго дар мовы. Мне асабіста бачыцца жытняе каліва сялянскім сынам у вялікім горадзе. Толькі «на чужым грунце» можна страціць крэўнае — мову.

Крытычная думка з цягам часу набывае разняволенасць, і як вужака са старой скуры вылузваецца з вульгарна-сацыялагічных схем. Там, дзе Ю. Пшыркову бачылася асуджэнне «вандроўніцтва па чужых краях без усялякай мэты» («Хмарка»), рускі даследчык Л. Чабатароў праз 7 год піша пра крытыку касмапалітызму.

Наступны і значны крок у прачытанні «Казак жыцця» зрабіў І. Навуменка ў «Духоўным вобліку героя». Параўнаем: у «Залатым промні» Л. Чабатароў бачыць крытыку рэлігіі, І. Навуменка — складаную дыялектычную сувязь неабходнасці і свабоды выбару. Калі «Купальскія светлячкі» трактаваліся папярэднікамі як крытыка «чыстага мастацтва», то І. Навуменка — піша пра «вечнасць чалавечага імкнення да шчасця». І толькі наш стары знаёмы — крумкач — застаўся ў яго «заходнім тэарэтыкам».

Менавіта І. Навуменку належаць словы, якія развеялі мае сумненні наконт правамернасці сённяшняга прачытання твораў, у якія Колас укладаў пэўны грамадска-палітычны і філасофскі змест, свае запаветныя думкі, сваё разуменне жыцця. Вось што ён пісаў: «Коласавы навелы могуць быць прачытаны інакш ...кожнае новае пакаленне знойдзе ў іх элементы, якія ляжаць бліжэй да яго духоўнага вопыту». І сапраўды: як кожны таленавіты, сагрэты сэрцам твор, «Казкі жыцця» заўжды будуць адлюстроўваць воблік таго часу, які глядзіцца ў іх пераменлівую плынь. Дык ці не насмешаць нашчадка мае «перабудовачныя асацыяцыі»?

Так ці інакш — я не магу ад іх так проста адмахнуцца. У ідылічны, сапраўды казачны свет прыроднай гармоніі і прыгажосці паэт нязменна ўплятае матывы спрэчкі, нязгоды, бойкі. У насякомых і тых няма ладу паміж сабою. Восы першымі ўспомнілі, для чаго ў іх джалы. А паколькі яны «залішне высока неслі сябе і ўсім у вочы казалі, што восы — гаспадары над усімі мошкамі ў свеце», то не праміналі пусціць гэтыя джалы ў ход («Асінае гняздо»). Толькі перад сваім канцом адчула хараство жыцця адзінокая хвоя («Што лепей?»). Што лепей, пытаецца пісьменнік, «пражыць свой век ціха, спакойна, не пазнаўшы, як міла жыццё», ці пазнаць яго хараство і вартасць цаной вялікага няшчасця? У гэтым запытанні — адказ. Колас пратэстуе супраць расліннага існавання, супраць слепаты, якую схільны лічыць шчасцем, супраць бяздзейнасці. Невыпадкова рассыпаўся аднойчы і стаў кучкай шчэбеню валун, якога лес і рэчка лічылі самым шчаслівым у свеце. Мусіць, шчасця свайго не паранёс невымоўнага...

Улюбёным сваім вобразам — дрэў, птушак, крыніц, хмарак, якія ўвасабляюць адвечны рух жыцця, Колас проціпастаўляе застыўшае, нерухомае, змрочнае. Невядома з якіх часоў ляжыць пры самай дарозе Чортаў камень з аднайменнай навелы, ляжыць і людзям перашкаджае. І не знайшлося чалавека, які б яго скінуў. Па-першае, вялізны. Па-другое, разышліся думкі наконт таго, ці трэба яго наогул прыбіраць. Некаторыя лічылі, што ён зло непазбежнае і нават у нечым карыснае. «Змяняецца свет, разумнеюць людзі», аднак дасюль няма адзінства ў адносінах да Чортавага каменя: «адны стаяць за тое, каб гэту справу з каменем аддаць на суд часу; другія даводзяць, што лепш аддаць пакончыць з ім, парваўшы яго порахам». А якая думка бліжэй табе, якую адстойваеш ты, дарагі чытач? — нібыта пытаецца Колас, хаваючы ў вусах усмешку. Ён прадстаўляе нам самім шукаць ісціну, давяраючы нашаму розуму, нашаму вопыту.

Далёка не ва ўсіх выпадках аўтар саступае ўбок, прыхоўвае свае думкі на той ці іншы конт. Напрыклад, у навеле «Чыя праўда?» ён даволі яскрава выказвае сваю грамадзянскую пазіцыю. У спрэчцы маладых дубоў з іх старэйшым сябрам ён цалкам на баку апошняга. Бесклапотная моладзь радуецца сканчэнню «ліхіх часоў», радуецца вясне («...каб мог, дык выскачыў бы з грунту і пайшоў упрысядкі»), ды стары і мудры дуб перасцерагае: «Не месца радасці там, дзе ўзняліся касцяныя рукі неадхільнай смерці». Гэтыя словы маглі б стаць эпіграфам да лімаўскага артыкула «Курапаты — дарога смерці». «Дубовыя трупы» бачыць дрэва праз тоўшчу вады. (яно расло на беразе ракі). Гэтаксама і мы праз тоўшчу гадоў бачым зараз воблік бязвінна асуджаных і загінуўшых ахвяр сталінізму. Але не памыліцца і той чытач, які прачытае гэту «казку...» як спрадвечнае «Memento mori...».

Я пісала ўжо пра тое, што цыкл увесь час папаўняўся, некалькі навел напісалася і ў апошні год жыцця паэта. І толькі адна была выкінута «за борт» — «Дудар». Знакаміты рэцэнзент у 1960 годзе знайшоў у навеле «ідэйную загану» — «нацыяналістычнае разуменне адносін паміж братнімі народамі». Яму падалося, што, маўляў, на старэйшага брата ўскладаецца віна за становішча малодшага. «Ідэйныя заганы» ўгледзеў рэцэнзент і ў іншых навелах. Аднак і «Чортаў камень» (невыразнасць сэнсу), і «Жывая вада» (ідэалізацыя мінулага) засталіся, а «Дудара» не стала.

Рыхтуючы рукапіс да друку, Колас выпраўляў гэтую «казку». Напісаная адной з першых, у 1907 годзе (згодна другой даціроўцы—нават у 1906-м), яна ў завельмі слязлівым тоне прадстаўляла беларуса. (Заўважу, што жаласныя, журботныя матывы ў літаратуры таго часу былі досыць распаўсюджанымі). У канцы жыццёвага шляху Якуб Колас не мог не прыкмеціць пэўнай зададзенасці «Дудара», адсюль і праўкі. «Плакаў» выпраўлена на «гараваў», «доўгія, нудныя» (песні) на «невясёлыя». Заключны сказ «І слёзы блішчэлі на вачах Меншага брата» ў новым варыянце павінен гучаць так: «І вялікі сум адбіваўся ў вачах Меншага брата». На якой падставе ўзнікла версія «абвінавачвання» — як старэйшага брата, так і самога Коласа, — не зразумела. Хутчэй за ўсё апасенні ўнушала сама тэма, на якую ў апошнія дзесяцігоддзі было накладзена табу. «Што сказаў ты свету на сваёй мове? Хто чытаў твае думкі, работу твайго розуму і сэрца? Дзе песняры твае? Чым ты пахваліўся?» — пытаецца ў малодшага старэйшы брат. Што ж, можна лічыць, што за бягучае стагоддзе мы ў асноўным адказалі на гэта пытанне. А тады малодшы брат адно толькі жаласна прасіў не смяяцца з яго і не адбіраць таго, «што можа адабраць толькі Бог» (у пазнейшым выданні — прырода).

Калі ў ранніх навелах пераважае думка, мастацкі ўзор строга адпавядае рацыянальнай канве, то гэтага не скажаш пра напісаныя пазней творы. Яны намнога глыбейшыя, па-мастацку пераканальныя і паўнакроўныя. Гэта «Кажух старога Анісіма» і «Супраць вады», «Адзінокае дрэва» і «Крыніца». Апошняя з названых (бадай, адна з лепшых у цыкле) па сваёй ідэйнай скіраванасці блізкая да навелы «Дудар». Маці-гара наказвае крынічцы: пераадолееш абвал, які ляжа ўпоперак дарогі,—пацячэш ранейшым руслам. А не пераадолееш...

Ці не ў гэткім становішчы апынуліся сёння і мы, беларусы? Ці дадзена нам пераадолець абвал усеагульнай уніфікацыі, пра якую марыць бюракратычная машына? І што зразумееце пад абвалам новыя, будучыя чытачы дзівосных Коласавых «казак...»? Пра тое, не ведаюць ні дрэвы, ні птушкі, ні хмаркі, ні крыніцы—«Толькі людзі, і то не ўсе, а самыя сталыя, самыя разумныя з іх».

## КРЫТЫКА, БІБЛІЯГРАФІЯ

# Мерай духоўнасці

Л. ЛЕВАНОВІЧ. Хлеб і мужнасць. Нарысы. Мінск. «Мастацкая літаратура». 1987.

СЁННЯ беларуская публіцыстыка, усе яе паджанры — нарыс аналітычны ці, як кажуць яшчэ, дактаральны, эсэ, артыкул, нарыс гістарычны і нарыс-партрэт — выйшлі на самы гарачы, самы пярэдні край барацьбы за перабудову. Задача ў яе няпростая: перафарміраваць грамадскую свядомасць, дапамагчы вынішчыць з жыцця розныя дэпрэсіўныя сацыяльна-эканамічныя праявы. Аднак жа відавочна, што аналітычны нарыс у пісьменніцкай практыцы трымае пальму першынства (В. Якавенка, А. Казловіч, І. Дуброўскі, В. Шырко і інш.). У такім нарысе зазвычай адна якая-небудзь шматмерная сацыяльная ці эканамічная праблема пранікліва аналізуецца, як мага паўней і глыбей даследуецца нарысістам.

Што ж тычыцца Л. Левановіча, аўтара публіцыстычнага зборніка «Хлеб і мужнасць», то ён стаіць ад названых нарысістаў трохі зводдаль — Левановіч рашучы прыхільнік нарыса-партрэта. Хоць, канечне ж, пісьменнік-публіцыст не цураецца і грамадска значных праблем. Такія нарысы маюць і свае мінусы, і свае плюсы. У іх (зразумела, не ва ўсіх) менш угнявана-выкрывальных філіпік, маралізатарства і дыдактыкі. Затое больш цеплыні, нейкага ўнутранага свячэння, жывых пачуццяў і галасоў — больш душы чалавека.

Вось «Зямля і людзі», падарожны твор, які займае ледзь не палову кніжкі. Гэта — аповед пра паэтычна-драматычную, а не пампезна-афіцыйную эпапею асваення цаліны, што даўно адшумела, сышла з параднай сцэны грамадскага жыцця. Ці нам цікава сёння чытаць пра яе? Колькі ўжо было напісана на цалінную тэму! Мабыць, як для каго. Для адных цаліна ўжо як бы не існуе. А для другіх, колішніх цаліннікаў, жыццё і лёс былой залежы і хвалюе, і заваблівае. Прынамсі, цяпер з дыстанцыі гадоў, з вышыні жыццёвага вопыту і абноўленага часам пагляду. Яна — яркая часціна біяграфіі, душы цэлых пакаленняў, і яе так вось проста не выкрэсліш, не забудзеш. Тым больш што і сёння цаліна ў поце працуе, дае нам хлеб.

Тры разы, даведваюся, аўтар пабываў на цаліне (як газетчык і тэлежурналіст) — у 1964 і 1983 гадах, і ў прамежку між імі. Пажыў у розных гарадах і гаспадарках Казахстана. Яму закарцела адшукаць беларусаў-цаліннікаў, расказаць пра іх лёсы, а задно — і пра няпросты лёс самой цаліны.

Што ж адкрыў нам публіцыст, як расказаў? Перачытаў дзве першыя ягоныя вандроўкі, адчуў: амаль нічога не засталося ад іх ні ў памяці, ні ў душы. І гэта аж здзівіла: такі цікавы край, адметныя людзі... Тым больш, што падарожныя ўражанні свае аўтар перадае ў форме дзённіка. А ад дзённікавых запісаў заўсёды чакаеш, што публіцыст адкрыецца з усёй душэўнай шчодрасцю: захоплена і ўражліва выявіць сваё непаўторнае ўспрыманне першароднага казахстанскага стэпу, люду і працы яго. Дасць сваю выразную інтэрпрэтацыю мясцовага жыцця і побыту з усімі іх радасцямі і горасцямі. Марна. Пэўна, таму, што нарысіст задужа эскізна, інфармацыйна і сузіральна-павярхоўна перадае свае ўражанні, апісвае характары і спантанныя размовы. Як бы яму заўжды бракавала часу пільней прыгледзецца да людзей, пранікнуцца іх жыццём, думкамі-настроямі. Зноў жа і кампазіцыйна-нарысавыя запісы стэрэатыпныя: мініяцюрная пейзажная экспазіцыя, беглыя згадкі пра герояў, сякія-такія падзеі, размовы...

Зрэшты легкаважнасць іх добра разумее і сам журналіст, у чым нібы між іншым і прызнаецца ў прадмове.

«3 кастрычніка.

Раніца. На небе лёгкія ружаватыя аблачынкі, над імі вісіць тонкі крываваты асколак месяца...

Учора была добрая рыбалка і надзвычай смачная юшка. Жэрдзеў усё-такі прыйшоў, а Пеніна не дачакаліся». («Вандроўка першая».)

«4 ліпеня.

Што за дзень! Якое тут дзіўнае возера Імантаўскае! Сопкі, парослыя соснамі, бярозамі...

Сяло Імантаў вялікае, жывуць казахі, рускія, беларусы, украінцы, татары. Усяго больш за дваццаць нацыянальнасцей. Маруся з Іосіфам пераехалі сюды нядаўна: перацягнуў дырэктар саўгаса Ултай Нурсеітаў. Ён адразу мне спадабаўся: смуглявы, каржакаваты, з прыемнай усмешкай. Куляш — ягоная жонка — прыемная, мілая жанчына». («Вандроўка другая».)

Пэўна ж, каб не турботныя праблемы вады, паліва і безадвальнага ворыва, якія па-новаму, нечакана і трывожна прасвечваюць жыццё і душы цаліннікаў, то ўжо і цярпенне не хапіла б, каб дачытаць гэтыя падарожныя дзённікі.

Пра вострую нястачу пітной вады, паліва — усё трэба прывозіць здалёку — сказана ў нататках аднойчы, калі аўтар горка шкадуе, што паўсюль у тутэйшых гаспадарках высякаюцца дрэвы і што вада мясцовых азёр, рэк нягодная для пітва.

Што ж датычыцца праблемы безадвальнага ворыва, то яе публіцыст ніколі не выпускае з поля зроку — настолькі яна важная, актуальная для лёсу цаліны (і не толькі).

Непакоіць яна Л. Левановіча і пад час трэцяга падарожжа — апошняга, развітальнага — у саўгас «Мінскі» Цалінаградскай вобласці. Падарожжа гэтае, узноўленае ў замалёўках з натуры, успрымаецца жывей, цікавей. Бо ў словах і ўчынках герояў (а яны ў іх непадзельныя!) высвечваецца сутнасная адметнасць чалавечых душ. Кожная з замалёвак прысвячаецца то аднаму, то двум-тром слынным будаўнікам, хлебаробам, жывёлаводам, партыйным кіраўнікам і вучоным. Часцей — беларусам. А ўсе разам гэтыя замалёўкі складаюць выразную галерэю знакамітых стэпавікоў. Тут будаўнік Манулевіч і чабан-беларус (!) Пікалевіч, механізатар Маскалевіч, сакратар райкома Кулага, акадэмік Бараеў...

Усе яны — людзі творчыя, са сваім бачаннем жыцця і свету. Асобы. Гаспадары цаліны. Пачынальнікі перабудовы, як мы цяпер гаворым, хоць тады пра яе яны і ведаць не ведалі. Лепшае сведчанне гэтаму — іхнія ўчынкі. Манулевіч адмаўляецца будаваць вышынныя дамы ў пасёлку, бо справа гэта гіблая, паказушная. «Як пекануць маразы, — даводзіць ён, — дык у гэтых катухах-клетках будзе што ў халадзільніку. Батарэі палопаюцца, сцены абрастуць інеем, як мохам. І ніхто жыць не будзе».

У такім хвалебным тоне можна было б распавядаць і пра іншых дзейных асоб з нарыса «Хлеб і людзі». Аднак лепш спынюся на самай галоўнай, задушэўнай іх думцы-турботе: далейшы лёс цалiннай зямлі. Пошук новага спосабу апрацоўкі яе. Чаму новага і чаму стары раптам стаў непрыдатны?

Нізкія цалінныя ўраджаі, засілле пустазелля, знішчэнне глебы з-за няправільнай апрацоўкі, хуткае выпарванне вільгаці. А галоўнае — ветравая эрозія, лютаванне над стэпам чорных бураноў, што «да пяску раздзіралі» ніву... Вось да чаго давялі цаліну людзі ў выніку свайго неабдумана-традыцыйнага гаспадарання.

Трэба было неяк ратаваць цаліну, укараняць новую агратэхнічную сістэму, новыя метады гаспадарання. Усе жахлівыя прыродныя метамарфозы знаходзілі сваё дэтэрмініскае тлумачэнне. Не былі фатальна непазбежнымі. Вопыт дзядоў, земляробчая практыка народнага акадэміка Цярэнція Мальцава і падказалі тую новую агранамічную тэхналогію, канцэпцыю. Апрацоўваць чарназём не плугамі, а культыватарамі-пласкарэзамі, сеяць травы, пакідаць чыстыя папары, высокае ржышча, якое раней спальвалі, але якое, аказваецца, «як браня, ахоўвае глебу ад ветру і воднай эрозіі».

Такая навукова-абгрунтаваная, культурная сістэма земляробства, што хутка ўмацавала б здароўе цаліны і падняла б ураджаі, была нязвыклай, новай. Таму прыхільнікі яе адразу адчулі бар'ер (у тым ліку і псіхалагічны). Супраціўленне безлічы незычліўцаў на чале з М. С. Хрушчовым, ініцыятарам і дырыжорам асваення цаліны, якім патрэбны былі не травы і папары, а вал, вал... Чым больш насееш, тым лепш.

Тым не менш людзі самастойнай думкі і незалежнага характару, што па-сапраўднаму хварэлі за лёс цаліны, не адступілі. (Кіраўнікі саўгасаў Жэрдзеў і Нурсеітаў, сакратар райкома Кулага і акадэмік Бараеў).

Толькі на пачатку 60-х яшчэ не застойных гадоў «безадвалка» трывала прыжылася на цаліне.

Адчайныя прыхільнікі і абаронцы новай землеапрацоўчай сістэмы знайшліся і ў нас, на Беларусі. Камбайнер Генадзь Ткачук з Гродзеншчыны (нарыс «Хлеб і мужнасць»), аграном, былы цалiннік, Герой Сацыялістычнай Працы Іван Данілевіч з Іванаўскага раёна («Глыбокія карані»).

Калі Генадзь Ткачук яшчэ толькі марыць пра «безадвалку», то Іван Данілевіч даўно ўжо ўкараніў яе ў сваім калгасе, стаў «беларускім Мальцавым».

Дзейсная энергія такіх людзей, іх мары-думы, як і сакратара Кастрычніцкага райкома партыі Яськова (нарыс «Вернасць»), ці старшыні калгаса Шарэцкага і парторга Загараднюка («Сэрца ў будучыні жыве») арганічна ўпісваюцца ў плынь сучаснага светаадчування. Яны, актывісты перабудовы, як бы пазначаны геннай еднасцю. Іх працоўная сумленнасць, адметны прафесіяналізм і духоўная культура найлепшым чынам сведчаць пра кардынальныя і незваротныя зрухі ў нашым грамадстве, у свядомасці яго.

Пра перадавога партыйнага работніка нашы публіцысты пішуць не так ужо шмат. Тым больш цікава: які ён сёння? Чым розніцца ад былых? Якім выяўляецца, у прыватнасці, у нарысе «Вернасць», Вячаслаў Якаўлевіч Яськоў? Так, гэта зусім новы тып партыйнага кіраўніка, народжаны нашым часам. Перш за ўсё Вячаслаў Якаўлевіч — чалавек канкрэтнай справы, высокай культуры і маральнасці, для якога арганічна чужародны, непрымальны адміністрацыйна-камандны, прасталінскі метад кіравання. Вобраз яго раскрываецца ў розных жыццёвых сітуацыях: і пад час вырашэння жыллёвых пытанняў, і пытанняў выхавання, і ратацыі партыйных кадраў, укаранення брыгадных форм працы на прадпрыемствах Кастрычніцкага раёна сталіцы...

«— Калі прыйшоў да нас Вячаслаў Якаўлевіч, мы адразу адчулі перамены... — гаворыць аўтару нарыса Катлабай, загадчык аддзела прамысловасці райкома партыі. — Мы адчулі і дэмакратызм, і патрабавальнасць, давер да кадраў».

Дарэчы, варта зноў згадаць тут персанажаў нарыса «Сэрца ў будучыні жыве»: Шарэцкага, загадчыка кафедры Мінскай ВПШ і дацэнта Загарад-

НАДРУКАВАНА Ў «КНИЖНОМ ОБОЗРЕНИИ»

# КАБ НЕ СТРАЦІЦЬ ДУШУ...

Найбольш яркія старонкі біяграфіі пісьменніка Авідзія Гарчакова звязаны з падзеямі Вялікай Айчыннай вайны, калі ён у маладым узросце прымаў актыўны ўдзел у барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, быў кіраўніком разведвальнай групы, што дзейнічала ў тыле ворага. Пасля вайны А. Гарчакоў закончыў Літаратурны інстытут імя Горкага, стаў прафесійным літаратарам. У кнігах сваіх у асноўным расказвае аб падзеях, непасрэдным удзельнікам якіх быў.

Чытачу добра вядомы кнігі А. Гарчакова пра разведчыкаў: «Максім» не выходзіць на сувязь», «Лебядзіная песня», «Ён жа капрал Вудстак» і іншыя. І ўсё ж найбольш папулярная аповесць і сцэнарый тэлефільма «Выклікаем агонь на сябе», напісаныя А. Гарчаковым сумесна з палякам Я. Пшыманоўскім. Дарэчы, фільм адзначаны прэміяй Ленінскага камсамола.

Як высветлілася, у архівах пісьменніка ўжо сорак гадоў захоўваецца яшчэ адзін твор — тэтралогія «Па-за законам», цалкам пабудаваная на аўтабіяграфічным матэрыяле, пры тым на матэрыяле, што мае непасрэднае дачыненне да падзей, якія адбываліся ў пачатку вайны на тэрыторыі Беларусі, на Магілёўшчыне. З часопісным варыянтам першага рамана пазнаёміла чытачоў у некалькіх нумарах газета «Книжное обозрение». У творы, напісаным дваццацічатырохгадовым тады А. Гарчаковым, расказваецца пра дзейнасць партызанскага атрада разведчыкаў штаба Заходняга фронту.

Дзеянне твора разгортваецца востра, дынамічна, часам драматычна і нават трагічна. У сутыкненне з Самсонавым, самазваным савецкім капітанам, уступае малады, нявопытны баец. Вядома ж, сілы няроўныя, але Гарчакоў не здаецца. Няхай не змог ён прадухіліць расстрэлу юнай Надзеі Калеснікавай, спасаваў перад іншымі цяжкасцямі, ды не ідзе на змову з уласным сумленнем. Невыпадкова адмаўляецца расстраляць партызана Пакацілу, бо верыць у яго невіноўнасць. Адмаўляецца, хоць гэта не падабаецца Самсонаву.

Як заўважае ў «рэцэнзіі на кнігу, якая не выйшла» пісьменнік У. Бяляеў («КО», № 19, 1988), «адным з першых чытачоў рукапісу Гарчакова быў вядомы пісьменнік Васіль Гросман... «Не ідзіце ні на якія паслабленні!— сказаў Гросман.— Менавіта так трэба пісаць пра вайну». Высока ацаніў рукапіс і У. Цендракоў. Саму ж публікацыю ўхвальна сустрэў Васіль Быкаў.

Думаецца, яго «ліст сябру», як ён пазначаны ў тым жа нумеры «КО», варта прывесці цалкам:

**«Дарагі Авідзій!**

**Дзякуй за памяць і ўвагу — з найвялікшай цікавасцю прачытаў урыўкі з твайго рамана. Ці трэба казаць, наколькі ўсё гэта здзіўляе ўяўленне, здзіўленае, дарэчы аднойчы і на ўсё жыццё. Вельмі дакладны, праўдзівы і глыбокі канфлікт, бясстрашша праўды — ўсё гэта тыя якасці рамана, якія заўважаюцца пры першым прачытанні. Ды і вобразы, зразумела, сапраўдныя, амаль усе з якіх пайшлі ў мінулае, цяпер такія ўжо не сустракаюцца ні ў жыцці, ні ў літаратуры.**

**Я даўно і нязменна цаню цябе як аўтара партызанскай тэмы, заўсёды з хваляваннем чытаю твае ваенныя рэчы. Шкада, дружа, што апошнім**

нюка. Згадзіцеся, падобная сітуацыя нестандартная, нават парадаксальная: два вучоныя мужы вырашылі кінуць высокія свае пасады, «цёплыя месцы», каб узначаліць, вывесці з прарыву занядбаны калгас «Чырвоны сцяг», што на Валожыншчыне.

Планы ў новых кіраўнікоў проста грандыёзныя: поўная сацыяльная перабудова вёскі Доры, усяе гаспадаркі. Пасля эканамічны эксперымент, вырашэнне звышзадачы — на грунце інтэграцыі суседніх гаспадарак стварыць аграпрамысловае аб'яднанне, якое будзе збіраць багаты ўраджай, само перапрацоўваць, атрымліваць мільёны прыбытку.

Цяжкасцей было не злічыць. Па ўсіх сацыяльна-эканамічных параметрах: бедныя землі, пазыка ў мільёны рублёў, вясковае малалюддзе.

Пачалі па сутнасці з нуля, з будаўніцтва дзіцячага сада, кватэр і дарог.

Праз два гады планы-мары іх сталі здзяйсняцца.

Не раз думалася: як важна, што ў нас былі і ёсць такія неўтаймоўныя парадаксальныя натуры. Яны — наша духоўнае свята, агні-арыенціры, вечныя рухавікі прагрэсу. У такіх людзей адна маральная пазіцыя — сумленне. Менавіта з такой пазіцыі яны і вырашаюць усе сацыяльныя і маральныя праблемы.

Шкадуеш, што не ўсе творы Л. Левановіча напісаны на добрым эстэтычным і ідэйна-мастацкім узроўні. Прыкметная вяласць апавядання і аморфнасць, стылёва-выяўленчая аднастайнасць — ці ж можа такое завабіць чытача? (Нарысы «Чалавек і машына», «Там, дзе Бесядзь-рака», «Майстар», «Кіно, якое не канчаецца»). Выдаткі? Яны накшталт тых, што прыводзіліся на пачатку нашай размовы. Не радуе і катэгарычнасць, адназначнасць у ацэнцы некаторых праблем і герояў (калі яны правільныя, дык ідэальна правільныя). Такія ацэнкі аўтаматычна навязваюцца чытачу, тым самым уніфіцыруючы яго думкі і пачуцці. У такіх твораў няма псіхалагічнай атмасферы, прастору для плюралістычных меркаванняў і дыскусій. Бо ісціна, вядома ж, робіцца ісцінай, калі яна нараджаецца ў спрэчках.

Суцяшае, што хвалюючая вастрыня праблем, жывыя галасы многіх герояў неяк скрадваюць, прыглушаюць гэтыя недахопы, завалодваюць чытацкай увагай.

І тут міжволі думаеш, што эстэтычная мера публіцыстычнага слова — гэта найперш мера шчырасці, сумленнасці, трапяткой любасці да жыцця і людзей. Мера духоўнасці.

Міхась ВЫШЫНСКІ.

---

**часам ты змоўк, і літаратуры аб вайне так не хапае тваёй пранізлівасці. Вельмі патрэбна, і як мага хутчэй, выдаць гэты твой ранні раман. Няхай у ім, магчыма, не хапае майстэрства чыста літаратурнага, затое там крычыць праўда. А гэта важней за ўсё.**

**Вельмі жадаю табе іншых, новых поспехаў і — здароўя, вядома. Здароўе цяпер нам, відаць, важней за ўсё.**

**Дзякуй!**

**Абдымаю — Васіль Быкаў».**

У рамане ёсць такія развагі А. Гарчакова: «Чаго варта перамога, калі, заваёўваючы яе, мы страцім душу!» Правільныя словы. Тэтралогія «Па-за законам», як відаць з часопіснай публікацыі, і накіравана супраць таго, каб чалавек не страчваў душу. Ніколі, ні ў якіх абставінах, якімі б складанымі яны ні былі.

**А. КУНЦЭВІЧ.**

---

**З РЭДАКЦЫЙНАЙ ПОШТЫ**

# А ЦІ ТАК ГЭТА САПРАЎДЫ?

**Мы атрымалі нямала водгукаў на артыкулы члена-карэспандэнта АН БССР А. І. Жураўскага, змешчаныя ў газеце «ЛіМ» (5 лютага г. г.) і часопісе «Беларуская мова і літаратура ў школе» (1988, №№ 1—2). Нашы чытачы выказваюць нязгоду з пазіцыяй вядомага вучонага, аспрэчваюць асобныя яго думкі і палажэнні.**

**Сёння мы змяшчаем адзін з такіх лістоў. Належыць ён пастаяннаму нашаму чытачу і аўтару, фізіку па адукацыі В. Голубу.**

АСНОЎНАЙ задачай лінгвістаў і мовазнаўчых устаноў з'яўляецца падтрымка стабілізацыі літаратурнай мовы. Для беларускіх мовазнаўцаў гэтая задача не новая. Да прыкладу, Інстытут мовазнаўства працуе над ёй увесь перыяд свайго існавання. На першапачатковым этапе (30—50 гады) нармалізацыя беларускай мовы адбывалася тут пад знакам гвалту над чалавекам, пад страхам быць рэпрэсіраваным. У далейшым, ідучы па акрэсленым у тыя гады курсе, інстытут распрацаваў некалькі слоўнікаў і граматык. Але якасць нармалізацыі аказалася зусім невысокай. Аб гэтым сведчыць той факт, што і пасля выхаду з друку гэтых прац беларуская мова па-ранейшаму адносіцца, як прызнаецца А. Жураўскі ў артыкуле «Беларускае савецкае мовазнаўства: здабыткі, праблемы, шляхі развіцця» («Беларуская мова і літаратура ў школе», 1988, № 2), к мовам з няўстойлівымі граматычнымі і лексічнымі нормамі. Тлумачыць гэта можна толькі адным — пэўнымі пабочнымі меркаваннямі ў пытанні нармалізацыі, несумяшчальнымі з сапраўды навуковым падыходам. Убачыць прыкметы гэтых меркаванняў можна ўласнымі вачыма, калі ўважліва прыгледзецца да поглядаў дырэктара Інстытута мовазнаўства А. Жураўскага.

**Краевугольным каменем яго пазіцыі ў пытанні нармалізацыі з'яўляецца сцвярджэнне, што тагачасныя (да 30-х гадоў) мовaведы аднесліся «зняважліва да ўліку гістарычных тэндэнцый развіцця... беларускай мовы». На жаль, аўтар палічыў за лепшае не акрэсліваць у сваіх артыкулах сутнасць гэтых тэндэнцый і іх накіраванасць. Але гэта не такое ўжо вялікае гора — можна і самім скеміць з ягоных разважанняў, у прыватнасці, у згаданым артыкуле. Прыпынімся ж на іх.**

Аўтар паведамляе, што «парны лік выйшаў з ужытку ў эпоху ўтварэння ўсходнеславянскіх моў». Што датычыць беларускай мовы, то ён заўважае, што ў ёй толькі ў гаворках захаваліся рэшткі форм парнага ліку **вачыма, плячыма**. Далей ён заўважае, што ёсць аўтары, якія ўжываюць гэтую форму ў некаторых іншых словах і называе гэтую з'яву «культывацыяй архаічных рыс у марфалогіі».

А. Жураўскі тут як быццам бы імкнецца к нармалізацыі. Гэта добра, але трэба адначасова адзначыць, што такая нармалізацыя можа быць нават шкоднай, калі рэшткі чаго-небудзь адмаўляюцца, як гэта робіць А. Жураўскі, толькі на той падставе, што гэта рэшткі. Што было б, калі б, напрыклад, рускія мовaведы глядзелі такім скосым гістарычным вокам на рэшткі парнага ліку ў рускай мове? Яны б таксама патрабавалі замяніць канчаткі парнага ліку ў назоўніку **берега, города, поезда** і г. д. на іншыя канчаткі і было б **городы, поезды, береги** і г. д. Але не робяць, штосьці ёсць прывабнае, разумнае іншы раз і ў рэштках.

З так называемым улікам гістарычных тэндэнцый і перспектывы аўтар імкнецца глянуць на канчаткі аддзеяслоўных назоўнікаў тыпу **аднаўленне** ў спалучэнні з прыназоўнікам **па**. Як паведамляе аўтар, да сярэдзіны XVI стагоддзя беларусы ўжывалі ў такіх выпадках канчатак — **і (па аднаўленні)**, але ўжо ў Статуце 1588 г. ужылі канчатак—**ю (па аднаўленню)**. Чым гэта не праблема? Праблема. Жураўскі вырашае яе так, што апошні канчатак аб'яўляецца канчаткам больш паслядоўнай нармалізацыі. Толькі чаму такая нармалізацыя з'яўляецца больш паслядоўнай, аўтар не тлумачыць. У сувязі з гэтым узнікае пытанне: «А ці так гэта сапраўды?».

Адказаць на гэтае пытанне не так ужо і цяжка. У беларускай мове існуе група адпрыметнікавых назоўнікаў тыпу: актыўнасць (актыўны), магчымасць (магчымы) і г. д. Гэтыя назоўнікі ў спалучэнні з прыназоўнікам **па** маюць канчатак **—і**. Такі ж канчатак маюць яшчэ аддзеяслоўныя назоўнікі другога тыпу: агітацыя (агітаваць), нармалізацыя (нармалізаваць) і г. д. Такім чынам, добрасумленная нармалізацыя канчаткаў назоўнікаў з прыназоўнікам **па** патрабуе выкарыстання не канчатка — **ю**, а канчатка — **і** ў разгляданым выпадку. Зразумела, калі кіравацца імкненнем да навуковай, а не да прымітыўнай нармалізацыі, пошукам больш шырокіх заканамернасцей, а не пабочнымі меркаваннямі. Трэба адзначыць яшчэ, што канчатак **ю** ў згаданым выпадку не нясе на сабе ніякай сэнсавай нагрузкі, таму ў рамках патрабаванняў нармалізацыі ён выглядае непатрэбнай з'явай. Яго далейшае выкарыстанне не апраўдана нічым і прыносіць толькі блытаніну.

**Сучаснай беларускай літаратурнай мове не ўласціва шырокае ўжыванне дзеепрыметнікаў цяперашняга часу. Гэта адпавядае яе народнадыялектнай аснове, народ у размове практычна абыходзіцца без іх. Гэта чамусьці не падабаецца А. Жураўскаму, яму хочацца, каб іх шырэй ужывалі ў беларускай літаратурнай мове. Так узнікае новая штучная праблема. Для вырашэння гэтай праблемы Жураўскі зноў звяртаецца за дапамогай да «ўліку гістарычных тэндэнцый». Каб зрабіць гэтае вырашэнне падобным на навуковае, аўтар карыстаецца паслугамі літаратуры даўно мінулых часоў і паасобнымі творамі 20-х гадоў нашага стагоддзя. Але ж усе аўтары разгледжанай літаратуры мінулых стагоддзяў пазнавалі пісьменнасць і асвету праз царкоўнаславянскія падручнікі і школы. Па гэтай прычыне іх творы нават свецкага характару не маглі не ўтрымліваць пэўных элементаў царкоўнаславяншчыны, якія былі неўласцівыя народнадыялектнай аснове беларускай мовы. У прыватнасці, згаданыя дзеепрыметнікі. Што да ўжывання дзеепрыметнікаў у паасобных творах літаратуры 20-х гадоў, то яно таксама не дае глебы пад «гістарычныя тэндэнцыі» Жураўскага, бо гэта была толькі спроба культывацыі архаічнага немастацкага сродку ў мастацкай літаратуры. Аўтар пастараўся абысці маўчаннем адзначаныя асаблівасці літаратурных крыніц, на якія ён спасылаецца. Бо гэта не ў інтарэсах яго пабочных меркаванняў.**

Варта прыпыніцца на разважанні А. Жураўскага адносна сінонімаў: калодзеж—студня, мел—крэйда, рад—шэраг і г. д. Як вядома, сінонімы ў любой мове карысныя, яны ўзбагачаюць мову. Яны вітаюцца ў любой мове, ва ўсіх краінах толькі не дырэктарам Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук БССР. Тут усё наадварот, што відаць з такой ягонай заявы: «такое становішча (маецца на ўвазе існаванне згаданых сінонімаў, у прыватнасці. — **В. Г.**) не ідзе на карысць беларускай літаратурнай мове, зніжае яе грамадскі прэстыж, вядзе (уявіць сабе толькі. — **В. Г.**) да змяншэння колькасці людзей, якія ёю карыстаюцца.»

**Ці не дзіўна ўсё гэта? Толькі А. Жураўскі клапаціўся, як бы ўзбагаціць беларускую літаратурную мову дзеепрыметнікамі цяперашняга часу, а тут, у справе з сінонімамі, гэты клопат выветрыўся немаведама куды. Але дзівіцца тут няма чаму, бо ўсе гэтыя выказванні — з'явы адной паслядоўнай палітыкі. Прычым адзінай і паслядоўнай толькі ў тым выпадку, калі пагадзіцца з думкай, што мэтай дзейнасці Жураўскага (і ягоных некаторых паплечнікаў) у галіне мовазнаўства з'яўляецца дэфармацыя беларускай мовы да выгляду, скажам, усходнеаршанскага дыялекту, блізкага да суседняй мовы.**

Сапраўды, у рамках гэтых меркаванняў, навошта беларускай мове рэшткі парнага ліку, калі іх няма ў згаданым дыялекце? У гэтым дыялекце пэўных аддзеяслоўных назоўнікаў ў спалучэнні з прыназоўнікам **па** маюць канчатак — **ю**, значыць і ў беларускай мове трэба ўкараніць яго. Хоць і рэдка, але ўжываюцца дзеепрыметнікі цяперашняга часу ў згаданым дыялекце, таму ўзнікае думка ўзбагаціць імі і беларускую мову. Ёсць у беларускай мове словы-сінонімы, адно з якіх мае аналаг у згаданым дыялекце, а другое—не. Як тут не паклапаціцца аб беларусах і пазбавіць іх «мук» вывучэння апошняга?

Словам, за якую задачу па нармалізацыі беларускай мовы Жураўскі ні бярэцца, усе шляхі «вырашэння» вядуць у адно рэчышча.

У гэтым жа рэчышчы знаходзяцца таксама заўвагі А. Жураўскага па мове артыкула А. Каўко «Нялёгкія дарогі кнігадруку» («Полымя», 1987, № 10).

**Як вядома, жыццёвы шлях Скарыны пачынаўся не ў Маскоўскай дзяржаве. Зразумела, што ён пісаў і вымаўляў сваё імя так, як рабіла гэта тагачаснае тамашняе асяроддзе: не інакш, як Францішак! Гэтай формай свайго імені ён ганарыўся і не выракаўся яе. Аб гэтым сведчаць выданні яго кніг і яго ўласнае ўжыванне яе там, дзе размова ўяўляе сабой штосьці накшталт афіцыйнай інфармацыі аб сабе...**

**Ф. Скарына быў, несумненна, чалавекам з высокай моўнай культурай. Таму, даючы звесткі аб сабе, ён не мог тут ужыць «сямейна-бытавую форму імя, якую для Скарыны ўжывалі яго сваякі і блізкія», як лічыць А. Жураўскі («ЛіМ», 24.07.87). Скарына мог ужыць сваё імя толькі ў той форме, якую ён сам і тагачаснае асяроддзе лічылі за асноўную, грамадскую.**

На думку А. Жураўскага, беларусам трэба дапасаваць і ў напісанні і ў вымаўленні імя Скарыны да той формы, якую яно мае ў рускай літаратурнай мове, г. зн. **Франциск**. Але ж храналагічна ў вялікарускую літаратурную мову, дакладней у царкоўнаславянскую мову таго часу імя Скарыны прыйшло толькі з пашырэннем яго выданняў у Маскоўскай дзяржаве. Ужывалася яго калькаваная форма, без уліку вымаўлення. Дык як жа можна «клеіць» Скарыне «гістарычнае» імя ў форме Францыск, калі ў нас на парадку дня стаіць стабілізацыя, нармалізацыя мовы?

«А. Каўко... не прыняў пад увагу, што ў рускай навуковай літаратуры ўжываецца форма **«Франциск»**. Так А. Жураўскі нечакана для сябе і чытачоў ускрывае (раней гэтага ён старанна пазбягаў) сутнасць сваіх пабочных меркаванняў.

Не падабаецца А. Жураўскаму слова **згадаць**. Ён нават пастараўся вынесці гэтаму слову своеасаблівы «смяротны прысуд»: «з рэсурсаў эмігранцкіх выданняў»; «не характэрна для беларускай народна-дыялектнай мовы»; «у... «Слоўніку беларускіх гаворак паўночна-усходняй Беларусі і яе пагранічча» (менавіта сюды ўваходзіць і згаданы ўсходнеаршанскі дыялект. — **В. Г.**) зафіксаваны некалькі такіх слоў, але ў іншым значэнні.

Цяжка паверыць у справядлівасць гэтага прысуду. Таму, прыгледзімся лепш да артыкула А. Каўко. Перш-наперш спынім увагу на наступных выразах у гэтым артыкуле: «таямнічая згадка аб невядомым друкару» (с. 187), «лічу мажлівым згадаць», «летаргія нацыянальнага жыцця, пра якую згадваў М. Багдановіч» (190), «міжволі згадаеш словы» (200). Як бачым, сінонімамі гэтым словам з'яўляюцца словы **успамін, успамінаць** у адпаведнай форме. А гэта азначае, што А. Каўко ўжывае гэтыя словы ў поўнай адпаведнасці з ТСБМ. Цяпер спынімся на такіх выразах, як «нельга замоўчваць згаданага пытання» (с. 190), «у толькі што згаданым зводным каталогу» (101), «у згаданых друкарнях» (198), «згаданы Статут» (198), «ужо згаданы польскі пісьменнік» (201) і г. д. Калі б усе гэтыя выразы мы пісалі па-руску, то мы тут усюды ўжывалі б словы: **упоминать, упомянутый** у адпаведнай форме. Пабочныя меркаванні і асабістыя густы Жураўскага не дазволілі замацавацца слову **згадаць** у гэтым значэнні ў ТСБМ. Але яно адлюстравана ў «Руска-беларускім слоўніку» 1953 года выдання. І таму А. Каўко меў усе падставы ўжываць слова **згадваць** і вытворныя ад яго.

Такім чынам вынікае, што разважанні Жураўскага вакол артыкула А. Каўко носяць характар дэмагогіі. Яшчэ горш, што за гэтай дэмагогіяй стаіць, як цень, паклёп на аўтара артыкула, у якога «аўтарытэт эмігранцкіх выданняў аказваецца вышэйшым», які «імя Скарыны падае як у заходнім друку» і г. д.

**Дзякуючы адміністрацыйна-бюракратычнай антынацыянальнай моўнай палітыцы 30—80-х гадоў пэўная і значная частка беларусаў была дзе прама, дзе ўскосна пастаўлена ва ўмовы, якія ўсё больш і больш адрывалі іх ад роднай мовы. Па сутнасці гэта палітыка ўяўляла сабой палітыку ліквідацыі двухмоўя шляхам валюнтарысцкага ператварэння мовы міжнацыянальных зносін у дзяржаўную. Відавочным вынікам такой палітыкі з'яўляецца амаль поўная адсутнасць двухмоўя ў сталіцы і ў абласных цэнтрах. Другім яе вынікам стала тое, што мова пэўнай часткі сялян-беларусаў перасыпана русізмамі, у якіх яна не мае ўнутранай патрэбы. Апошняе не засталося па-за ўвагай Жураўскага. Але адпаведную выснову з яе вучоны зрабіць не здолеў ці не захацеў і насуперак усякай логіцы пачаў разглядаць гэты моўны вінегрэт як гаворку беларускай мовы. А чаму не рускай? Ён жа, гэты вінегрэт, не менш падобен і на рускую.**

**Вядома, рускаму мовазнаўству, народу такі вінегрэт не патрэбен. Па той жа прычыне няма абсалютна ніякай унутранай патрэбы ў ім і ў беларускага мовазнаўства, народа. Ён патрэбен, па-першае, таму колу чыноўнікаў, для якіх ленінскі запавет у нацыянальным пытанні стаў на справе фількінай граматай. Па-другое, ён патрэбен яшчэ пэўным колам «навукоўцаў», якія паразітуючы на густах згаданых чыноўнікаў, імкнуцца «вырасці» да наступнага навуковага звання, да больш высокай пасады.**

**В. ГОЛУБ.**

г. Обнінск.

## ПАЭЗІЯ

Алег ЛОЙКА



# МЫ — НЕ РАБЫ...

## Дыпціх

### I

Уладзіміру ДАМАШЭВІЧУ

Калі былі рабы,
Рабамі не былі мы
Ні Кіева, ні Рыма;
І моцны, і слабы,
Былі мы—не рабы,
Скарыны і Багрымы.

Хмяльніцкага, Вашчылы
Страмёны і чубы.
Дрыжалі Радзівілы:
«Вашчылы — не рабы!»...

У світках касінеры...
Прэч, страху цень рабы!..
«Касцюшкавы жаўнеры —
Ніколі не рабы!»...

У Яські-гаспадара,
Як ясені, дубы,
На веснавых выжарах
Паўстанцы—не рабы!..

Чаго ж цяпер не стала:
Вадохрышча, красала?..
Чаму, нібы грыбы,
Гарбаціцца любы?!

Як быццам нам залежыць,
Каб свет быў без рабоў?!
Што, нам іх, як зуброў,
Адроджваць Белавежай?

Звон клічу вечавы,
Крычу: «Іду на вы!..»
І сам сябе-раба
Выпальваю з гарба!..

### II

Душа ў нары
І думак скарб...
Раб!

«Каб не ўгнявіць,
Не скрыўдзіць, каб...»
Раб!

«Што скажа шэф,
Сват ці прараб?..»
Раб!

І пяцімся,
Як рак, як краб,
Дрыжым, маўчым
Ці спім: «Храп... Храп...»

І каб не сам
Баяўся, хроп,
Было б мне, можа,
Усё адно б,

Ды то ж і ў горле
Маім кляп...
Раб!

Мой друг,
Касу, нож пазубі,
Забі ва мне раба,
Забі,
Мой друг!..

## Маўклівы птах

Неба шырозны вечны дах...
Куды ляціш, маўклівы птах?
Крылаў тваіх нячутны мах,
Пасля дажджу—ціш у дамах
І над раллёй, жніўём, травой,
Ледзь бачнай сцежкай лугавой,
Якою аніхто нідзе
Пакуль нікуды не ідзе.
Світанне. Туманы ў кустах...
Куды ляціш, маўклівы птах?..
Вунь чарада на правадах
Тваіх сародзічаў. Ім шлях
Як бы не рупіць. На дратах
Сядзяць, не варухнуць
крылом;
Нібы студэнты, рад у рад,
Кожны з задуманым чалом,
Стамлёным, нібы ад нарад,
І пра які тут думаць мах,—
А ты ляціш чамусьці, птах?..

Я—у гадах, сын—у гадах,
З гісторыяй мы—у ладах,
Ды скуль, куды ты торыш
шлях,
Скажы нам, паднябесны птах!..
З гняздоўя ты ці на гняздо,
За небасхіл, увесь, на дол,
У тундру з вечнай мерзлатой
Ці ў вырай цёплы на пастой?
Да ніў, няскошаных, густых,
Ці на пяскі пустынь пустых,
Да мірных зор ці бліскавіц,
Ці да сваіх, ці чужаніц?..
Аж да аскомы на зубах
Пытанні, як душэўны жах,
Марудней соцень чарапах
Паўзуць, каб ліпнуць на губах!..
Куды ляціш, высокі птах?..

Мах, недамах ці перамах?..
Куды ляціш ты, вешчы птах?..
Я—у гадах, сын—у гадах,
Мы—не пра страх,
Не, не пра страх!..
Прэч, інквізітар пры кастрах,
Прэч, печ асвенцімскіх дымы,
Прэч, лесавалы Калымы,
Прэч, кроў і слёзы
здрадных плах!..
Куды ляціш, суровы птах?..

Мы—не шчыты, не
пры шчытах
Старчма перагароджваць шлях
Вятрам, з адлігаю ў ладах,
Да новых пуцявінаў свах.
Абач: вунь Нёман у ільдах,
А вунь—валошкі у жытах,
Чарнобыле—у чаратах,
На вербалоззі ж—зноў катах...

Куды ж ляціш, маўклівы птах?..
Куды ж ляціш, маўклівы птах?!

## Хор

То не прычына тугі,

---

Таіса БОНДАР

ПРОЗА



# Кандыдат у шчасліўчыкі

АПАВЯДАННЕ

У МУЗЫЦЫ, няйначай, ёсць штосьці д'ябальскае. Ні сэрцу, ні розуму не падуладнае. Ледзь толькі дотык чуйных пальцаў будзіць клавішы раяля ці прымушае трымцець, спяваць струны гітары, у кожным сэрцы (у кожным! — як бы сёй-той ні адгароджваўся) зрушваюцца, прыходзяць у рух забытыя споміны, згаслыя летуценні, заляжалыя і ўжо трохі падпсутыя ад абыякавага абыходжання з імі спадзяванні. Здараецца, канечне, што бязладны, хаатычны рух гэты, зачараваны гармоніяй гукаў, хутка аціхае, прынёсшы палёгку, ці хоць бы ўздых палёгкі (так і бачацца малітоўна складзеныя рукі і ўзнятыя ўгору вочы, у якіх, у ценю вейкаў, стаіліся, чакаючы свайго часу, чорцікі). Здараецца. Але часцей, калі гучыць, размываючы ўсе запоны і забароны, якое-небудзь адажыо, а то і простае, зусім просценькае танга, адбываецца іншае. Міжволі. А то і супраць волі. Быццам яго, Дубікава, воля натыкаецца на чыюсьці большую, мацнейшую — і адступае.

Ды чаго там адступае! Знікае. Калі ён ужо не ён. Калі ён, ва ўладзе невядома як і адкуль узнікшых пачуццяў, ператвараецца ў губатага маладзёнка з яго палкай прагай абдымацца, ціскаць у абдымку, распранаць пацалункамі любую лёгкадумную асобу, што трапіць у гэту хвіліну пад руку.

Ужо ж, хто ў гэтым свеце, найлепшым ад усіх, супраць жанчын? Ці — супраць іх легкадумнасці? Наадварот. І тым іх легкадумнасць да твару і такім, як Дубікаў, яна па душы: як бы інакш упраўляўся з каторай? Нават какецтва іх (хоць там адчуваецца хутчэй д'яблава, чым богава рука) ім не шкодзіць. У пэўнай ступені. Тут дзвюх думак быць не можа. І ўсё ж...

Не, Дубікаў быў не супраць жанчын, не супраць іх хараства, іх легкадумнасці, какецтва і чаго там яшчэ. Не. Ён быў супраць устаноўкі прыроды на тое, што кожны — і ён, Дубікаў! — павінен падабраць сабе жанчыну пад пару, часова, ці — свят, свят, свят! — да скону. Пад пару... Адно ўжо гэта насцярожвае. А далей жа — яшчэ горш. Жанчына — знаёмая — жаданая — каханая (як падумаеш, так і называеш) — становіцца проста жонкай. Т о л ь к і жонкай. Хочаш — з перасоленым або недасоленым супам еш, хочаш — разам з цешчай, цесцем і ўсёй іншай раднёй унараўляй ёй і на руках насі, хочаш — адпусці і следам хадзі, інтэлігентна высочваючы і вынюхваючы. Як хочаш. А калі ён — не хоча?! Калі не хоча і ўсё тут?

Хтосьці ўсміхнецца на гэта: справа ясная, маўляў, — на малацэ абпёкся, вось на ваду дзьмуць пачынае... Ніякім чынам. Ні-ні. Не было. Не абпякаўся. Не жаніўся! Мог бы. Нават сабраўся быў аднойчы. Але, як кажуць, лёс мілаваў. З таго часу і да музыкі ў яго насцярога. Асабліва ў людных месцах. Сабрацца, пасядзець з сябрамі, пагаманіць, паспрачацца — гэта, калі ласка. А як даходзіла да касет або новых дыскаў — Дубікаў быў, што называецца, пас. Развітваўся і ішоў слухаць запісы дамоў. Так было надзейней. Спакайней. Калі і званіла каторая са знаёмых і потым заязджала, дык без лішніх прэтэнзій. Без ілюзій.

А тут чорт нагнаў... Не, трэба ўсё па парадку: самымі важнымі, урэшце, могуць аказацца дэталі самыя нязначныя на першы погляд. Дождж, да прыкладу, — тое, што з раніцы сеяўся чыста асенні, ніяк не ліпеньскі дождж, і Дубікаў трохі нудзіўся ў сваёй халасцяцкай кватэры. Альбо тое, што дзень быў не проста нядзельны, а імянінны — трыццаць першы імянінны дзень Дубікава (факт хоць і не вельмі знамянальны, але шмат што з далейшага высвечвае). Альбо нават тое, што і двух месяцаў не мінула, як Дубікаў, абараніўшы кандыдацкую, наладзіў і адбыў з гэтай нагоды банкет (у «Журавінцы», па ўсіх правілах) і таму дасюль не аддаў пазыку і жыў сціпла, зусім як у студэнцкія гады (яму і ў галаву не прыйшло б запрашаць у гэты дзень сяброў). Ды ці мала што яшчэ, што спатрэбіцца па ходу расказа!

Дык вось, з раніцы сеяўся дождж. Дробны, нудны, ён фарбаваў усё ў шэрае і наганяў дрымоту: хвілінамі нават літары з-пад галоўкі стрыжня распаўзаліся па старонцы, і не сцягвай іх зноў і зноў упарта і неадступна Дубікаў, іх было б потым не сабраць. «Пералічаныя імёны, зразумела, не вычэрпваюць «традыцыйных рэсурсаў», якія змяшчае ў сабе наша спадчына. Трэба мець на ўвазе таксама, што побач з традыцыямі са знакам «плюс» жывуць традыцыі са знакам «мінус», якія замінаюць...» — старанна выводзіў ён у сшытку, на вокладцы якога значылася тэма новай навуковай працы. Словы буксавалі, работа не ішла. Мо таму, што замінала думка, няўцямная і нібыта чужая, якая, мільгануўшы, засела ў ім і неiне, ды і падавала знак, не-не, ды і даводзіла сваё, подленькае: навошта так шчыраваць, калі нікому і ніколі ні ў навуцы, ні ў літаратуры праца гэта не спатрэбіцца, як не спатрэбілася папярэдняя? Навошта рабіць выгляд, што верыш...

Дубікаў адмахваўся ад думкі, як ад надакучлівай мухі: ён быў шчыра перакананы, што верыць, верыў — калі не ў неабходнасць, дык у карыснасць сваёй працы, свайго месца ў жыцці і ў інстытуце. І думаць тут не было чаго. Да восені завершыць даследаванне і заявіць пра тэму, а там — працуй, распрацоўвай яе, рыхтуй глебу для доктарскай! Пэўна ж, як на сённяшні дзень, не сучасны літаратурны працэс трэба было б даследаваць — куды лепш, куды больш практычна займацца фальклорам, фальклорнымі даследаваннямі: па-першае, не толькі модна, а і ганарова (пра духоўны скарб народа дбаеш!), па-другое, падтрымліваецца грамадскасцю не адно дома, а і ва ўсім славянскім свеце (адна, дзве замежныя камандзіроўкі гарантаваны!). Як ні паглядзі — лепш. Выгод больш. Больш — ды вось позна ўцяміў, што больш: не выкідаць жа кату пад хвост усё зробленае. І начальства не любіць тых, хто навідавоку мітусіцца, ад адной да другой тэмы кідацца пачынае.

«Побач з традыцыямі са знакам «плюс» жывуць традыцыі са знакам «мінус», якія замінаюць...» — перачытаў ён канец недапісанай фразы і перакрэсліў яго. Потым, падумаўшы, аднавіў (тут было што пакруціць) і, не дапісваючы, адсунуў аркуш. Уключыў і выключыў настольную лямпу (святло яе не рассейвала шэрань), адкінуўся на спінку крэсла, прыкрыў далонню вочы. Здавалася, задрамаў. Ды і задрамаў, відаць, бо калі ўзарваў цішыню пакоя тэлефонны званок, Дубікаў раз і другі раз трасянуў галавой, выходзячы са здранцвення, правёў па твары, зверху ўніз, разамлелай рукой, уключыў лямпу і толькі потым падаўся да трубкі.

— Вас слухаюць.

— Вітанне, Дубікаў! Не чакаў? Думаў, не ўспомніць пра цябе Сцяпан, як ты пра яго не ўспомніў, ступень замочваючы? Думаў, знік Сцяпан, выпарыўся ў атмасферу, выконваючы школьную праграму? Не, братка, не з такоўскіх я! І рэформа не першая і я, братка, не апошні.

— Ды чакай ты, Братка,— па даўняй студэнцкай звычцы скарыстаў ён замест прозвішча мянушку і, заўважыўшы гэта, усміхнуўся.— Адкуль ты ўзяўся? Адкуль ты звоніш?

— Усё адтуль! Са сталіцы! Пасля правінцыі яна яшчэ больш вабнай здаецца: душа так і рвецца. Чуеш?

— Жалезнае скрыгатанне чую, — засмяяўся Дубікаў.— Гэта ты маеш на ўвазе?

— Угу. Толькі яшчэ і тонкі дзявочы смех — праз жалезнае скрыгатанне. Няўжо не разабраўся?

— Чакай, чакай! Нешта я не ўразумеў. Які дзявочы смех? Чый?

— Так табе ўсё адразу і скажы! Мы ўжо едзем. Едзем, братка. Да цябе. Уразумеў? — не казаў, выкрыкваў той, і выкрыкваў што ёсць моцы: Дубікаў моршчыўся, крыху адводзячы ад вуха трубку.

— Ды хто «мы»? Хто «мы», ты можаш спакойна сказаць?

— Мы, Сцяпан Першы, і яшчэ сёй-той з добрых людзей,— паддражніў той і, заканчваючы гаворку, гучным, на публіку, шэптам дадаў: — Усе — свае, братка. Нікога выпадковага на праспекце не падабраў. Не падбіраў.

У трубцы запікала. Дубікаў памарудзіў колькі імгненняў, быццам усё яшчэ чакаў нейкага тлумачэння, і паклаў яе на месца. Зглынуў усмешку. Міг-другі сіліўся скласці ў памяці партрэт былога аднакурсніка — згадвалася ж адно няўклюдная постаць таго, па-мядзведжы няўклюдная, ды колькі адметных прыкмет. Чамусьці ўсе паасобку. Асобна — валасы, што скрозь, колькі б Сцяпан ні зачэсваў іх, стаялі тырчком круга галавы. Асобна — занадта рэзкія для яго несуразна вялікай фігуры жэсты рук (як вятрак побач працаваў!). Асобна — шырокую, да вушэй (зусім не ў пераносным сэнсе) усмешку... Дубікаў не тое што сябраваў калі з ім — доўгі час жылі ў адным інтэрнацкім пакоі і, хоць разніліся ва ўсім (і відам, і целам, і памкненнямі), не адчувалі адзін да аднаго, мо і з розных прычын, непрыязнасці. Гэта, відаць, і падштурхнула таго: столькі год мінула, а вось жа расшукаў, пазваніў!

А тым болей—гора:
Голас першы, другі,—
Абодва першыя ў хоры!..

Тэнар, як тапалёк,
Бас, быццам чмель нізінны,—
Той і гэты—браток
Песні—красы адзінай.

Хор не мацнее, калі
Тужыцца аднагалоса:
Чмель бубніць, як чмялі,
Лозы плачуць, як лозы.

Зчэз харал!.. Вугалёк
Полымем не зашугае.
Як нямко, тапалёк,
Адлучоны ад гаю:

Багор, трухі бугор
Чарнее, лісце абдзершы!..
Шчасце—зладжаны хор,
Дзе ні апошніх, ні першых!..

●

Здаецца ж, не змянілася ані:
Было «Заходзь!..»,
а стала «Пазвані!..»

Было: «Чакаю,
Нібы лета салавей!..
Цяпер: «Звані, стары!
Звані!.. О кэй!..»

Ні настальгічны
Рэтратэлефон
Не паваротае
Ў рэтра стрэч і дзён;
Ні пад вясёлкай штучнай
Таксафон
Не паваротае
Ў рэтра стрэч і дзён,

Дзе шчыра там,
Нібы самаахоць
Гучэла беларускае
«Заходзь!»..

## *Талая вясна*

Промень сціху прабег,
Звонкі, як струна.
Талы снег, ты—не снег,—
Талая вясна!

Калі талая ты,
Значыцца, мая,
А не хтось з нематы
Ў свяце ручая!

Бо адно, што ў мяне—
Талыя гады!
Як прызнацца вясне,
Што—немалады?!

Дні—сняжынкі мае,
Снежкамі—гады...
Ой, стае, ой, стае
Талае бяды!..

З ПОШТЫ «ЛіМа»

# ЧАЛАВЕК З ВЯЛІКАЙ ЛІТАРЫ

**Артыкул журналіста Міхаіла Кадзета, змешчаны ў апошнім нумары штотыднёвіка за мінулы год, напомніў мне пра падзеі, якія адбыліся ў канцы 1939 года, калі мне, маладому журналісту, выпала шчасце працаваць побач з Аляксандрам Твардоўскім і Барысам Гарбатавым. Адбылося гэта зусім нечакана: у пачатку верасня 1939 года, калі я працаваў намеснікам рэдактара газеты «Беларускі фарватэр» (орган палітаддзела Днепрадзвінскага рачнога параходства), мяне нечакана выклікалі ў Гомельскі абласны камітэт партыі і прапанавалі пайсці працаваць у рэдакцыю армейскай газеты «Вартавы Радзімы».**

**Чаму спатрэбіўся мой перавод у армейскую газету іменна ў гэты час, для мяне было сакрэтам, пакуль у ноч на 17 верасня я разам з супрацоўнікамі газеты «Вартавы Радзімы» не апынуўся на былым кардоне з Польшчай у раёне горада Слуцка.**

**Толькі на вайсковым партыйным сходзе, які адбыўся ў ноч на 17 верасня, я зразумеў, што Чацвёртая армія на досвітку павінна перайсці кардон, каб падаць руку братам Заходняй Беларусі, якія з 1921 года па несправядліваму Рыжскаму дагавору неслі ярмо панскай пакуты. Аб цяжкім лёсе сялян-беларусаў я больш дасканала даведаўся, як толькі трапіў у адну з вёсак Нясвіжскага павета. Тут я ўпершыню сустрэўся з Аляксандрам Твардоўскім і Барысам Гарбатавым, якія разам з рэдактарам газеты наведалі адзін з маёнткаў тутэйшага памешчыка. А калі вайсковыя часці нашай арміі ўступілі ў Нясвіж, праз тыдзень я ўжо чытаў на адной са старонак газеты верш Аляксандра Трыфанавіча:**

Неправой и проклятой власти
Пришел долгожданный конец:
Мы встретили красные части
И панский зарыли копец.

Батрацкие бедные семьи,
Голодный народ горевой,
Все те, кто мечтали про
землю,
Отныне владеют землей.

**Больш блізка я пазнаёміўся з паэтам у Нясвіжскім замку князя Радзівіла, дзе Аляксандр Трыфанавіч аглядаў пакоі.**

**Далейшы шлях арміі і рэдакцыі ішоў праз Івацэвічы, Бярозу-Картузскую, дзе былі вызвалены з турмы палітычныя вязні.**

**Працяглы час (каля месяца) рэдакцыя газеты размяшчалася ў Кобрыне. Большасць супрацоўнікаў газеты, у тым ліку і я, жылі ў доме тутэйшага доктара. На другім паверсе дома жылі Твардоўскі і Гарбатаў. Ложкаў у іх не было, спалі яны на сене.**

**У гэтым доме я ўпершыню напісаў верш аб подзвігу групы байцоў і палічыў патрэбным паказаць яго Аляксандру Трыфанавічу. Ён уважліва прачытаў верш і зрабіў заўвагу:**

**— Вам патрэбна пісаць на адной мове, бо вы блытаеце рускую з беларускай.**

**Гэтую заўвагу я не забываў у сваёй далейшай журналісцкай працы.**

**Закончыў я сваю службу ў франтавой газеце ў горадзе Брэсце. Праз некаторы час зноў вярнуўся ў Гомель.**

**Развітаўся я з Аляксандрам Твардоўскім і Барысам Гарбатавым у канцы кастрычніка. Яны меркавалі паехаць у Беласток, дзе адбываўся сход дэлегатаў Заходняй Беларусі.**

**Праз некаторы час я даведаўся, што Аляксандр Трыфанавіч быў накіраваны ў адну з франтавых газет Фінскага фронту.**

**Хачу адзначыць, што такіх простых, сціплых людзей, якім быў Аляксандр Трыфанавіч Твардоўскі, я больш не сустракаў. Ён хадзіў у салдацкім шынялі, працаваў, еў і спаў разам з салдатамі. У яго блакітных вачах свяціліся дабрыня, цеплыня і шчырасць, ён карыстаўся вялікай павагай сярод усіх, з кім працаваў і сустракаўся.**

**Пётр ЯНКОЎСКІ,**
**журналіст.**

— Мы, Сцяпан Першы, — паддражніў яго Дубікаў уголас і засмяяўся, і, адчуўшы палёгку, крутануўся ў крэсле, агледзеў пакой: дзявок жа той вёз! Агледзеў і застаўся задаволены аглядам. Хваляваецца не было прычын. Аднойчы заведзены парадак парушаўся рэдка. Гэта было зручна. У выпадку чаго, як зараз, не трэба мітусіцца...

Званок у дзверы перапыніў яго разважані («Вось жа ўзвей-вецер! Няйначай, знізу, з аўтамата званіў!) і змусіў Дубікава агледзець самога сябе.

Колькі крокаў і — адразу за шчаўчком замка — ужо цясніла, адцясняла яго ў пакой аграмадная Сцяпанава постаць і хуткая яго скорагаворка:

— Ну, дай глянуць на цябе, братка! Дай абняць! Бач, бач на яго — канды-дат! Кандыдат, нічога не скажаш! І росту набраў, і вагі, і імя ў навуцы набыў, і штаны фірмовыя! Усё, як след! Як хацеў і як павінна! Шчаслівчык дый годзе! Дзевачкі, зірніце на сучаснага шчаслівчыка: кватэра ў сталіцы, ступень у кішэні, а яшчэ ж і імянінік, чорт вазьмі!

Дубікаў не мог уставіць ні слова. Нават павітацца з гасцямі не мог, бо той камячыў яго ў абдымку, пакручваў і так і гэтак, быццам любуючыся, — ведаў жа, што з яго мядзведжых рук не так проста вырвацца, і ўсё гаварыў, гаварыў:

— Думаеш, Братка так сабе заехаў? Думаеш, Братка забыў, як цэлым будатрадам дваццацігоддзе твае правілі, да раніцы пры святле поўні пад дзве гітары танцавалі? Не-е, такое не забываецца! Маладзейшыя мы былі, гэта праўда. Але ж і зараз нішто сабе. Як, дзевачкі? Як вам Дубікаў? Ду-уб, дуб! І росту набраў і вагі. Пойдзем да стала — дзе тут у цябе стол? — у нас усё з сабой, не хвалюйся. Гэта Жэнік, а гэта Света, Валя і Люба — можаш не запамінаць, разбяромся! Усе універсітэцкія. Толькі тады, калі мы з табой, братка, універсітэт заканчвалі, яны толькі пачыналі...

Час — спыніўся. Ва ўсякім разе, для Дубікава спыніўся. Бо ён ужо ні яму, ні сабе не належаў. Усміхаўся, штосьці адказваў, паказваў, дзе ў яго стаяць бакалы, падстаўляў свой бакал пад пеністы струмень, абдымаў якуюсь з дзяўчат за плечы — усё так, але між тым, не прасунуўся ў часе з той самай хвіліны, як адчыніў на званок дзверы, ні на хвіліну. Усім — і часам! — распараджаўся Братка, вэрхал у кватэры стаяў, якога тут спрадвеку не было, смех чуўся адусюль, словы танулі ў агульным гуле і гэтым смеху, шампанскае, хоць яго прывезлі, здавалася, усяго адну бутэльку, не канчалася... Ні адразу, ні потым — ніколі — не змог бы вызначыць Дубікаў, каму якія словы ў гэтым вэрхале належалі: словы ўспырхвалі тут і там, словы кружыліся, словы самі сабой аціхалі, каб зноў загучаць недзе ў другім канцы пакоя:

— Школа сёння галоўнае, але не ў школе справа!

— Навошта лічыць гады? Маладосць — душэўны стан...

— Я не сонейка — верх лесу сушыць!

— Чакай, ды не вельмі. Удагонку, як той казаў, не нацалуешся.

— У школе настаўнік хто? Ніхто!

— Прытушы вейкамі позірк, спаліш Дубікава!

— А я веру: да катастрофы не дойдзе. Жыццё ж такое кароткае, такое кароткае...

— Хочаш, на адзін камплімент падожду?

— Сёння на інтэлігенцыі — вялікая задача...

— А музыка ў гэтым доме ёсць?

— Хлопчыкі, хто разбіраецца ў тэхніцы? Жэнік, трэба ўключыць...

Час спыніўся. Нішто не закранала Дубікава. Хоць ён — усім нутром, усёй істотай — нечаму радаваўся, але радаваўся (ён зрэдку гэта адчуваў) нібыта падсвядома; свядомасць у гэтым не ўдзельнічала. Праўда, тузануўся на апошнія словы, хацеў запярэчыць (зашмат людзей, а яшчэ ж і жанчыны!), хацеў сказаць, што музыку ён будзе слухаць пазней, адзін, але хацеў і не сказаў. Пярэчыць было позна. Музыка ўжо гучала. Дзве пары ўжо абняліся.

— Дубікаў, што ж ты? — закрычаў яму Братка, і ўсе падхапілі:— Дубікаў, што ж ты?

І Дубікаў падняўся з крэсла, пашукаў вачыма, куды паставіць бакал, паставіў яго, урэшце, побач з распачатай навуковай працай (добра, што прыкрыў сшыткам папкай!) і ступіў да... Ён не ўспомніў, як звалі дзяўчыну, і супакоіў сябе тым, што гэта ў дадзеным выпадку было не так і важна.

Словы раптам аціхлі. Усе разам. Была толькі музыка («Вальсы» Шапэна!» — пазнаў ён), і ў яе спакойным гучанні растваралiся словы, і ўсплёскі смеху, і памяркчэлыя адразу рухі.

— Дзіўна і... нязвыкла танцаваць пад Шапэна,— шапнула дзяўчына.

Дубікаў заўважыў, што ў яе сінясінія, да чарнаты, вочы і злёгку прыгарнуў яе да сябе. Зусім злёгку. Амаль няўлоўным рухам. Адно каб адчуць тон, у якім паводзіць сябе далей. І адчуў, што яна прыняла ласку: не зрабіла руху насустрач, але і не наструнілася, абараняючыся ад яго рук, ад яго дыхання. У абдымку была, а нібыта сама па сабе.

«Са мной і не са мной... Няйначай, сама музыка. Лёгкая, та-рам, та-рам, та-рам, і прасветленая, і гэта мне падабаецца, падабаецца, падабаецца! І мы можам не зважаць на ўсіх астатніх. Можам... Табе ж, як і мне, хочацца кружыцца, заміраць, пагойдваць дзіўную, дзіўна прыгожую мелодыю і зноў кружыцца. Табе гэтак жа весела, гэтак жа радасна!» — непрыкметна звярнуўся ён да яе ў думках і тут жа ўголас дадаў:

— Шапэн—чараўнік. Гэта яшчэ адно пацвярджэнне.

Яна не адказала. Здалося, яна зрабіла рух да яго. Але, мажліва, толькі здалося. Мелодыя новага вальса кружыла пакой, кружыла позірк, хоць гэта ужо вальс быў ні пры чым: Дубікаў даўно ўжо нічога не бачыў, апроч светлага дзявочага локана, якога кранался яго дыханне. Дотык бязважкі, амаль няўлоўны, але ж прыкметнымі, добра адчувальнымі былі іншыя дотыкі: рукі — да пляча, рукі — да рукі, грудзей — да грудзей...

«Я ўвесь час помніў тваё цяпло, і тое, як яно пералівалася ў мяне, праз кожны выпадковы дотык, праз кожны дотык. Ты гэтага не заўважала. Ты не заўважаеш... Не слухаеш — п'еш музыку, пертвараючыся ў яе, і мне трэба ўвесь час цябе ўтрымліваць. Мне трэба ўтрымліваць цябе, вось і гарну, тулю цябе да грудзей. Табе ўтульна?»

— Як? Музыка скончылася? Ужо? —спытала яна, не зрабіўшы памкнення вызваліцца з абдымкаў.

— Не, не!— мацней абняў яе Дубікаў. — Трэба перавярнуць пласцінку.

— Перавернем?

З цяжкасцю адарваліся адно ад аднаго, у дзве рукі, абдымаючыся, памянялі бакамі пласцінку. Шчоўкнула клавіша пуску і — іе рукі зноў абвіліся ўкруг яго шыі, яго рукі мякка слізганулі па яе спіне: музыка доўжыла і доўжыла імгненне. «Мог бы хто іншы сачыць за прайгравальнікам!»— падумаў быў Дубікаў, але, хто іншы, не дадумаў. Ды і не было, здаецца, у пакоі нікога іншага, нікога, апроч іх дваіх.

«Як доўга ты быў воддаль, далёка, так далёка, што я ўжо і спадзявацца перастала на нашу сустрэчу, перастала чакаць, што ўспомніш і пагукаеш, а ты — вось ён, ты...Успомніў. Музыка дапамагла. Та-рам, та-рам, та-рам... За сэрцам бы ўсачыць: б'ецца так гулка, што нават перашкаджае ўлоўліваць рытм. Та-рам, та-рам, та-рам! Божа мой, хіба была, хіба буду яшчэ такой шчаслівай? А ўсё музыка, музыка, музыка!» — да самазабыцця аддавалася яна руху, кружэнню, танцу, але і ў руху, у кружэнні або ціхім пакалыхванні на месцы адчувала ласку, пяшчоту рук, што абдымалі яе.

— Ён падслухвае нашы думкі. Шапэн, — крыху адкінула яна галаў, каб зірнуць на яго.

— І нашы жаданні,—адным вуснамі паправіў ён яе і тут жа крануўся імі злёгку выгнутай яе шыі. Зусім злёгку. Амаль няўлоўным рухам. Быццам яшчэ не даваряў таму, што адбылося, што адбываецца з ім, тут, ва ўсіх на вачах, і ўсё ж недзе далёка, у загадкава забытым ім мінулым.

«Я не напалохаў цябе? Не? Мы ж абое адчуваем гэту прагу — прагу вернутай музыкай чысціні. Абое... Усё, што было раней, было з намі іншымі, чужымі. Цяпер мы не чужыя, праўда? Цяпер ты не баішся маіх рук, маіх вуснаў, праўда? Словы прыйдуць пазней, пасля... Калі ты сама... Ты не адхінулася ад маіх вуснаў! Ты... ты... Я ўсё дарую! Я ніколі не прыгадаю той вечар, тваёго...»

— Ты сама вінавата, Ева!

Словы прагучалі так гучна, што Дубікаў ад нечаканасці як прыстыў да падлогі. І тут жа адчуў, як наструнілася ў яго абдымку дзяўчына («Гэта ж я назваў яе імем той, з кім павінен быў жаніцца!» — мільганула амаль абыякава), і тут жа пачуў, што вакол ціха. Толькі іголка прайгравальніка (відаць, не спрацаваў аўтастоп) шкрабала па пласцінцы, і гук быў размерана-непрыемны, ды на сцяне насупраць мерна цікаў гадзіннік.

Час азваўся рашуча, і ледзь Дубікаў, упершыню за вечар, падняў вочы на гадзіннік, гэтак жа рашуча ўдакладніў: дваццаць тры гадзіны дзесяць хвілін. «Пазнавата для гасцей», — падумаў. І толькі падумаў — бязвольна ўпалі рукі, адпусціўшы дзяўчыну: у пакоі нікога, апроч іх, не было.

— Я... Мяне Светай завуць,— выплеснула тая на яго цёмную сінечу раптоўна зягаслага, халоднага пагляду.— Я, як і вы, прыняла вас за другога. Толькі гэтым можна растлумачыць...

Што можна растлумачыць, дагаворваць не стала. Матлянулася паўз яго да століка, сарвала са спінкі крэсла сумачку, і сілком запавольваючы крокі, каб не кінуцца бегма, памкнулася ў прыхожую, да дзвярэй і ў дзверы.

— Я праводжу вас? — не крануўся з месца Дубікаў, ды і спытаўся хутчэй машынальна, бо позірк яго гідліва блукаў па чорт ведае ў што ператвораным пакоі: на століку, упэрамешку з бакаламі і недапітымі бутэлькамі мінеральнай, валяліся агрызкі, сподкі з акуркамі, абгорткі ад цукерак і цукеркі, у вазе чэшскага шкла, перастаўленай на паліцу, тырчаў скручаны ў жгут канверт з-пад пласцінкі, кухонныя табурэткі тоўпіліся ўкруг тэлевізара, у вазон, які толькі сёння раніцай Дубікаў старанна паліваў, быў уткнуты выбіты віном бутэлечны корак, чыясьці насоўка валялася проста пад нагамі... І ўсё, да закуранага цяжкога паветра, было рэальным!

Здавалася, ён чуў, як бразнулі дзверы, але, калі нарэшце зварухнуўся, адолеў раптоўнае здранцвенне, то пайшоў не да дзвярэй, а да акна. Адкінуўшы лёгкую цюлевую штору, расчыніў яго нарасцеж і з палёгкай удыхнуў свежае начное паветра. Хвіліну-другую бяздумна, адно спіной адчуваючы непрыемны від забруджанай кватэры, узіраўся ў цемру, да самага небакраю затканую асветленымі там і тут вокнамі гарадскіх гмахаў, а потым, быццам апаматаўшыся, хуценька развязаўшы, што павінен спусціцца ўслед за госцяй: ці мала што!

Калі выбег з пад'езда і завярнуў за вугал дома, сваю новую знаёмую згледзеў непадалёку, на бязлюдным аўтобусным прыпынку. Зрабіў колькі крокаў і гукнуў ёй. Гукнуў даволі гучна, бо тая махала «масквічу», што адзінока набліжаўся і якраз мінаў яго, Дубікава.

— Света! Чорт вазьмі!...

Апошняе ён дадаў цішэй, злуючы і на гэтую Свету і на сябе.

Заскрыгаталі тармазы. Тая азірнулася на яго голас, і пазнаўшы, перш чым сесці ў машыну (дзверцы ўжо адчыніліся), развітальна ўзмахнула сумачкай.

— Дабранач, кандыдат у шчаслівчыкі!

І бразнула дзверцамі. Як колькі хвілін таму — дзвярмі.

Машына рванулася з месца, і Дубікаў, які быў зусім побач, адчуў пах бензіну. Загарчыла ў горле. Ён нервова пагладзіў шыю, падняў каўнер кашулі і зябка павёў плячыма. Вуліца апусцела. На момант здалося, што ён чуе, як шоргае па пласцінцы іголка не выключанага прайгравальніка.

# У святле зменлівага часу

## Рэха гастроляў тэатра імя У. Маякоўскага ў Мінску

Амаль чвэрць стагоддзя мінула з тае пары, а гэты дзень бачыцца, як сёння. Мінск, велізарны людскі натоўп на Цэнтральнай плошчы і амаль над ім, на памосце, у белых хітонах і на катурнах рухаюцца акцёры... Рытм цудоўнага старажытна-грэчаскага гекзаметра чаруе плошчу — ідзе славутая еўрыпідаўская «Медэя» ў пастаноўцы М. Ахлопкава. На вачах здзяйсняецца даўняя мара майстра рэжысуры — выйсці за рамкі «чыста тэатральнай плошчы», за рамкі сцэны — на прастору гарадскога пляцу, на стадыён, зрабіць так, каб саўдзельнікамі відовішча сталі тысячы гледачоў...

У 1974 годзе, калі тэатр імя У. Маякоўскага ізноў наведаў нашу сталіцу, празрыста была відаць другая плынь, другая тэндэнцыя ў ягоным жыцці. Яна была звязана з тэатральнай канцэпцыяй новага мастацкага кіраўніка тэатра — А. Ганчарова. Тады, у 1974 годзе, гэтую канцэпцыю лепш за ўсё выразілі, на мой погляд, два спектаклі — «Трамвай «Жаданне» паводле Т. Уільямса і «Чалавек з Ламанчы» Д. Васермана і Д. Дэрыёна. Калі паспрабаваць вызначыць крэда А. Ганчарова ў двух словах (а яно яскрава прадстае перад намі ў двух спектаклях), то гэта будзе ўсеперамагаючы псіхалагізм...

І вось новая сустрэча. Мінск, ліпень 1988 года. Тэатр імя У. Маякоўскага адкрыў свае гастролі спектаклем «Заўтра была вайна» паводле Б. Васільева.

Мяркую, што спачатку мінскі глядач не мог стрымаць расчаравання. Паколькі ў ягонай памяці яшчэ не пабляк бліскучы спектакль паводле той самай аповесці — яго прадставіў летась Дзяржаўны тэатр юнага гледача Латвійскай ССР на фестывалі Прыбалтыйская тэатральная вясна. У маякоўцаў падкрэслена сціплая дэкарацыя (мастак А. Качалаева), класная зала ды за кратамі — сілуэты дамоў, а злева, на сцэне — натуральны раяль. і дзеянне разгортваецца павольна да маруднасці... Але вельмі хутка прыходзіць думка, што ўсё гэта рэчы знешнія і падманлівыя. Менавіта ў гэтым паказальна сціплым спектаклі рэалізуецца амаль цалкам тэатральная «метода» А. Ганчарова.

Уся ўвага — на акцёрах, павольнасць спектакля быццам канцэнтруе ўсю іх чалавечую энергію... (Камернаму спектаклю, на жаль, замінае прастора сцэны нашага Вялікага тэатра оперы і балета, дзе, на мой погляд, нельга іграць драматычным калектывам).

У спектаклі, якія «ўзгадаваўся» яшчэ ў ГІТІСе (А. Ганчароў спачатку працаваў над ім са сваімі студэнтамі), шмат акцёрскіх удач. Павінен адзначыць перш за ўсё работу Я. Мольчанка (Іскра Палякова), якая прываблівае шчырасцю і грунтоўнасцю, Т. Аўгшкап (Зіна Каваленка) — простая і непасрэдная, Д. Коранеў (Саша Стамескін) — сапраўдны «прадукт» педагогікі сталінскага часу...

Маладыя на сцэне быццам ствараюць адзіную панараму свайго часу, і тут рэжысёрскі псіхалагізм дасягае вышэйшай ступені. Але і бацькі маладых у глядацкім успрыманні нечакана з'ядналіся: Любярэцкі (А. Лазараў) — сапраўдны рускі інтэлігент з далікатнасцю, мяккаю манерaю зносін; Палякова (Т. Васільева) — камісар грамадзянскай вайны, рашучы, просталінейны, з вялікім болем і трывогаю за дачку і яе пакаленне; Рамахін (А. Болтнеў) — самаадданы, чалавечны...

Але найбольш цікаваю мне здалася Валянціна Андронаўна В. Пракоф'евай — фанатычка сталінскага гарту. Падазронасць, насцярожанасць, недавер да ўсіх і кожнага — вось «кіты», на якіх трымаецца яе вера, якая «пасадзейнічае» гібелі Вікі Любярэцкай. Работа В. Пракоф'евай пры гэтым адзначаецца дакладнасцю, якая — вынік свабоднага валодання акцёрскай тэхнікай: сцішаны голас, у якім чуюцца істэрычныя ноткі, характэрны жэст, якім вучыцелька апраўляе пінжак... Своеасаблівы сімвал часу, створаны рэжысёрам і артысткай, адзнака цэлай эпохі ў гістарычным жыцці нашага народа аб якой нашы сённяшнія горкія думкі...

...Кожны тэатр у перыяд свайго росквіту, як правіла, мае свайго драматурга, творчасць якога арганічна спалучаецца з пошукамі тэатра. Такім драматургам на сучасным этапе развіцця тэатра імя У. Маякоўскага трэба прызнаць Эдварда Радзінскага. На гастрольнай афішы дзве п'есы Э. Радзінскага: «Тэатр часоў Нерона і Сенекі» і «Я стаю ля рэстарана».

У першым спектаклі (пастаўлены ў 1985 годзе) адчуваецца падыход, рука і светапогляд А. Ганчарова. Майстра рэжысуры ў сваёй няспешнай манеры, як промнем, дастае да глыбіняў чалавечай псіхікі.

Але галоўнае ў спектаклі — сам Нерон і ягоны канфлікт з Сенекам. Нерон у выкананні А. Джыгарханяна ўвасабляе сабой характэрныя рысы дыктата ўсіх часоў і народаў. Ён жудасны ў кожны міг свайго знаходжання на сцэне. Амаль кожнае яго слова — здзек з самога існавання чалавека, упэўненасць у сваім праве называць кожнага «тварью», глыбокае абгрунтаванне ўплыву так званага асяроддзя на ўзнікненне зла.

Выканаўца ролі Сенекі М. Волкаў параўнальна нядаўна з'явіўся ў спектаклі А. Ганчарова і ўнёс новае адценне ў ягонае гучанне. У яго Сенекі адчуваецца змаганне паміж апраўданнем страшэнных дзеянняў свайго вучня, канфармізм, які адчыняе шлях гэтым дзеянням, і апеляцыяй да чалавечага. І рэшткі апошняга ўсё ж даюць магчымасць Сенеку — Волкаву на канечным «вітку» смяротнага дыялогу з Неронам сесці ў бочку Дыягена, узвысіцца да пазіцыі філосафа...

У гэтым спектаклі, на мой погляд, трыумфальна прадстаўлены тэатр А. Ганчарова, рэалістычная традыцыя, да якой ён належыць, апора на сучасную, шматпластавую па думцы п'есу, моцная псіхалагічная распрацоўка вобразаў, выдатныя акцёрскія работы.

Гэту лінію падтрымлівае і новы спектакль па п'есе Э. Радзінскага «Я стаю ля рэстарана», хоць ён пастаўлены другім рэжысёрам — В. Партновым. Сцэнаграфія І. Папова ў ім дастаткова лаканічная, сучасная, але, на жаль (і гэта асобная падстава для разважання, таму што такая сітуацыя амаль тыповая для большасці спектакляў тэатра імя У. Маякоўскага), не «стратэгічная», невыразная, яна не перадае эстэтычнай канцэпцыі спектакля.

...Сучасныя адносіны мужчыны і жанчыны. Ён і яна. Ці, дакладней, яна і ён. Мітусня, пошукі свайго месца ў жыцці, пошукі шчасця... Н. Гундарава вядзе сваю партыю на адзіным дыханні, тэмпераментна, выкладаючыся дарэшты. У яе гераіні шмат штучнага, ненатуральнага, у горшым сэнсе тэатральнага (асабліва ўражанне пакідае першае дзеянне, дзе гераіня ўвесь час сам-насам з тэлефонам і глядзельнай залай), шыкаванне «фемінізмам», але за ўсім гэтым адчуваецца сапраўдны боль няспраўджанай і таленавітай жанчыны... Цікавая істота ў спектаклі і Ён (С. Шакураў), спачатку — просты спажывец, гэтакі «зорны хлопчык», які пасля ўсіх метамарфозаў робіцца падобным да чалавека.

Адметнаю здалася мне і паказаная ў Мінску прэм'ера «Круг» паводле Самерсета Моэма. Спектакль працягвае лінію ўжо зацверджаную тэатрам імя У. Маякоўскага: у ім усё пабудавана на псіхалагічнай дакладнасці (на жаль, рэжысёру Т. Ахрамковай часам бракуе тэмпераменту, страснасці), ёсць цэлы шэраг акцёрскіх удач, сярод якіх перш за ўсё трэба адзначыць работы І. Касталеўскага (Арнольд) і Т. Васільевай (ледзі Кіці). Але... Ад тэатра, які насіў славутае імя ў мінулым (Тэатр Рэвалюцыі) і які носіць славутае імя сёння, гледачы, так бы мовіць, чакалі нечага большага... Чаго?

Калі перад табой дасягнутае, заўсёды шкада страчанага, і калі падумаю пра гэта, зноў перад маімі вачамі Мінск году 1963, Цэнтральная плошча, гучны голас Медэі над натоўпам... А, можа, традыцыі тэатра Рэвалюцыі, што ідуць ад У. Меерхольда і М. Ахлопкава, ізноў спатрэбяцца нашаму сапраўды рэвалюцыйнаму часу, сённяшняму, канца 80-х, рытму жыцця? Гаворка, зразумела, ідзе не пра «чыстую» публіцыстычнасць (хоць яна ў рэвалюцыйны час мае права з'яўляцца не толькі на старонках газет), а пра эпічна-мастацкае асэнсаванне сродкамі тэатра шматграннай рэчаіснасці.

**Вадзім САЛЕЕЎ.**

---

**ПЕРШАЯ спроба сустрэцца і пагутарыць з Ігарам Міхайлавічам Лучанком аказалася няўдалай: кампазітар выязджаў у Маскву для рэпетыцый сваёй песні, якая была ўключана ў праграму канцэрта для дэлегатаў XIX партыйнай канферэнцыі (мы бачылі трансляцыю гэтага канцэрта і слухалі Лучанковых «Салаўёў Хатыні»). Калі ж сустрэча адбылася, дык часу для гутаркі аказалася зусім няшмат: Ігар Міхайлавіч увечары мусіў ехаць у Віцебск, дзе адкрываўся Першы ўсесаюзны фестываль польскай песні, старшынёй журы якога ён быў прызначаны. Пазыўнымі фестывалю стаў матыў з ягонай песні «Закасі мае вёсны», а яго новая песня «Віцебск — Зялёна Гура» прагучала ў заключным канцэрце...**

**Песня — яго любоў, яго жыццё. Да 50-гадовага юбілею кампазітар падышоў у росквіце свайго песеннага таленту. Набыткі тут відавочныя. Лепшыя песні І. Лучанка зрабіліся неад'емнай часткай музычнага побыту людзей. Але наша размова сёння не пра ягоныя песні. Яна датычыць праблем музычнага жыцця, без вырашэння якіх немагчымым з'яўляецца рух наперад нашага нацыянальнага музычнага мастацтва.**

**Вядома, што ў маі гэтага года адбыўся Пленум ЦК КПБ, дзе абмяркоўвалася пытанне развіцця народнай асветы. У сваім выступленні на пленуме І. Лучанок узняў некаторыя творчыя праблемы, якія набалелі і даўно чакаюць свайго вырашэння...**

— У першую чаргу мяне вельмі хвалюе тое, што наша маладое пакаленне ў асноўным музычна непісьменнае. Гэта факт. У рэспубліцы кожнаму павінна давацца паўнацэнная музычная адукацыя, пачынаючы з маленства. Каб кожны выпускнік агульнаадукацыйнай школы і ПТВ ведаў музычную грамату, гісторыю музыкі — айчыннай і замежнай, умеў граць на інструменце і спяваць у хоры. Вось той ідэал, да якога мы павінны імкнуцца. Прыбалтыка, дарэчы, даўно нас абагнала, а сацыялістычныя краіны — яшчэ «даўней»... Лідэрства ў гэтай справе — за настаўнікам музыкі; таму неабходна ўзняць яго прэстыж. Мы паўтаралі нават у эпоху застою: «Заспявае школа — заспявае краіна», але далей слоў справа не ішла. У рэспубліцы не хапае музычных школ, музычных студый. Упэўнены, усеагульная музычная адукацыя моладзі магла б дапамагчы ў вырашэнні многіх праблем — маральных, сацыяльных, нават пэўным чынам эканамічных...

**— Што ў першую чаргу замінае вырашэнню пытанняў музычнай адукацыі і паўнацэннага развіцця музычнага мастацтва?**

— Патрэбна перабудаваць мысленне тых кіраўнікоў — і партыйных, і савецкіх, якія лічаць, што мастацтва, літаратура, музыка — справа другарадная. Да музыкантаў нельга ставіцца зняважліва, як да блазнаў, скамарохаў, пацяшальнікаў...

**— Прагалы ў музычнай адукацыі ў першую чаргу з'яўляюцца прычынай таго, што на канцэртах сур'ёзнай музыкі за-**

---

# Чаго народ не зразумее?

## Палемічныя нататкі пра беларускае дакументальнае кіно

**Перамены даюцца нам нялёгка, а ўлада стэрэатыпа жывучая. Увесь час ёсць спакуса пачаць урачыста: нарэшце хваля абнаўлення дакацілася да беларускага дакументальнага кіно. І, пералічыўшы такія фільмы, як «Без канспекта», «Побач», «Ёсць у горада душа», «Верталётчыкі», «Боль», якія выйшлі сёлета, паставіць у канцы абзаца клічнік!**

**Але трэба адмовіцца ад гучнай фразы, якой мы часам яшчэ стараемся вымераць публіцыстычны патэнцыял экраннай дакументалістыкі. Галоснасць, якая выклікала масавую пераацэнку сацыяльных і духоўных каштоўнасцей у краіне, не можа быць прадметам экспарту ці імпарту. І калі цяпер узнікае пытанне, ці здолее наша дакументальнае кіно ўтрымацца на грэбені хвалі, без страт рэалізаваць прапагандысцкую функцыю, трэба задаваць і наступнае. Наколькі гэты працэс будзе забяспечаны станам галоснасці ў рэспубліцы, наколькі самім гледачам будзе дадзена магчымасць разабрацца ў ідэйна-мастацкай якасці гэтых новых фільмаў?**

**На тых праглядах, дзе вышэйзгаданыя работы бачылі адказныя за іх выхад у свет (ад думкі якіх у многім пакуль залежыць, быць ці не быць карціне ў шырокім пракаце), сітуацыя складвалася не лепшым чынам: проста забараніць ужо несучасна, а прыняць рэчы такімі, якія яны ёсць, — перашкаджаюць стэрэатыпы мінулага.**

**Творы па-сапраўднаму публіцыстычныя з'яўляліся на «Беларусьфільме» ў розныя гады, і не толькі на Беларусі натыкаліся яны на глухую сцяну непрыняцця. Да фільма І. Калоўскага «Хатынь. 5 км», пра які газета ўжо пісала, можна дадаць такія «паліцавыя» стужкі, як «Хлеб на кляновым лісці» А. Яфрэмава, «Развітанне» В. Дашука. Калі два першыя ўсё-такі прабіліся да гледача, то «Развітанне» і цяпер не можа прарвацца на экран.**

**Хто і чаго так баіцца? Прасцей адказаць сёння, чаго мы ўсе баяліся, — разыходжання з афіцыйным курсам, які ператварыў у догму ленінскае патрабаванне да публіцыстаў — агітаваць фактамі, быць прапагандыстамі, арганізатарамі, пісаць гісторыю сучаснасці. І не баяліся, калі год за годам беларускі дакументальны фільм страчваў свае пазіцыі. Творчасць нашых вядучых майстроў В. Дашука, Ю. Лысятава, Р. Ясінскага, Д. Міхлеева, А. Карпава, Ю. Цвяткова была спалучана з пастаяннай барацьбой за выжыванне — цікавай задумы, смелай ідэі. Ледзь нарадзіўшыся, у нас не атрымаў развіцця так званы праблемны фільм. У той час як на агульнасаюзным экране менавіта ён спрыяў публіцыстычнаму аналізу сацыяльных канфліктаў на глебе вытворчай тэмы. Сарамліва, азіраючыся на падручнік гісторыі, прабівалася гістарычная праблематыка, так і не адліўшыся ў форму палітычнага кіно. Не створаны шматвобразны ў мастацкім спектры фонд дакументальных карцін, прысвечаных гісторыі і сённяшняму дню нацыянальнай культуры.**

**Пра крызіс у нашым дакументальным кінематографе мы загаварылі на ўвесь голас з наступленнем галоснасці. І прагаварылі... тры гады! І гэта ў той галіне экраннага мастацтва, якое па прыродзе сваёй заклікана быць самым аператыўным у адлюстраванні жыццёвых працэсаў, каб ад дзвюх першых «ластавак» аздараўлення экраннага мікраклімату — «Наказу» Ю. Лысятава і «Граху» У. Дашука — выдаць у гэтым паўгоддзі абойму свежых па грамадзянскім настроі фільмаў. І тут выяўляецца, што стрэлка, так бы мовіць, кіраўніча-афіцыйнага барометра ўсё яшчэ стаіць на адзнацы духоўнага штылю...**

**Сучасная «звышбоязь», вяласць душы і застой думкі хаваюцца за клопатам пра грамадскі дабрабыт, турбуюцца пра дзяржаўны інтарэс. Канфлікт у Віцебскім тэхналагічным інстытуце, дзе былі ўскрыты злоўжыванні ранейшай адміністрацыі, даўно атрымаў адпаведную ацэнку юрыдычных органаў. У фільме «Без канспекта» на гэтым факце рэжысёр В. Цяслюк ставіць праблему маральнай атмасферы ў вышэйшай школе. Перад камерай прайшлі дзесяткі студэнтаў, каб у меру свайго разумення выказацца пра справы ў інстытуце і пра якасць выкладання; у фільме ёсць сведчанні выкладчыкаў, работнікаў прадпрыемстваў, куды размяркоўваюцца выпускнікі. Не скажаючы сітуацыі, фільм праўдзіва выносіць яе на суд гледача. Але... Ці не падрываюць**

**лы нярэдка бываюць амаль пустыя...**

— Асабліва на канцэртах сімфанічнай і опернай музыкі. Большасць маладых людзей, многія слухачы сярэдняга пакалення не маюць у ёй патрэбы. Вы памятаеце, як на адным з канцэртаў Дэкады эстонскага мастацтва на Беларусі ў зале апладзіравалі пасля кожнай часткі сімфоніі Бетховена? На тым канцэрце прысутнічаў у асноўным наш партыйны і савецкі актыў — тая катэгорыя слу-

шая мова. Многія нашы кампазітары пішуць на вершы і сюжэты беларускіх паэтаў і празаікаў. У нас багатая літаратура, якая мае глыбокія карэнні, традыцыі. Побач з гэтым шырока выкарыстоўваюцца вершы паэтаў іншых народаў краіны, замежная літаратура. Так, мы, інтэрнацыяналісты, але не «Іваны без роду і племені». Інтэрнацыяналізм жывіцца любоўю да роднай зямлі, да спадчыны народа. Важна памятаць пра

няма неабходных умоў для творчай працы. Мы разумеем цяжкасці з жыллём у вялікім горадзе, але няхай бы нам далі магчымасць пабудаваць кааператыўны дом... Як жа нам без гэтага актыўна працаваць, рэалізаваць творчы патэнцыял?..

**— У склад Саюза кампазітараў зараз уваходзіць звыш 80 кампазітараў і музыказнаўцаў. У апошнія гады прынята здольная моладзь, якая цікава заявіла аб сабе — актыўнасцю, разнастайнасцю творчых інтарэсаў,**

# ЯКІ ЁН, МУЗЫЧНЫ ГОЛАС РЭСПУБЛІКІ?

**Гутарка з народным артыстам СССР Ігарам ЛУЧАНКОМ**



хачоў, якая ў большасці сваёй не бывае на канцэртах сур'ёзнай музыкі. Паўтару, патрэбнасць у сапраўдным мастацтве трэба выхоўваць з маленства, з матчынай калыханкі..

**— Паўпустыя залы бываюць і на некаторых канцэртах беларускай музыкі. Паміж сцэнаю і залаю — бездань... А мо, так бы мовіць, якасць музыкі нашых кампазітараў не заўсёды аказваецца на належным узроўні?**

— У мастацтве, як і ў эканоміцы, пытанне якасці вельмі важнае. Гэта і якасць выкладання музыкі (у самых розных звеннях), і якасць музычнага выканаўства, і якасць нашых музычных твораў. Мы жывем на Беларусі не самі па сабе, а побач з другімі рэспублікамі і краінамі. І нам неабходна быць канкурэнтаздольнымі: паставіць заслон шэрасці і падтрымліваць усё таленавітае. Без гэтага немагчыма перабудова, без гэтага мы не зможам быць канкурэнтаздольнымі побач з такой музыкай, як, скажам, сімфоніі Канчэлі, лепшыя творы Эшпая, песні лепшых майстроў гэтага жанра. Усё гэта датычыць нас, творчых работнікаў і, вядома, Міністэрства культуры БССР. Яго музычна-рэпертуарная камісія павінна набываць толькі тыя творы, якія маюць сапраўдную мастацкую каштоўнасць, грамадскую значнасць, якія гучаць: на нашых пленумах, з'ездах, мастацкіх фестывалях, за межамі рэспублікі. А ёсць нямала выпадкаў, калі набываліся творы, што нідзе ніколі не выконваліся.

**— Ігар Міхайлавіч, апошнім часам шмат гавораць і пішуць аб двухмоўі, якое склалася ў рэспубліцы...**

— Гэта праблема датычыць і нас, музыкантаў. Кожны адукаваны чалавек павінен ведаць і рускую і беларускую мовы (вядома, пажадана і якую-небудзь замежную). На жаль, іншы раз мы не ведаем ні першай, ні другой, ні трэцяй. Беларуская мова — найбагацей-

народную песню, ведаць яе. Нашы сучасныя песні могуць застацца, могуць не застацца, народныя ж песні застаюцца ў стагоддзях, гэта — адвечныя песні. Дзіця, якое палюбіць песню свайго народа, гэтую любоў пранясе праз усё жыццё. Менавіта праз народную песню можна і трэба выхоўваць інтэрнацыяналізм...

**— Вядома, што ў развіцці мастацтва вялікую ролю мае і такая, здавалася б, «празаічная» рэч, як матэрыяльна-тэхнічная база. Без яе не абысціся ні творцам, ні выканаўцам, ні слухачам...**

— Безумоўна. Аб гэтым даводзіцца гаварыць ужо многія гады—на самых розных узроўнях. Наш Саюз кампазітараў, напрыклад, знаходзіцца ў памяшканні, якое прызначалася для крамы па продажы садавіны і гародніны. Шмат гадоў кіруючыя таварышы гавораць, што Саюз кампазітараў мусіць прыстойнае памяшканне, але... Мы хацелі стварыць у нас маладзёжны клуб, запрашаць да нас аматараў музыкі, моладзь — прыхільнікаў самых розных сучасных музычных стыляў. Але ў ЦК камсамола нам далі зразумець, што моладзь да нас не пойдзе—у нас няма патрэбнага памяшкання, сучаснага інтэр'ера, адмысловай апаратуры, добраўпарадкаванай залы... Саюз кампазітараў з вялікімі цяжкасцямі «прабівае» апаратуру, «б'ецца» над праблемай Дома творчасці... Усе быццам разумеюць неабходнасць вырашэння нашых творчых праблем — прыняты адпаведныя рашэнні партыйных і савецкіх органаў, — але справа рухаецца вельмі марудна. Таварышы, якія стаяць ля кіраўніцтва культурай, павінны, нарэшце, зразумець, што творчаму работніку патрэбен рабочы кабінет! У большасці нашых кампазітараў і музыказнаўцаў такога рабочага кабінета няма, а гэта значыць —

**імкненнем да самастойнага творчага мыслення; актыўна працуюць многія кампазітары сярэдняга і старэйшага пакаленняў. І ўсё ж нашу музыку няшмат ведаюць за межамі рэспублікі...**

— Творчы патэнцыял рэспублікі сапраўды вялікі. Тут трэба мець на ўвазе не толькі Саюз кампазітараў, але і нашы выканаўчыя сілы — аркестравыя і харавыя калектывы, музычныя тэатры, салістаў. Што да нашых кампазітараў, то зазначу: мы чакаем шмат, асабліва ад майстроў сярэдняга пакалення і маладых, якія сапраўды заявілі пра сябе даволі цікава ў самых розных жанрах — ад песні да сімфанічнай музыкі, твораў для опернага тэатра. Магу згадаць балет У. Кандрусевіча «Крылы памяці», не так даўно пастаўлены на сцэне ДАВТа; оперу У. Солтана «Дзікае паляванне караля Стаха» паводле У. Караткевіча, якую малады аўтар перадаў таму ж тэатру.

**— Стаўленне нашых выканаўцаў да нацыянальнай музыкі, як сведчыць канцэртная практыка, неблагое: у рэпертуары музычных калектываў і салістаў нямала твораў беларускіх аўтараў, з якімі наладжаны плённыя кантакты. Але яны не заўсёды трывалыя. Я маю на ўвазе ў першую чаргу наш оперны тэатр. Апошнім часам творы нацыянальнай музыкі неяк паціху зніклі з рэпертуарнай афішы ДАВТа.**

— Я глыбока перакананы, што кіраўнікі тэатра і Міністэрства культуры дбаюць пра оперную класіку, думаюць пра гледача, але забываюцца на тое, што ёсць нацыянальная музычная культура, якая стваралася не адным пакаленнем беларускіх кампазітараў. Так, усё лепшае з нацыянальных спектакляў, што калісьці было ў рэпертуары тэатра, сёння адсутнічае. Адбываліся сустрэчы праўлення Саюза кампазітараў і кіраўніцтва тэатра, апошняе запэўнівала і абяцала змяніць становішча; уводзілі кампазітараў у мастацкі савет тэатра, выводзілі, зноў уводзілі... Гэтыя зняважлівыя адносіны падобны да самазнішчэння — такая аднадушная думка ўсёй нашай кампазітарскай арганізацыі. Ну, а пра тое, што наша музыка мала гучыць за межамі рэспублікі, я думаю так: кольkасны паказчык у нашай музыцы не заўсёды стасуецца з паказчыкам якасным. У нас мала твораў, якія, будзем шчырымі, змаглі б падняцца да ўсесаюзнага ўзроўню. На маю думку, да такіх твораў, маючых права прэтэндаваць на ўсесаюзнае прызнанне, можна аднесці оперу «У пушчах Палесся» і кантату «Беларускім партызанам» А. Багатырова, оперу «Алеся» Я. Цікоцкага, лепшыя песні У. Алоўнікава, вакальна-сімфанічную паэму «Вечна жывыя» Г. Вагнера, балетную музыку Я. Глебава, некаторыя іншыя творы. Але паўтару — такіх твораў мала. Хацелася б верыць, што беларуская музыка нарэшце заявіць пра сябе ў краіне. Мы вельмі спадзяемся на нашу творчую моладзь...

**— Як вы, Ігар Міхайлавіч, разумееце задачы перабудовы ў творчым саюзе?**

— Гэта — палепшыць мастацкую якасць нашай музыкі, перабудаваць сродкі і метады яе прапаганды (з гэтай мэтай будзе створаны Цэнтрмузінформ, які, мы спадзяёмся, выведзе работу па прапагандзе беларускай музыкі на якасна новы ўзровень), рашэнне праблем, звязаных з матэрыяльна-тэхнічнай базай СК (аб іх я гаварыў вышэй), перабудова работы Музфонду БССР (а ён перабудоўваецца вельмі марудна). Некаторыя члены праўлення СК БССР лічаць, што нам трэба перагледзець структуру кіраўніцтва арганізацыяй. Ёсць меркаванні накшталт таго, што прэзідыум, які вылучаецца са складу праўлення, тармозіць арганізацыйную работу. Яго члены праяўляюць мала ініцыятывы, інертныя. Прапануецца іншая арганізацыйная сістэма— каб кіравалі Саюзам праўленне і рабочы сакратарыят.

**— Сёлета Саюз кампазітараў Беларусі адзначае сваё 50-годдзе. Як будзе святкавацца юбілей?**

— Падрыхтоўка да юбілею праходзіць у час, калі ўся рэспубліка рыхтуецца адзначыць 70-годдзе ўтварэння БССР і кампартыі Беларусі. Натуральна, наша работа атрымлівае асаблівы сэнс. У кастрычніку плануем правесці юбілейны пленум СК БССР, дзе павінна адбыцца сур'ёзная размова аб музычным голасе рэспублікі, нашых надзённых і неадкладных праблемах.

**Гутарку вяла А. РАКАВА.**

**гэтыя праўдзівасць, адкрытасць думак аўтарытэт навучальнай установы? Ці не сапсуецца яе рэпутацыя ў вачах будучых студэнтаў? Так абвяшчаюць адказныя таварышы свае прэтэнзіі да экраннага дакумента.**

**У фільме «Побач» пачынаючы рэжысёр Н. Князеў паказвае групу маладых людзей, тыповых па сваім сацыяльным абліччы. Адны з іх, не давучыўшыся, недзе працуюць, каб мець матэрыяльную незалежнасць ад бацькоў. Другія і аб працы не думаюць — усё яшчэ шукаюць сябе... Яны не дурныя, закона не парушаюць. Любяць быць разам, каб адчуваць сябе абароненымі. Ад каго? Магчыма, ад адзіноты, у якой знаходзяцца іх саракагадовыя бацькі, што па розных прычынах не здолелі стварыць, як кажуць сацыёлагі, поўныя сем'і? Фільм недарэмна называецца «Побач». Ні дзеці, ні «бацькі» адзін аднаго не разумеюць. Аўтар спрабуе разабрацца, што ж з гэтымі, па сутнасці, нядрэннымі людзьмі адбываецца.**

**Паглядзеўшы гэты дакументальны сюжэт, педагогі трывожна пытаюцца, ці не прапаганда гэта дзіўнага ладу жыцця, ці не індульгенцыя на апраўданне ці, што зусім блага,— не спачуванне героям?! Імкненне педагогаў абараніць маладога чалавека ад «шкодных» настрояў, ад самастойнасці ў ацэнках — у наяўнасці...**

**З пачаткам будаўніцтва другой чаргі Мінскага метро не аціхаюць спрэчкі вакол гістарычнага цэнтра горада. Да гэтай тэмы звяртаецца фільм «Ёсць у горада душа», у якім падзеі каменціруе З. Пазняк. Чалавек захоплены, які добра ведае прадмет абмеркавання, ён не хавае сваіх асабістых поглядаў, гаворыць шчыра, выклікае да роздуму.**

**Аўтараў фільма нельга папракнуць у канфармізме. Іх фільм сумленны. Але яго афіцыйныя апаненты заўважаюць: навошта нам бачыць, як у Тбілісі ці Варшаве ўзноўлены ў сваім гістарычным абліччы старыя кварталы, калі ў нас ёсць свой станоўчы вопыт — Траецкае прадмесце і генеральны план забудовы гэтай часткі Мінска? Магчыма, рэжысёру М. Жданоўскаму варта было б прыслухацца да гэтай парады, каб не толькі ў жыцці, а і на экране мы ўбачылі вынікі... архітэктурнай бездапаможнасці. Бо побач з велізарным гмахам, які ўзводзіцца на Нямізе (гэта ёсць у карціне), зусім «згубілася» сціплая Кацярынінская царква. А на нядаўна адрэстаўрыраваных сценах Траецкага прадмесця «квітнеюць» сырыя плямы, абвальваецца дэкаратыўная тынкоўка...**

**Часта суддзямі стужак з'яўляюцца людзі, паміж заняткам якіх і мастацтвам ляжыць «дыстанцыя велізарнага памеру». Так, у вайскоўцаў, якія прымаюць ці не прымаюць фільм «Верталётчыкі», свой крытэрый — захоўваць ваенную тайну. З кожным новым праглядам яны адкрываюць усё новыя крамольныя дэталі. Вядома, у першай рабоце Я. Росцікава ёсць свае недахопы. Але ёсць і вартасці — мужныя людзі, якія расказваюць пра выкананне службовага абавязку ў Афганістане і над Чарнобылем. Іх слову даверыўся б значна больш, калі б афіцэры змаглі расказаць, як усё гэта было. Аднак дзе там да той праўды, калі рэжысёр вымушаны быў працаваць пад «наглядам», ды і потым, на здачы карціны, штосьці з яе выразаць, адсякаць. Нельга не заўважыць, што нашым дакументалістам чамусьці толькі сёння дадзена магчымасць кранаць тэму, звязаную з чарнобыльскім мінулым. Адразу ж пасля аварыі на Украінскай студыі кінахронікі і тэлебачанні некалькі аўтарскіх груп распрацавалі гэтую тэму, а фільмы «Тры колеры часу», «Звон Чарнобыля» зрабілі сваю карысную справу публіцыстычнай прапаганды, ды і з пункту гледжання мастацтва аказаліся работамі цікавымі, неардынарнымі.**

**Дакументальны кінематограф — гэта творчасць, якая адлюстроўвае час. Не ў пераносным, як часам пішацца пра мастацтва, а ў літаральным сэнсе. Пра гэта падумалася, калі ў зале рэспубліканскага Дома кіно заўважыла немаладых стомленых людзей, якія трымаліся адасоблена ад глядацкай масы. Мацяркі і бацькі дзяцей, загінуўшых у Афганістане...**

**Ці хопіць у нас мужнасці глядзець і перажываць «афганскую тэму»? — быццам звяртаецца да гледача рэжысёр С. Лук'янчыкаў, які свядома згушчае фарбы, свядома нагнятае адмоўныя эмоцыі. Хопіць, хоць і не ў кожнага. Але нехта ўжо бярэцца даводзіць, што «народ гэта не зразумее» ці «зразумее не так»...**

**Сёння на экран павінны выйсці новыя работы. Паказаныя ў кінатэатрах, па тэлебачанні, гэтыя фільмы стануць «працаваць» на перабудову, на галоснасць. Пакуль яны будуць абмяркоўвацца за зачыненымі дзвярамі, вецер перамен мала дакранецца да свядомасці саміх дакументалістаў. Ім сёння неабходна сувязь з аўдыторыяй, неабходна паветра асяроддзя, дзе фільм уздыме буру ці не здолее выклікаць нават маленькага хвалявання. Гэта ўжо як атрымаецца. Але несумненна: карцінам патрэбна прастора жывога жыцця, менавіта ў ім фарміруецца самая каштоўная ў дакументальным кіно рэч — свабода публіцыстычнага мыслення.**

**Вопыт паказвае, што праўдзівы, чэсны фільм не можа зрабіць чалавек, абдзелены дзвюма якасцямі — свабодай думкі і выразнай грамадзянскай пазіцыяй. На аснове якіх — свабода творчасці мастака. І рызыкаваць трэба. Толькі так можа ўзнікнуць паўнакроўная, дзейсная ў сваёй прапагандысцкай сіле вобразная публіцыстыка.**

**Ніна ФРАЛЬЦОВА.**

### З ПОШТЫ АДДЗЕЛА МУЗЫКІ

# ЯК ЗНІКАЛА ПЕСНЯ

МНЕ прысніўся дзіўны сон. Да мяне пастукалася Песня. Яна наведалася ў жаночым абліччы і як бы несла ў сабе Дабро, Розум і Прыгажосць. Мне падумалася, што ці не гэта Прыгажосць і ёсць тая, якая павінна прыйсці на дапамогу ў цяжкі момант і якой толькі пад сілу ўратаваць жыццё, вярнуць яму суладдзе...

А, на жаль, на яве мне пакуль давялося бачыць, як наша беларуская песня народная знікала.

Можа, нічога і новага не скажу, а расказаць раскажу.

Калі я была зусім маленькай, то маім выхаваннем займаўся больш мой дзядуля. Ён мог добра спяваць. Ён быў хворы ад удушша, якое падхапіў яшчэ ў тую нямецкую вайну, працаваць не мог, вось і займаўся выхаваннем сваіх унукаў. Калі ён укладваў мяне спаць, то заўсёды пад песню. Спяваў ён і па маёй просьбе. І я малая спявала ўсе песні, якія ведаў дзед.

Маіх дзядулю і бабулю любіла моладзь. Яны збіраліся, каб патанцаваць у хаце, бо тады ў нас яшчэ не было ні клубаў, ні культмасавікоў-зацейнікаў. Маладзенькія дзяўчаты прыходзілі ў белых сукенках, вышытых сваімі рукамі, абутыя ў бялюсенькія спартыўнага тыпу тапкі, для белізны намазаных мелам або глінкай. Старэйшыя дзяўчаты былі ў стракатых сукенках з паркалю або штапелю, а ў некаторых з іх былі спадніцы ў клетачку з самаробнага паўсукенніка і вышытыя белыя курткі. Хлопцы ў кортавых касцюмах і ў кашулях самаробных, як у майго дзядулі.

Яны так спрытна танцавалі пад гармонік, зыкі якога, здавалася, запаўнялі ўсё наваколле! Не маглі ўседзець дома кабеты, каб не паглядзець, як спрытна танцуюць іх дзеці. Яны прыходзілі часам не адны, а прыводзілі і меншых. Тады мне было яшчэ весялей. Для глядзін у мяне было самае выгоднае месца — печ, з якой я магла добра разгледзець гэта свята. Я марыла як мага хутчэй вырасці, каб вось тады так танцаваць і спяваць.

Быў у мяне старэйшы брат-школьнік, ды і дзед умеў чытаць, дык мяне без цяжкасцей навучылі гэтаму рамяству ў чатыры гады. Бывала, уцяку на хутар і чытаю бабулям казкі, вершы. І яны пыталі ў мяне, чым мне аддзячыць, я не задумаўшыся прасіла спяваць мне песню.

І вось аднойчы я папрасіла цётку Касцючыху спяяць мне песню. А яна мне адмовіла. Я запыталася ў яе, што, можа, дзе згубіла песню?

— Згубіла, дзетка, згубіла. Мой сынок старэйшы недзе ў свеце, дык ці магу ж я спяваць. Адправіўся без нічагусенькі, без рубля ў кішэні. Яму цяжка і мне не да спеваў.

— Ну тады журботную або, як у нас называюць, жаласную, — не адставала я.

Дык мая Касцючыха так загаласіла, што і я стала плакаць, тады і яна не вытрымала і далучылася да мяне. Я стала яе пытаць: «Што калі ўсе дзеці з'едуць і пакінуць сваіх мам, дык тады ўсе мамы перастануць спяваць? А ці будуць тады бабулі спяваць, калі іх дзеці пакінуць, а ці будуць спяваць птушкі і нават каркаць вароны?» Касцючыха сказала, што пэўна так і ёсць, «варонні век» наступіў і што яны яшчэ як пакаркаюць.

І потым ужо, як адпраўляць ці дачку ці сына «ў свет», я і не прасіла спяваць мне песню, абыходзілася казкай.

Песень станавілася ўсё менш і менш. Але ж у мясаед (час для вяселляў) іх можна было пачуць, асабліва, калі многа вяселляў. Тут і скрыпку стрэнеш, і цымбалы, і кларнэт. З песняй вяселле пачыналася і заканчвалася з ёй.

Але хутка людзі сталі жаніцца адразу, як толькі ім гэтага захацелася, не сталі цярпець, як у нас гаварылі, што нават у пост або ў велікодную пятніцу згодны былі жаніцца. І тады на такіх вяселлях не спявалі, або зусім не прыходзілі і не пускалі дзяцей глядзець на такія вяселлі, каб яны не бралі дурнога прыкладу. Вяскоўцы лічылі нават гэта вельмі крыўдным і нейкім надруганнем з бацькоўскіх звычаяў.

Бацькі, як маглі, рыхтавалі сваіх дзяцей у горад, адпраўлялі, жадалі ім лепшай долі, чым самі мелі. У калгасах не плацілі або зусім, або капейкі нейкія. Абкладалі непамернымі налогамі. А выехаць таксама няпроста было, бо не было ў калгасніка пашпарта.

Непамерная немеханізаваная ручная праца. Рапарты ды прыпіскі. Лепшым быў той калгас, які больш засее плошчы, і таму трактарамі ўзоравалі ўсё, што можна і нельга, — абы плошча. Не паспявалі ўбіраць. Так, вельмі часта лён, вырваны ўручную, расцелены і падняты, не паспявалі здаць, і вясною па асобнаму «спецнараду» палілі гэта золата, палілі ўласную працу.

Дык ці запяецца ад гэтага? А тут, калі прыязджалі дзеці з горада, то яны нібы чужымі станавіліся. Саромеліся і мовы сваёй, і песні, і паходжання.

І вось прыйшоў мой час адлёту пасля васьмі класаў — да цёткі ў Елгаву, што ў Латвіі. Мне там ніколі не хацелася заспяваць. А калі давялося прыехаць у вёску ў госці і стала весела, то голас перастаў слухацца...

У вёсцы з'явіўся клуб. Толькі там танцавалі твіст і зрэдку вальс, а полька з прыходам «цывілізацыі» зусім знікла. «Гараджане» імкнуліся падзяліцца з вяскоўцамі набытым «духоўным багаццем». Дарослыя перасталі наведваць танцы, бо адтуль выходзілі плеючыся. І так пакідалі сваіх дзяцей на выхаванне «адукаваным» культмасавікам.

Неяк, будучы ў водпуску дома, зайшла я да цёткі Аўгінні, якая жыве ля ракі ў нашай вёсцы. Думаю, дзеці пры ёй, слава богу, жывыя і здаровыя, думаю, папрашу яе па старой памяці паспяваць. Завітала да яе. Але калі дайшло да песні, то кажа: «Не пяецца, дзетка, мне, спіліся мае сыночкі-саколікі. Цяпер больш я толькі на хаўтурах спяваю, калі папросіць хто. Схадзі да Ядвігі, яна адна жыве, бяздзетная, ды і абрадуецца, калі цябе ўбачыць».

Пайшла да цёткі Ядвігі. Паразмаўлялі. Але калі справа да песні дайшла, яна кажа: «Не да песень мне, дзетка мая. Пляменніка ў гэтым годзе пахавала. Сканаў ад хіміі. Неяк доўга завозу не было водкі, вось і не стрымаўся, глынуў хларафосу ці кіслаты нейкай. Вось і некаму будзе соткі спахаць, а то, бывала, няхай сабе за паўлітру, але ж так узарэ агарод, што аж спяваць хочацца». І зноўку загаварыла цётка Ядвіга: «Вось нам і прыйшла змена. Некаторыя стараюцца спяваць амаль па сем разоў на тыдні і прытым круглы год. Спачатку, бывала, той-сёй і да канца песню выведзе. А цяпер больш на першым слове абрываюць, нават «Шумел камыш» бывае да канца не вымавяць і ў канаўку якую зваляцца: ад усяго гэтага больш лаянкі ды бойкі і дзіцячага плачу».

А тым часам надыходзіў вечар. Вароны абляпілі амаль усе не выкарчаваныя яшчэ жыльвіцы. Я хацела спалохаць нечым непрыемную птушку. Але вароны мяне не баяліся. З маім падыходам толькі некалькі пакінулі дрэва і ўселіся на тэлеграфных слупах, нібы якія начальнікі на трыбунах. Мне прыпомніліся словы Касцючыхі: «Наступіў «варонні век». Я ведала, што гэта птушка нічым не павінна. Мы самі далі ёй магчымасць распладзіцца...

У мяне была магчымасць наведаць яшчэ дзедаву сястру бабцю Тэклю, якая, нягледзячы на свой дзевяностагадовы ўзрост, яшчэ добра сябе адчувала. Яна дажывала свой век у згодзе з сынам і нявесткай, якая таксама любіць спяваць. Калі добра папросіш, то можа адкрыць сваю скарбонку песень, якіх набярэцца, як кажуць, больш за трыста, хоць іх там і ніхто не лічыў.

Да вёскі бабці Тэклі было яшчэ з вярсту. Я спяшалася. І думала: колькі чаго патрэбна падрамантаваць, але больш перабудаваць, каб спыніць «варонні век»? Вярнуць чаканую, так неабходную, як хлеб і соль, як вада і паветра, нашу Песню?

**Ніна КУЗІНА.**
Мёрскі раён.

### ДВА ПІСЬМЫ НА АДНУ ТЭМУ

## ПРОСІМ ПАСАДЗЕЙНІЧАЦЬ...

Зноў грамадскасць апошняй даведалася аб праекце, ажыццяўленне якога паўплывае на лёс цэлага рэгіёна краіны, сотэнь тысяч людзей. Зноў плануюць распачаць работы без папярэдняга дэмакратычнага і ўсенароднага абмеркавання. На гэты раз «аперацыя» будзе праводзіцца на сэрцы Палескага краю — рацэ Прыпяць.

Мінводгас БССР запланаваў асушэнне і асваенне поймы Прыпяці, яе нізоўяў і прытокаў, якія да апошняга часу заставаліся натуральнымі запаведнікамі, захавальнікамі генафонду і папуляцыйнага складу рэсурсаў флоры і фауны і ў значнай меры падтрымлівалі прыродную раўнавагу рэгіёна. Цяпер жа, калі Мінводгас ажыццёвіць свой варварскі ў дачыненні да прыроды праект, рэчышча Прыпяці будзе абвалавана, агульная плошча дамбаў толькі ў Беларусі складзе 1166 кіламетраў. Будуць абвалаваны таксама нізоўі прытокаў Прыпяці — Бобрыка, Гарыні, Іпы, Лані, Трэмлі, Убарці, Ясельды і іншых. Для змяншэння кошту і спрашчэння будаўнічых работ плануецца (цяжка нават уявіць такое) выпрамленне рэчышча Прыпяці каля Пінска даўжынёй 47.5 кіламетра. «Спакойная і павольная» Прыпяць тут будзе практычна ператворана ў звычайны сцёкавы канал!..

Лічым, што прапанаваны праект непазбежна прывядзе да экалагічнай катастрофы.

Многія вучоныя сцвярджаюць, што інтэнсіўнае асушэнне Палесся і раней вялося без уліку канкрэтных пытанняў аховы прыроды, помнікаў археалогіі, гісторыі і культуры краю, які справядліва лічыцца калыскай усходнеславянскіх народаў. За гады асушэння пяць відаў палескай фауны зніклі цалкам. У адзінаццаць разоў скарацілася колькасць птушак. Ужо знікла больш за 70 відаў раслін і каля ста — знаходзіцца пад пагрозай знікнення, дакладней — знішчэння. Сёння для многіх жывёл, птушак, раслін, якія занесены ў Чырвоную кнігу БССР, апошнім прыстанкам застаецца якраз пойма Прыпяці. Пад пагрозай знікнення — дзесяткі помнікаў археалогіі, гісторыі і культуры, якія знаходзяцца на берагах рэк.

Ад пачатку свайго палітыка асушэння Палесся, як даказваюць многія вучоныя, грунтуецца на памылковым меркаванні, што гэты край залішне пераўвільготнены. Між тым, вывучэнне клімату паказала, што Палессе — самая засушлівая зона на тэрыторыі Беларусі. І таму, калі асушэнне і меліярацыя і надалей будуць весціся без уліку патрэб экалогіі, можа здарыцца так, што край балот ператворыцца ў край пустынь. Ужо зараз тут на пераасушаных і няўмела выкарыстаных землях узнікаюць пылавыя буры. Страты ад ветравой эрозіі, паводле паведамленняў друку, дасягнулі амаль 17 мільёнаў рублёў, што сувымерна са стратамі ад паводак, ад якіх, дарэчы, у першую чаргу і мяркуюць «абараніць» зямлю шляхам абвалавання рэк. Самы час спытацца: што ж будзе далей, калі з агульнага мільярднага кошту работ на барацьбу з эрозіяй праекціроўшчыкі выдаткоўваюць менш за мільён рублёў?!

Мы лічым немэтазгодным ажыццяўленне праекта абвалавання і асушэння поймы і прытокаў ракі Прыпяць і просім Саюз пісьменнікаў Беларусі і рэдакцыю газеты «Літаратура і мастацтва» пасадзейнічаць яго забароне. Нашчадкі не даруюць нам гэтага свядомага шкодніцтва.

**Т. РАШЧЭНЯ**, старшы рэдактар Гомельскай студыі тэлебачання, **А. АРЦЁМЕНКА**, кінааператар Гомельскай студыі тэлебачання, **І. СЯРКОЎ**, сакратар Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў БССР, **Л. СІВУХА**, мастак, **Л. ГЕРМАНОВІЧ**, бібліятэкар, **М. МІЦІКАЎ**, інжынер, **Л. МАРОЗАВА**, студэнтка і інш., усяго 383 подпісы.

## ПАМЯЦЬ ПАЛЕССЯ

**Мне хочацца звярнуць увагу на магчымае знішчэнне большасці археалагічных помнікаў Прыпяцкага Палесся. Пагроза разбурэння многіх унікальных, у пераважнай большасці выпадкаў яшчэ не даследаваных спецыялістамі курганных могільнікаў, гарадзішчаў, грунтовых пахаванняў селішч, стаянак, капішч і г. д. пастаянна вісела і вісіць над Палессем. Археолагі, якія працуюць на Палессі, ужо ведаюць, які лёс напаткаў сотні археалагічных аб'ектаў, калі вяліся кампаніі па спрамленні рэк, пры ўзвядзенні новых гарадоў, будаўніцтве дарог, вадасховішчаў, новых саўгасаў.**

**Як вядома, у чэрвені 1987 года адбылося пашыранае пасяджэнне навуковых саветаў АН БССР па праблемах Палесся і біясферы і Заходняга аддзялення УАСГНІЛ. Пры абмеркаванні праблем экалагічнага стану ў рэспубліцы аўтарам праекта абвалоўвання Прыпяці задалі пытанне, ці прымалася пад увагу тое, што ў выніку такіх работ знішчыцца большасць помнікаў археалогіі ў даліне Прыпяці. Праектантам на гэты конт не было чаго адказаць. Пра такую «дробязь» яны і не ведалі. Ва ўсякім разе менавіта пясчаныя ўзвышшы ў поймах Прыпяці і ў нізоўях яе шматлікіх прытокаў будуць выкарыстаны для ўзвядзення гідратэхнічных збудаванняў, аб чым папярэдне дакладвалі аўтары праекта. Рэшткі разбураных археалагічных помнікаў пойдуць на ўзвядзенне дамбаў, мастоў, на падсыпку дарог і г. д.**

**Палессе не так даўно перажыло трагедыю чарнобыльскай аварыі. У выніку значнага радыеактыўнага забруджвання навакольнага асяроддзя, у тым ліку і глебы, пакуль няма магчымасці праводзіць археалагічныя раскопкі помнікаў Усходняга і Цэнтральнага Палесся. Безумоўна, гэта велізарная страта для археалогіі. Новыя супрацьпаводкавыя мерапрыемствы ў басейне р. Прыпяць, акрамя экалагічных змен, прывядуць да непапраўных страт у сферы нацыянальнага гістарычнага багацця, што ў сваю чаргу адмоўна паўплывае на духоўны стан нашага грамадства.**

**М. КРЫВАЛЬЦЭВІЧ,**
**археолаг, навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР.**

## РАДАВАЦЦА ЖЫЦЦЮ

**Сёння перабірала свой архіў: лісты, рэпертуар, праграмы і напаткала старонку газеты «Літаратура і мастацтва» за 24 красавіка 1977 года з вершамі маёй любімай паэткі Еўдакіі Лось. Урыўкі з паэмы, якую яна, напэўна, пачынала пісаць ужо пасля аперацыі.**

**Перачытала некалькі разоў, і сэрца зашчымела ад болю. Як рана яна адышла ад нас, як многа яна магла б напісаць захапляючага, непаўторнага.**

**Паэма называецца «З белых пялёсткаў». Колькі хараства, колькі захаплення вясной! Якая лірычная туга па пражытым і перажытым!**

**А яе вясна адышла, адцвіла. Паэтка расказвае нам, што і яе вясна была цудоўнай, з каханнем, з бэзам...**

**Падумалася аб тым, як трэба берагчы чалавека, асабліва таленавітага. Талент — гэта народнае багацце. Калі яна была з намі, думалася, што яна заўсёды будзе. Будзе са сваім талентам, са сваім нялёгкім характарам, са сваімі звычкамі, са сваёй непрымірымасцю да глупства, ра розных нашых недахопаў, якія зміналі і замінаюць нам — радавацца жыццю, радавацца таму, што прыходзіць вясна, што цвіце бэз... У паэткі шчыміць сэрца ад таго, што мы не заўсёды бачым гэтае хараство. Жыццё вучыць кахаць, быць верным, добрым, а нам усё нешта замінае. Чалавек! Радуйся, што свеціць сонца, што трава зялёная, а неба блакітнае.**

**А колькі мацярынскай пяшчоты ў паэткі да сына! Як яна спадзяецца, што яе «родны бацянок» будзе добрым, ласкавым, разумным...**

**Перачытайце разам са мной гэтыя радкі:**

...Маладая, маладая.
Ужо тады магла шчаслівай быць.
Вясна людзей каханню навучае.
А хто ж любоўю вучыць даражыць?

**Ганна РЫЖКОВА,**
**заслужаная артыстка БССР.**

## СЦЕЖКАМІ ПЕСНЯРОЎ

**Выстаўка «Памятныя літаратурныя мясціны ў творчасці беларускіх мастакоў» працуе ў Траецкім прадмесці, дзе знаходзіцца выставачная зала Аб'яднання дзяржаўных музеяў г. Мінска. Свае экспанаты прапанавалі ёй літаратурныя музеі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча.**

**Незабыўны воблік Купалы прыцягнуў увагу М. Купавы. На выстаўцы можна ўбачыць яго лінарыты «Мінск. Былая кафедральная плошча», «Вільня. Тут жыў і працаваў Я. Купала...», «Фальварак Акопы...»**

**«Зямля паэта. Вязынка — радзіма Я. Купалы» — гэтае палатно Г. Вашчанкі вабіць кантрастам фарбаў, выразнасцю малюнка. Купалаўскімі мясцінамі прайшоў у свой час і Л. Ран — «Прудзішча», «Хата арандатара», «Яхімоўшчына», «Селішча»...**

**«Леснічоўка Альбуць», «Бервянец», «Люсінскае наваколле», «Смольня» — гэтыя і іншыя карціны У. Сулкоўскага, як відаць з іх назваў, вяртаюць у мясціны, якія памятаюць Якуба Коласа. Коласаўскую тэму працягвае і серыя М. Купавы «Коласаўскія мясціны ў Беларусі».**

**П. Масленнікаў запрашае туды, дзе прайшло маленства А. Пашкевіч і дзе правяла яна свае апошнія дні, — «На радзіме Цёткі». «Старая Ялта» П. Крахалёва — спроба ўзнавіць воблік горада такім, якім запомніўся ён М. Багдановічу.**

**На выстаўцы прадстаўлены таксама творы А. Кашкурэвіча, Ю. Пучынскага, С. Катковай, Л. Лейтмана, І. Бархаткова, Б. Малкіна, П. Сергіевіча, Ю. Тышкевіча, М. Карпука, Ю. Нежуры, Я. Раманоўскага, А. Кроля і інш.**

**НАШ КАР.**

# Дачка Расіі

Яна нарадзілася 26 верасня 1892 года ў Маскве... Сёння Марыну Іванаўну Цвятаеву — паэта глыбокага і складанага таленту — ведаюць усе, хто шануе літаратурную класіку. Крытыкі і даследчыкі рускай лірыкі, як да ўсплёску маланак, звяртаюцца да цвятаеўскага рамантызму, да фальклярызаваных рытмаў яе вершаў. Мужныя і трагічныя, пранізаныя смагай жыцця і любові да Радзімы, цвятаеўскія радкі хвалююць і мяне сваёй непаўторнасцю вобразаў, складанасцю і драматызмам сюжэтаў, праўдзіва - эмацыянальнай сілай пачуццяў.

Чалавечая і паэтычная несумяшчальнасць Марыны Цвятаевай з абставінамі жыцця асудзілі яе на адзіноцтва. Але гэта было гордае і горкае адзіноцтва мужнай жанчыны ў супярэчлівым і трывожным свеце. Вытокі цвятаеўскага характару — у любові да айчыны, да Расіі, да рускай гісторыі, да рускага слова. Яна пранесла гэтую любоў праз усе свае памылкі, блуканні і бядоты, на якія сама сябе выракла свядома і якімі ўзнагародзіў яе за ўсё гэта ўласны лёс. Яна выпакутавала гэту любоў. Шлях Марыны Цвятаевай адзначаны знакамі высокай любові-віны. любові-адданасці, любові-незалежнасці...

Як я звярнулася да перакладаў вершаў Марыны Цвятаевай? Такая мара нараджалася і выспельвалася ўва мне, калі я жыла і працавала яшчэ ў Наваполацку. Восенню 1977 года праездам пабывала каля дзвюх азёрных мясцін паўночнай Віцебшчыны — на ўскрайку вёсак Друйка і Відза. Запомніўся яркі вераснёўскі перазвон лістоты. І маўклівы, да сціпласці незаўважны, гранітны надпіс:

Эфрон
Георгій Сяргеевіч
загінуў у ліпені 1944

Дык гэта ж неўтаймаваны Мур — сын Марыны Цвятаевай. Сумленнае імя Георгія вярнуў з забыцця і паведаміў сучаснікам падпалкоўнік Савецкай Арміі С. В. Грыбанаў (у 1975 г. пра гэта пісаў друк).

Значыць, 19-гадовы юнак загінуў пры вызваленні ад фашысцкіх захопнікаў беларускай зямлі, так і не пабачыўшы старажытнаслаўнага Полацка... А дарога паўз нерухомы салдацкі абеліск зноў вядзе да белатварай Сафіі і паўнаводнай, як гісторыя і чалавечая памяць, Дзвіны.

Прапаную беларускаму чытачу вершы Марыны Цвятаевай у сваіх перакладах.

Валянціна АКОЛАВА.

## Марына ЦВЯТАЕВА

●

Радкі растуць, як зоркі і як ружы,
Як прыгажосць, што лішняя ў сям'і.
І на пытанні, што ля вуснаў кружаць,
Адказ адзіны, мудры свет, прымі:

Калі мы спім — то праз каменняў пліты
Ідуць да кветак кропелькі расы.
Свет, знай, што спевакам у сне
адкрыты —
Закон святла і формула красы.

### Лучына

Да Эйфелевай — рукою
Дастанеш. Смялей ідзі...
Мы бачылі й не такое,
Падумаеш, гэткі здзіў!

І нудным у небе сінім
Здаецца нам ваш Парыж,
«Расія, мая Расія,
Чаму так ярка гарыш?»

●

Калі я гляджу на асенняе лісце,
Што вецер змятае на брук камянёў,
Здаецца: мастак самай яркаю кісцю
Карціну ля двух дамалёўваў агнёў.

І думка адна: што ніякае справы
Нікому цяпер да майго пачуцця...
І жоўты — наяве, рашуча іржавы,
Трапечацца ліст на вяршыні жыцця.

●

Цыганская страсць разлукі!
Сустрэнеш — і зноў ад воч...
Лоб мой упаў на рукі,
А думкі вартуюць ноч:

Той, хто пісьмы чытае
Чужыя — ці рыме віну,
Гвалтам калі ў іх шукае
Пачуццяў жывых глыбіню?

●

Калі душа народжана крылатай —
Навошта ёй харомы альбо хаты?!
І Чынгісхан з ардой яе міне...
На свеце ёсць два ворагі ў мяне:
Браты два родных — кроўныя блізняты —
Галодных голад, сытасць у багатых.

●

Для маіх вершаў, складзеных так рана,
Калі й не ведала, што я паэт,
Імклівых, нібы пырскі ад фантана,
Ці іскры з-пад ракет,

Для маіх вершаў, што, як чарцяняты,
Праніклі ў храм, дзе сон і фіміям,
Напісаных пра май жыцця і страты, —
І — невядомых вам!

Што пыляцца на складах магазінаў,
(Дзе кніг ніхто не возьме і не браў) —
Для маіх вершаў, як каштоўных вінаў, —
Час пробы не настаў.

### Бяссонніца

З чыстай ласкай, без аглядкі,
Нехта цінькае ў сасне.
Чарнабровае дзіцятка
Мне прымроілася ў сне.

Так вось з чырвані-сасонкі
Жаркай капае смала.
Так вось ноччу стрункай тонкай
Рэжа сэрца кроў-піла.

### Бабулі

Прадаўгаватага твару авал,
Чорнай суконкі раструбы...
Свеце бабуля, а хто цалаваў
Вашы дзявочыя губы?

Рукі, што ў ноч адмыкалі замкі,
Вальсы Шапэна ігралі...
Музыка лёсу гучыць праз вякі,
Локанаў свецяць спіралі.

Цёмны, круты і суровы пагляд,
Да абароны гатовы.
Так не глядзяць маладзіцы назад.
Свеце бабуля, ды хто вы?

Колькі магчымасцей вы не змаглі?
І немагчымасцей колькі
Канула ў вечную прорву зямлі,
Дваццацівёсная полька?!

Дзень невіноўны быў, вецер быў свеж,
Цёмныя зоры паснулі.
Свеце бабуля, пачуццяў мяцеж
Вы свой мне ў сэрца лінулі?

●

Ты ўчора ўсё ў мой бок глядзеў,
А сёння — позіркі раскосыя!
Ты ўчора ноч са мной сядзеў,
А сёння сэрцы — безгалосыя.

Разумны ты. Дурніца я.
Жывы, а я — нібы распятая.
За ўсіх жанчын віна мая:
«А ў чым, мой любы, вінавата я?!»

І слёзы ёй — вада, кроў — боль,
Вада — крывёй, слязьмі памылася.
Ці ж маці? Мачыха — любоў:
— Суда не знае і ні міласці.

Развозяць мілых караблі.
Дарога зімамі зацятая.
І стогн стаіць па ўсёй зямлі
«А ў чым, мой любы, вінавата я?!»

Ты ўчора ж каля ног ляжаў,
Раўняў з кітайскаю дзяржаваю.
Раптоўна ручанькі разняў...
Лёс, як капейка стаў іржавая?

Дзетазабойцай на судзе
Стаю нямілая, заклятая.
І ў пекле вырвецца з грудзей:
«А ў чым, мой любы, вінавата я?!»

Спытаю стул, начлежны дом
За што цярплю, гаротная?
Адцалаваў цішком, тайком.
Другую лашчыш... Я ж свабодная?

Жыць прывучыў мяне ў агні.
З ільдамі стэпу я засватана!
Вось колькі, любы, усёй віны!
«А ў чым, мой любы, вінавата я?!»

Хай цень ступае за табой!
Мой крок цяпер не палюбоўніцы.
Дзе адступаецца любоў,
Туды прыходзіць смерць-садоўніца.

Спадуць на дол і карані,
Плады ад яблыні багатыя...

За ўсё даруй, за ўсё віні,
«А ў чым, мой любы, вінавата я?!»

# ПАЗІЦЫЯ

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 4).

роў. Заставалася толькі памыць вокны. На балконах жа былі рамы. Усе аднаго колеру, аднаго фасону.

Побач, здаецца, жывём, а крышачку не так...

●

Малочнатаварная ферма. У мяне тут літаратурнае выступленне. Чакаем у цесным пакойчыку адпачынку, калі збяруцца жанчыны. Прыходзяць, садзяцца. Старшыня калгаса дастаў з кішэні невялічкі карабок, паклаў на стол, сабраўся з думкамі, крэкнуў, пастараўся ўсміхнуцца, ціха сказаў:

— Жанчыны, сёння ў нас імяніннiца. Хто б, вы думалі? Не здагадваецеся?

Па тварах жанчын прабегла ажыўленне, яны пераглянуліся, паціснулі плячамі.

— Вера Сяргееўна...

Усе глядзелі на жанчыну, хударлявую, маленькага расточку, з густымі маршчынкамі на твары: яна забілася ў куток, здзіўлена паглядала то на старшыню, то на сяброўак — таксама, відаць, не разумела, якая яна імяніннiца. Толькі ж вунь, праўда, карабок на стале...

Пад воплескі старшыня прышпіліў Веры Сяргееўне медаль да жакецiка, паціснуў руку.

— Малайчына ты, Вера Сяргееўна, — сказаў старшыня. — Малайчына. З вайны, як помню, працуеш на ферме. Тваім рукам, дарагая наша, цаны няма. Маладзейшыя не помняць, як працавалася тады на ферме. Цяпер што — апарат падключыў... Ведаеце самі, як цяпер... Ну што ж, дазволь цябе яшчэ раз павіншаваць з медалём «Ветэран працы», Вера Сяргееўна...

Жанчына ж, на маё здзіўленне, захліпала, сарамліва выціраючы даланёю твар. Старшыня адчуў сябе крыху ніякавата, пераглянуўся з даяркамі: што гэта з нашым ветэранам?

А Вера Сяргееўна дрыготкімі вуснамі шаптала:

— Гэта ж, старшынёк, кароўка мая захварэла... ага... Лыска... Другі дзень даіцца не дае... з малаком ходзіць... Ага...

●

Першым рэйсам аўтобус адпраўляецца ў маю вёску заўсёды крыху са спазненнем. Пакуль вадзіцель уладкуе ў дыспетчарскай свае папяровыя справы, пакуль праверыць у пасажыраў білеты, павагаецца, браць ці не браць тых, у каго іх няма, — глядзіш, і былі б ужо дзе-небудзь за горадам...

Аднак людзі прыходзяць на вакзал усё роўна к прызначанаму часу, а то і раней: мала верацьтаму «запасу», стараюцца ўсе — хто на таксі, а хто і пехам, бо гарадскі транспарт толькі праз паўгадзіны будзе на лініі, дабрацца.

Многіх пасажыраў я ўжо добра запомніў у твар. Яны амаль кожным выхадным днём спяшаюцца ў вёску, да бацькоў, каб дапамагчы тым за дзень-другі ўправіцца па гаспадарцы, зрабіць нейкую набеглую справу. А спраў хапае заўсёды, толькі і паспявай прыкладваць рукі.

Вядома ж, прыкмеціў ужо, хто з чым наносіць візіты на бацькоўскае селішча. Адны цягнуць пузатыя сумкі-партфелі, як правіла, — хлопцы. Сёй-той трымае рукі ў кішэнях. А ў жанчын — было б сорак рук, і іх не хапіла б.

Але з усіх, хто ад'язджаў са мной у аўтобусе, відаць, надоўга запомніцца маладая дзяўчына. Прывабная з твару, рослая; валасы ільняной касой збягалі з-пад шапкі-вязанкі на лёгкае дэмісезоннае паліто.

Толькі не прывабнасцю запомнілася дзяўчына. Кожны раз яна заходзіла ў аўтобус з цяжкаватай сумкай і з адной і той жа блакітнай авоськай, у якой месціўся даволі ладны мяшэчак. Калі яна прабіралася да свайго месца, то знячэўку чаплялася за сядзенні і людзей, і было чуваць тады, як у тым мяшэчку нешта цёрлася, крышылася.

Апошнім разам нашы месцы аказаліся побач, і ўжо ў дарозе я ўсё ж нясмела пацікавіўся:

— Прабачце, калі не сакрэт... Што гэта вы возіце ў адным і тым жа мяшэчку?

— Які сакрэт... — ажывілася дзяўчына, бліснула ў паўзмроку вачамі. — Хлеб важу. Чэрствы... За тыдзень, а калі і за два ў інтэрнаце назбіраецца — не выкідваць жа! Дзяўчаткі з іншых пакояў, праўда, кавалкі ды скарынкі ў вядро са смеццем звальваюць, а я — на газетку... Бывае, што недаясі, не заўсёды ж разлічыш, колькі яго купіць: які калі настрой, такі і апетыт... А ў вёсцы маці жыўнасць трымае...

Мяшэчак той з хлебам стаяў побач са мной, і я падціснуў яго бліжэй да сябе, каб дзяўчыне было зручней сядзець.

●

Еду ў гарадскім аўтобусе. Людзей у салоне шмат. Модна апранутыя. З авоськамі, папкамі, дыпламатамі. Іншыя чытаюць газеты. Вялікімі літарамі загаловак: «Перабудова — справа кожнага!»

Канчатковы прыпынак. Вадзіцель праехаў крышачку далей, ветліва аб'явіў:

— Таварышы, падрыхтуйцеся да праверкі талонаў...

І што тут пачалося!

— Адчыняй заднія дзверы, гавару!

— Я на поезд спазняюся, а ты праверку ўздумаў. Выпускай, нягоднік! Ну!

— Выдумляюць праверкі розныя, самадуры! Якое ты права маеш людзям не давяраць?

— Я нумар запомню — не паздаровіцца!..

Нехта заступіўся за вадзіцеля:

— Чаму вы накінуліся на чалавека? Ён жа пры выкананні...

— Яшчэ цябе тут не хапала, разумная!

Модна апранутыя, прыгожыя з твару людзі, якімі былі яны некалькі хвілін назад, сталі нервовыя, злыя, і мне зрабілася шкада іх.

Пашкадаваў пятак і пасажыр, з выглядам адукаванага чалавека, які чытаў газету. Пра перабудову, дарэчы, чытаў артыкул...

●

Мая суседка Галіна Архіпаўна Чупрына працуе ў магазіне радавым прадаўцом. Там у іх брыгадны падрад, і жанчыне часта даводзіцца сядзець на касе. Прыходзіць з працы заўсёды стомленая, а тут яшчэ людзі давядуць.

Учора суседка расказвала:

— Цяпер з цукрам гэтым неразбярыха. Лета, усе вараць варэнне, кампоты. Самагонку гоняць — даўно працую, ведаю, хто што варыць... Каманда паступіла ад загадчыцы: адпускаць па адным пакеціку на рукі. Адпускаю. Не ж, знойдзецца нехта, хто сапсуе настрой, крычаць пачне: «Колькі Савецкай уладзе, а цукру нельга ўзяць уволю!» Дык і гавару ў адказ, што колькі Савецкай уладзе, а самагоншчыкі не пераваліся. Не чуюць. Маўчаць. Адзін дзядзька тры кілаграмы падносіць. Нельга, гавару. «А вунь жонка!» Гляджу, стаіць жанчына, ківае. Ну, а трэці пакет — каму? «Дзіцёнак у машыне, ды і кіньце вы прыдзірацца!» Я што — бачу вашага дзіцёнка? Паказвайце. Прыносяць. Ён, дзіцёнак той, і хадзіць яшчэ не ўмее. Але ж — чалавек, трэба разумець. Атрымлівайце тры пакеты. Не ж, усё роўна кнігу скаргаў патрабуе. «Вы мяне абразілі! Я, ведаеце, кім працую?!» Падала кнігу скаргаў. Не маю права не падаць. Толькі вось каб і для нас хто кніжку прыдумаў — на пакупнікоў пісаць. Няма такой. А раз няма, то пакупнік заўсёды можа цябе абразіць, выставіць дурнем перад дзецьмі, знаёмымі, кім заўгодна назваць-абазваць. А каму мне паскардзіцца? Калі толькі вось вам, суседзям.

Галіна Архіпаўна расказвае новую гісторыю...

●

Луг пад Веццю. Непадалёк Дняпро. Цудоўныя мясціны. Едуць і едуць на выхадныя дні людзі. Больш за ўсё — з Магілёва. Ловяць рыбу, гуляюць у валейбол, футбол, бадмінтон. А дзед Сямён скардзіцца мне:

— Ну, і што яны робяць, неслухі? Утопчуць жа траву!

Ён не вартаўнік, не, ён — селянін, вясковец, і яму баліць, калі дзе не так з зямлёй. Папракае:

— Адабраць бы ў іх легкавушкі, калі дарогі не бачаць!

Глядзім на луг, спачуваем лугу. Наўсцяж — сляды. Калі б толькі ад нагі чалавека. Ад легкавушак! Сляды глыбокія — каляіны, трава ўперамешку з зямлёю, гіне. Налічваем каля дзесяці такіх слядоў, не ходзячы далёка. А калі ўвесь луг абысці? А калі ўсе лугі?

## ПОЗІРК У МІНУЛАЕ

# «Вездѣ характеръ виденъ твой...»

У гісторыі беларускай лексікаграфіі 1870 год займае асаблівае месца. У гэтым годзе друкарняй імператарскай Акадэміі навук на Васільеўскім востраве ў Санкт-Пецярбурзе быў выдадзены «Словаръ бѣлорусского нарѣчія». І. Насовіча. Слоўнік, у якім сабрана і растлумачана звыш 30 тысяч слоў жывой беларускай мовы, з'явіўся вяршыняй збіральніцкай і навуковай дзейнасці І. Насовіча. Ён быў першым грунтоўным даследаваннем у галіне беларускай лексікаграфіі і стаў сапраўды знамянальнай падзеяй у жыцці беларускага народа, з'явай выключнай важнасці, якая заклала асновы для глыбокага і ўсебаковага вывучэння беларускай мовы.

Іван Іванавіч Насовіч нарадзіўся ў 1788 годзе на Магілёўшчыне ў сям'і свяшчэнніка. Пасля заканчэння ў 1812 г. Магілёўскай духоўнай семінарыі ён на працягу 32 гадоў працаваў на розных пасадах у духоўных і дваранскіх вучылішчах, гімназіях Мінскай, Гродзенскай і Віленскай губерній. У 1844 годзе атрымаў адстаўку і пасяліўся ў Мсціславе. 56-гадовы настаўнік заняўся навуковай сістэматызацыяй і апрацоўкай матэрыялаў па беларускай мове, фальклоры і этнаграфіі. З успамінаў яго сына Васіля Іванавіча перад намі паўстае воблік незвычайна працавітага і апантанага даследчыка, які не шкадаваў ні сіл, ні сродкаў, ездзіў у розныя мясцовасці, каб толькі папоўніць свае запісы. Не маючы ні спецыяльнай філалагічнай адукацыі, ні вучоных ступеняў і званняў, ён тым не менш здолеў стварыць так многа, што і зараз не перастаеш здзіўляцца працавітасці гэтага чалавека.

Збіраць матэрыялы для тлумачальнага слоўніка беларускай мовы І. Насовіч пачаў адразу ж пасля выхаду ў адстаўку. Ужо ў 1850 годзе ён дасылае ў Аддзяленне рускай мовы і славеснасці Акадэміі навук сваё першае даследаванне, у якое ўвайшлі «Опыт краткого филологического наблюдения о белорусском наречии», «Собрание белорусских слов по алфавиту» і «Сборник белорусских пословиц (1000)». Праз два гады падборка беларускіх прыказак і прымавак, а таксама невялікі слоўнічак да іх (227 адзінак) былі апублікаваны. З гэтага часу і пачынаецца сталая філалагічная работа вучонага.

Слоўніку беларускай мовы папярэднічаў яшчэ і слоўнік старажытнай беларускай мовы — «Алфавитный указатель старинных белорусских слов, извлечённых из актов, относящихся к истории Западной России», якому ў 1865 годзе была прысуджана Увараўская прэмія Акадэміі навук. Гэтыя лексікаграфічныя работы дазволілі вучонаму дасканала авалодаць майстэрствам лексікографа, дапамагалі выпрацаваць найбольш важныя крытэрыі адбору і тлумачэння слоў.

З 1848 г. І. Насовіч не пераставаў хадайнічаць перад Акадэміяй навук, каб атрымаць афіцыйную згоду на складанне слоўніка жывой народнай мовы. Нарэшце ў 1861 годзе яму было прапанавана падаць слоўнік на конкурс. У 1863 годзе слоўнік быў канчаткова падрыхтаваны да друку і прадстаўлены на конкурс на атрыманне Дзямідаўскай прэміі. Слоўнік атрымаў высокую ацэнку ў вучоным свеце. Вядомы рускі славіст М. Шапіра, напрыклад, лічыў, што «ён можа служыць найлепшым упрыгожаннем рускай вучонай літаратуры». Аднак зайздросныя рэцэнзенты і нядобразычліва настроеныя члены камісій, нягледзячы на бездакорна выкананую работу, прысудзілі І. Насовічу толькі палавінную Дзямідаўскую прэмію (714 рублёў).

Яшчэ цяжэй прабівалася справа з друкаваннем слоўніка. Цэлых восем год праходзіла яго рэдагаванне. Па некалькі разоў мяняліся навуковыя рэдактары, па-рознаму глядзелі яны і на сам факт выдання гэтай капітальнай лексікаграфічнай працы. Справа ў тым, што ў XIX ст. у поглядах на характар беларускай мовы не было адзінства. Адны даследчыкі (М. Максімовіч, М. Надзеждзін) лічылі яе самастойнай славянскай мовай, другія (А. Сабалеўскі, І. Сразнеўскі) разглядалі беларускую мову як своеасаблівае «наречие» рускай або польскай мовы. Дарэчы, нават акадэмік Я. Ф. Карскі доўгі час пазбягаў тэрміна «беларуская мова». Тым не менш ігнараваць факт велізарнай колькасці помнікаў старажытнай беларускай пісьменнасці, самабытнага фальклору, першых паэтычных і празаічных твораў беларускай мастацкай літаратуры ў другой палавіне XIX ст. было нельга. Сам І. Насовіч беларускую мову разглядаў як самастойную славянскую мову з уласцівымі ёй лексічнай сістэмай і граматычным ладам. Аднак рэцэнзенты і рэдактары слоўніка былі на пазіцыях царскага самадзяржаўя, якое не прызнавала за беларусамі права на самастойнасць, усяляк перашкаджала развіццю нацыянальных традыцый. Нарэшце ў 1870 годзе І. Насовіч атрымаў сваю самую вялікую працу.

Першае ж знаёмства са слоўнікам выклікала незадавальненне аўтара. Сваё абурэнне ён выказаў у форме паэтычнага дыялогу. Аўтограф гэтага верша-эпіграмы ў цяперашні час знаходзіцца ў адным з экземпляраў слоўніка, які захоўваецца ў аддзеле рэдкай кнігі бібліятэкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Тэкст напісаны на рускай мове чорным чарнілам згодна патрабаванням тагачаснай арфаграфіі. Уклеены ў слоўнік ліст некалькі пажаўцеў ад часу, але чытаецца напісанае даволі лёгка:

**Явка Бѣлорусского словаря**
**по выходѣ изъ печати**
**къ своему въ Мстиславлѣ**
**Автору.**

**Словарь:**

Здоровъ, панъ!

**Авторъ:**

Ба! изъ Петербурга.
Чтожъ это? Ты, братъ, сталъ курносъ!
Не ужъ-то ты въ рукахъ хирурга
Оставил свой Кривичскій носъ? (Предисловие).

**Словарь:**

Мой носъ сорвалъ къ какой-то цѣли
И спряталъ у своей портфели
Членъ Академіи Зоил.*
Къ моей-же сжалясь кто-то рожѣ
На носъ кривичскій не похоже
Красивый носикъ приклеилъ.

**Авторъ:**

Пустъ такъ! Ты въ немъ похожъ на франта
Физіогномія-жъ не та!
Кривичскій носъ былъ носъ гиганта,
Породы всѣхъ славянъ черта.
А тутъ не видно, съ кѣмъ сътродни ты!
Твои какъ будто черты слиты
Съ физіогноміей чужой,
Вліянье польское ничтожно
Тебѣ приписано здѣсь ложно —
Вездѣ характеръ виденъ твой.

Ив. Носович.
1870 г.

* И. И. Срезневский

У гэтым вершы-эпіграме выключна ўдала перададзены гнеў і абурэнне аўтара пазіцыяй выдаўцоў і аднаго з рэдактараў слоўніка — акадэміка І. Сразнеўскага, які са слоўніка беларускай мовы зрабіў нешта блізкае да слоўніка польскай мовы. Аднак І. Насовіч усё расставіў па сваіх месцах.

На вокладцы слоўніка наклееены экслібрыс з сілуэтам чалавека за кнігай і надпісам «Библиотека С. Л. Дроздова». У розных месцах кнігі ёсць яшчэ пяць адбіткаў у выглядзе эліпса з такім жа надпісам. Як лічыць загадчыца аддзела рэдкай кнігі Л. Міцкевіч, гэты экземпляр разам з двума іншымі экземплярамі слоўніка бібліятэка атрымала яшчэ ў даваенны час. Іншыя кнігі з такім экслібрысам у фондзе бібліятэкі не знойдзены.

26 верасня (7 кастрычніка) г. г. будзе адзначацца 200-годдзе з дня нараджэння І. Насовіча. Няпростым было жыццё ў гэтага па-сялянску спакойнага і трохі паўнаватага з выгляду чалавека. Але ў навуцы ён назаўсёды застанецца рашучым і непахісным вучоным, які да канца стаяў на сваім, верыў у лепшую долю роднага слова. Яго слоўнік беларускай мовы, як і прыгаданы тут верш-эпіграма на яго выхад з друку, выклікае ў нас пачуццё глыбокай пашаны перад навуковым подзвігам аднаго з лепшых сыноў Беларусі.

**М. ПРЫГОДЗІЧ,**
**кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры беларускай мовы БДУ імя У. І. Леніна.**




## З 8 ПА 14 ЖНІЎНЯ

**8 жніўня, 19.20**

**«ЗАЧЫТАЙЦЕ МАЕ ПІСЬМО...»**

Агляд крытычнай пошты за тыдзень.

**8 жніўня, 19.50**

**«МУЗЫКА МАЕЙ РЭСПУБЛІКІ»**

Канцэрт салістаў і камерна-інструментальнага ансамбля Беларускага тэлебачання і радыё.

У праграме — творы Чуркіна, Іванова, Кур'яна, Прохарава. Салісты: заслужаныя артысты рэспублікі Л. Барткевіч, Г. Радзько, артыстка Т. Пячынская.

Мастацкі кіраўнік — Я. Валасюк.

Вядучая — музычны каментатар Э. Язерская.

**9 жніўня, 21.50**

**«ЛІРА»**

Мастацка-публіцыстычная праграма аб праблемах узаемаадносін прафесійнага і аматарскага мастацтва.

**10 жніўня, 19.55**

**«ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ...»**

Вершы Я. Купалы чытае Ф. Варанецкі.

**12 жніўня, 19.50**

**«ДЗВІНА»**

Літаратурна-мастацкі часопіс. На яго старонках — расказ Р. Барадуліна пра У. Караткевіча ў сувязі з наданнем яго імя адной з вуліц Віцебска; самадзейны мастак І. Сазонаў разважае аб праблемах самадзейнага мастацтва; пра адносіны да архітэктурнай спадчыны гаворыць Ю. Якімовіч; успамінамі пра трагічны лёс беларускага паэта Т. Кляшторнага дзеліцца яго дачка Т. Кляшторная.

**13 жніўня, 14.20**

**«ЖЫВОЕ ДРЭВА МУЗЫКІ»**

Ф. Шапэн. 24 прэлюдыі для фартэпіяна.

Выканаўца — лаўрэат міжнароднага конкурсу Я. Магілеўскі.

Вядучая — музыказнаўца Л. Барадзіна.

**13 жніўня, 16.55**

**«ЛІТАРАТУРА І СУЧАСНАСЦЬ»**

У перадачы прымаюць удзел І. Чыгрынаў, У. Арлоў, Л. Караічаў.

Вядучы — А. Шабалін.

**13 жніўня, 17.40**

**«ЖЫЦЦЯ ВЫМЯРЭННІ»**

Кампазітар А. Багатыроў. Да 75-годдзя з дня нараджэння.

Прагучаць фрагменты оперы «У пушчах Палесся», Першай і Другой сімфоній, канцэрта для віяланчэлі з аркестрам, араторыі «Бітва за Беларусь», кантата «Беларускім партызанам», беларускія песні і рамансы на вершы Шэкспіра і Багдановіча, п'еса для фартэпіяна «Роздум».

**13 жніўня, 23.15**

**ВЯЧЭРНІ КАНЦЭРТ.**

Выступае вакальна-інструментальны ансамбль «Сіняя птушка».

**14 жніўня, 15.15**

**ПРЭМ'ЕРА ПЕСНІ.**

У. Браілоўскі. В. Аколава. «Дзявочая песня».

**14 жніўня, 15.40**

**ЗАПРАШАЕ ЧАСОПІС «БЕЛАРУСЬ».**

Вядучы — А. Шабалін.

**14 жніўня, 17.25**

**«ЭКРАН: ПРАБЛЕМЫ, ГЕРОІ»**

Сустрэча з лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі СССР кінарэжысёрам-мультыплікатарам Ю. Нарштэйнам.

**14 жніўня, 18.15**

**«КУРАПАТЫ. ЛІПЕНЬ 1988».**

Рэпартаж.

**14 жніўня, 18.35**

**СТАРАДАЎНІЯ РУСКІЯ РАМАНСЫ**

выконвае салістка Дзяржтэлерадыё БССР Т. Пячынская.

**14 жніўня, 22.55**

**«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ»**

Інфармацыйна-музычная праграма.

*Наступны нумар «Літаратуры і мастацтва» выйдзе 19 жніўня.*

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856
АТ 03412
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 32-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.

Матэрыялы прымаюцца надрукаванымі на машынцы (праз два інтэрвалы). Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.